УДК [908+821.161.3.09](476.6)
ББК 63.3(4Беи)
Ч11

**Чыгрын, С.**
**Ч11** Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны : артыкулы, гутаркі / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 148 с.

ISBN 978-985-7057-19-1.

У кнігу беларускага пісьменніка, гісторыка і краязнаўца Сяргея Чыгрына ўвайшлі артыкулы, прысвечаныя Зэльвеншчыне, яе гісторыі, людзям і помнікам. Яны былі напісаны падчас вандровак па зэльвенскім краі.

**УДК [908+821.161.3.09](476.6)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-19-1**

## «МЯДОВЫ МЕСЯЦ» У ЗЭЛЬВЕ

Зэльва — невялічкі гарадок у Гродзенскай вобласці, што раскінуўся на левым беразе ракі Зальвянкі (прыток Нёмана).

Упершыню Зэльва ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у XVI стагоддзі. Яна ўваходзіла ў склад Гродзенскай каралеўскай эканоміі і належала Сапегам. У 1831 годзе Зэльва за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830–1831 гадоў была канфіскавана і перададзена ў казну…

Ад чаго паходзіць назва гэтага прынёманскага гарадка? Адзінай думкі тут няма. Адны сцвярджаюць, што назва «Зэльва» — ад літоўскага слова «жалёй» — зялёная. Пра гэта добра сказаў і зэльвенскі паэт Уладзімір Мазго:

Яшчэ прабабкі, мусіць,
Шукалі лекі ў зеллі.
Лістотай захлынуся
У зеляніне — Зэльва…

Другія ж мяркуюць, што назва мястэчка пайшла ад князёў Сапегаў, якія ў той час валодалі ім. У маёнтку Сапегаў была алея, па баках якой былі скульптуры ільвоў з адкрытай пашчай — «зевам». Адсюль і Зэльва — «зеў льва». Але, мусіць, бліжэй да ісціны ўсё ж першае меркаванне.

На працягу некалькіх стагоддзяў у Зэльве, якая з першай паловы XVII стагоддзя адносілася да прыватнаўласніцкіх свецкіх мястэчак, 26 ліпеня, у дзень святой Ганны (Анны), адкрываўся адзін з буйнейшых у Беларусі кірмашоў — Ганненскі.

На пачатку XVII стагоддзя ў мястэчку налічвалася 143 дамы. Зэльва паціху напаўнялася сялянскім, а таксама яўрэйскім насельніцтвам, колькасць якога ў асобных мястэчках дасягала 50 працэнтаў жыхароў. У гэты ж час актывізуецца гандаль. На канец XVIII і першую палову XIX стагоддзяў прыходзіцца найбольшы росквіт Зэльвенскага кірмашу.

Кірмаш адкрываўся 26 ліпеня, праходзіў цэлы месяц, а ў 40-х гадах XIX стагоддзя да 15 жніўня. Аб гэтым, напрыклад, сведчыць табліца са справаздачай Гродзенскага губернатара за 1842 год аб рачным суднаходстве і кірмашах у губерні.

Па сваім размаху Зэльвенскі кірмаш не меў сабе роўных у Беларусі. Асабліва вялікае значэнне ён меў для заходняй часткі ўсходняй Польшчы, а таксама Літвы і паўночных раёнаў Украіны. У свае лепшыя гады гандлёвы абарот кірмашоў даходзіў да 2 мільёнаў рублёў. Толькі адны маскоўскія купцы, напрыклад, прывозілі футраў на мільён злотых.

Велізарны даход мелі ад кірмашу яго ўладальнікі — магнаты Сапегі. Яны штогод атрымлівалі каля 29 тысяч злотых. Добрыя грошы мелі ад кірмашоў і самыя зэльвенцы: напрыклад, у 1830 годзе казна мястэчка атрымала 3488 рублёў асігнацыямі, а жыхары мястэчка з найму дамоў мелі 740 рублёў даходу.

Што ж прывозілі купцы ў Зэльву? Купцы з Расіі, якія прыязджалі амаль заўсёды першымі, прывозілі футра, жалеза, шкло, прыганялі коней. Украінскія купцы, а таксама з балканскіх краін, прывозілі віно, розныя бакалейныя вырабы, масла, тытунь, гарбату. Прыганялі яны і коней, якія карысталіся вялікім попытам у паноў. Дарэчы, конскі торг — адна з характэрных рыс

Зэльвенскага кірмашу. У асобныя гады тут прадавалі па некалькі тысяч коней. У 1840 годзе іх было прададзена на 6074 рублі серабром. Гэта былі ўжо коні ў асноўным з Расіі.

Купцы з далёкіх паўднёва-ўсходніх краін, якія ў пачатку 1920-х гадоў былі абкладзены вялікімі мытнымі пошлінамі, прывозілі ўсё менш і менш сваіх тавараў. Справа ў тым, што іх дарагія тавары выцясняла прадукцыя расійскіх, польскіх, а таксама мясцовых мануфактур. Напрыклад, вялікім поспехам карысталася сукно Слонімскай суконнай фабрыкі сенатара Навасільцава. У ведамасці ваўкавыскага земскага спраўніка Гродзенскай губерні аб Зэльвенскім кірмашы 1830 года ёсць нават спецыяльная заўвага, дзе паведамляецца, што сукна было прададзена больш палавіны і лепшае сукно належала фабрыцы сенатара Навасільцава.

У кнізе П. Баброўскага «Матэрыялы для біяграфіі і статыстыкі Расіі», якая была выдадзена ў Санкт-Пецярбургу ў 1863 годзе, прыводзіцца табліца аб таварах, прывезеных на Зэльвенскі кірмаш у 1857–1859 гадах. У ёй асобна выдзяляюцца купцы Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны і Рыгі. Найбольш тавараў прывезлі беларускія купцы — на 1 272 326 рублёў. Далей ідуць купцы з Польшчы — на 395 530 рублёў, Расіі — на 176 400 рублёў, Украіны — на 149 660 рублёў. Рыжскія купцы прывезлі ўсяго тавараў на 18 460 рублёў. Купцы з Балканаў і іншых краін, як відаць з табліцы, не прыязджалі. Іх дарагія тавары ўжо не канкурыравалі з прадукцыяй мясцовых, а таксама расійскіх, польскіх мануфактур, прадукцыяй рамеснікаў, якія заўсёды ў вялікай колькасці былі на кірмашы і на месцы выконвалі заказы.

З 15 жніўня адкрываўся Свіслацкі кірмаш. І купцы, якія былі заўсёды зацікаўлены ў новых пакупніках, перавозілі свае нераспрададзеныя тавары з Зэльвы ў Свіслач. Але Свіслацкі кірмаш ніколі не рабіў такія багатыя і вялікія зборы, як Зэльвенскі. Гэта, напэўна, можна растлумачыць тым, што ён у нейкай ступені з'яўляўся працягам Зэльвенскага кірмашу, апошнім яго акордам. Так, калі на Зэльвенскі кірмаш у 1845 годзе было прывезена тавараў на 1 017 143 рублі, то на Свіслацкі — на 133 158 рублёў.

Спыняўся кірмаш, і зноўку ўваходзіла Зэльва ў каляю звычайнага мястэчка. А на наступны год яе зноў, як мядовы месяц, чакаў кірмаш.

У 2001 годзе Ганненскі кірмаш у Зэльве атрымаў новае дыханне. Раённае свята стала адным з самых масавых і жаданых для жыхароў і гасцей Зэльвеншчыны.

## ПРЭЗІДЭНТ З ДАБРАСЕЛЬЦАЎ

Да сённяшніх дзён у вёсцы Дабрасельцы Зэльвенскага раёна пражывае шмат сем'яў з прозвішчам Захарка. І некаторыя з іх з'яўляюцца далёкімі і блізкімі сваякамі Васіля Захаркі (1877–1943) — актыўнага палітычнага дзеяча ў перыяд станаўлення беларускай дзяржаўнасці, прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі.

Васіль Захарка нарадзіўся 1 красавіка 1877 года. Маладыя гады былі вельмі цяжкімі. Хлопец хацеў вучыцца, а грошай не хапала, бо бацькі-сяляне былі бедныя. Калі юнаку споўнілася шаснаццаць гадоў, памерлі маці і бацька. Васіль Захарка застаўся круглым сiратою, маючы пад сваёй апекаю сястру і двух братоў. Летам ён вёў гаспадарку, а зімою спрабаваў вучыцца.

У 1895 годзе хлопец з Дабрасельцаў вытрымаў экзамены на настаўніка царкоўнапрыходскай школы і нават атрымаў працу. Але тады ў гэтых школах настаўнікам плацілі вельмі мала, таму праз два гады Васіль звальняецца з працы і ўладкоўваецца пісарам.

У сярэдзіне кастрычніка 1898 года Васіля Захарку забіраюць на вайсковую службу. Чатыры гады ён вучыцца ў ваенна-юнкерскім вучылішчы, а пасля звальняецца як афіцэр запасу. Але з выбухам руска-японскай вайны яго зноў забіраюць на вайсковую службу.

За час службы вайсковец з Зэльвеншчыны набраўся добрага вопыту. У 1906 годзе ён быў справаводам брыгады, у 1914 годзе — памочнікам начальніка аправізацыі арміі Паўночна-заходняга фронту, у 1916 годзе — загадчыкам канцылярыі штабу 10-й арміі. А з красавіка 1917 года — намеснікам старшыні ваеннага суда штаба 10-й арміі.

У канцы кастрычніка 1917 года Васіль Захарка вяртаецца ў Менск і прымае актыўны ўдзел у арганізацыі з'езда беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, а пасля становіцца сакратаром Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

У снежні 1917 года ў Менску адбыўся Першы Усебеларускі кангрэс, дзе спадар Захарка быў абраны сябрам Рады. Калі Кангрэс пачалі разганяць бальшавікі, ён трапляе ў палон. Уцёкшы з палону, Васіль Захарка пачынае разам са сваім сябрам Кастусём Езавітавым арганізоўваць збройнае паўстанне супраць бальшавікоў. 19 лютага 1918 года Менск быў ачышчаны і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі выйшаў з падполля…

У першым урадзе БНР Васіль Захарка займаў становішча дзяржаўнага скарбніка, а пасля меў розныя пасады ў міністэрстве. У 1919 годзе прэзідэнтам Рады

БНР быў абраны Пётр Крэчэўскі, а яго намеснікам стаў Васіль Захарка.

2 чэрвеня 1920 года, калі бальшавікі выказалі жаданне весці перамовы з урадам БНР, В. Захарка быў прызначаны гэтым урадам старшынёй Надзвычайнай Беларускай Дыпламатычнай Місіі. Але не дамовіўшыся з бальшавікамі, Захарка вяртаецца з Масквы і вядзе далейшае змаганне за незалежнасць Беларусі.

У сакавіку 1928 года памірае прэзідэнт Рады БНР Пётр Крэчэўскі. Новым прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі становіцца Васіль Захарка. Гэта быў нялёгкі час як для прэзідэнта, так і для Беларусі. З утварэннем СССР новаму прэзідэнту са сваёй канцылярыяй прыйшлося эмігрыраваць. Васіль Захарка пасяліўся ў сціплай хатцы ў ваколіцы Прагі, хоць чэшскі ўрад з прызнаннем СССР прыпыніў афіцыйныя дыпламатычныя стасункі з БНР. Але прэзідэнт Васіль Захарка не падаў духам і не паддаваўся на розныя правакацыі. Ён, дарэчы, адхіліў таксама ўсе прапановы наконт супрацоўніцтва і з немцамі…

У сваёй кнізе «Споведзь» Ларыса Геніюш успамінае: «З дзядзькам Васілём жылі мы вельмі дружна. Старэнькі любіў заехаць да нас. Ён не спадзяваўся, што з ганарыстага маяго Янкі будзе такі добры муж. Цешыўся гэтым. Янка цікавіўся болей літаратурай і прыгожымі дамамі й зусім мала палітыкай, а дзядзька Васіль толькі палітыкай…» (Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 35).

Далей у «Споведзі» Ларысы Геніюш — самыя сумныя радкі ўспамінаў: «Дзядзька Васіль захварэў на лёгкія. Пад сакрэтам сказала мне пані Крэчэўская, што ягоны нейкі вельмі падазроны кватарант парнуў

яго ў бок нажом… З якой прычыны — магу толькі дадумацца сяньня, калі болей ведаю "мэтады". Дзядзька адмовіўся ад варункаў, якія яму давалі немцы, і яму, і Беларусі, і дрыжучы даставаў дапамогу ад Чырвонага Крыжа й чакаў нядобрага. Ратавала яго, як і доктараГрадзіла, радыё. Дзядзька быў дэмакрат, і аператыўнае мудрае Бі-бі-сі толькі яго й трымала на духу. Ён вельмі баяўся, каб якія самазваныя фюрэры не паявіліся ў нас і не павялі дрэнна палітыкі. Ён пазнаў немцаў і сказаў мне так: "Няма ў нас выбару: альбо — альбо. Калі выйграюць немцы, дык вынішчаць усіх нас, калі выйграюць саветы, дык вынішчаць інтэлігенцыю й асымілююць народ. Але гэта лепей, чымсьці сьмерць усяго народу… Трэцяга выхаду няма…"

У Богніцах за Прагаю ў санаторыі для цяжкахворых туберкулёзам дажываў свой век Васіль Іванавіч Захарка. Толькі я ад яго вярнулася, як за пару дзён атрымала ад яго паштовую картку, запырсканую крывёю. Прасіў мяне: "Донечка, хутчэй прыязджай" і г. д. Прыехала якраз і пані Крэчэўская. Якая сказала мне, што дзядзька вельмі аслаб, у яго горлам кінулася кроў, і ён неадкладна хоча мяне бачыць. Дзядзька даўно ўжо прасіў мяне, каб я часцей да яго наведвалася, ён баяўся іншых людзей, нікога не хацеў бачыць. Дзядзька быў накрыты сваёю коўдраю, белая наўлечка якой была ўся ў крыві. Ён сказаў мне, што прыходзіць канец яго жыцьця, што ён быў адным з тварцоў акту Дваццаць Пятага Сакавіка 1918 г., пасьля сьмерці А. Крэчэўскага зьяўляецца Старшынёй БНР і, як выбраны народам сябра ўраду, адыходзячы, хоча перадаць свае паўнамоцтвы дастойнаму чалавеку. Што рабіць? Няма адпаведнага чалавека, ёсьць толькі такая жанчына, а жанчына ня

можа быць прэзідэнтам. Што ж, гэта быў 1943 год… Не, кажу, так рабіць нельга! Нельга браць у магілу ідэі незалежнасці нашага народу! “Нікому ня веру, донечка. Ёсьць многа людзей, але ў кожнага на некага арыентацыя, а тут трэба быць верным толькі народу. На гэтае становішча я мог бы паставіць толькі цябе, каб ты не была жанчынай”. Тады я запрапанавала Абрамчыка. Я доўга даказвала дзядзьку ўсю паважнасьць, прадбачлівасьць і любоў да Беларусі гэтага чалавека. Я толькі не сказала, што Мікола крыху замяккі, крыху задобры, каб стаць на такое змаганьне. Мікола ведаў мовы, вельмі добра арыентаваўся ў палітыцы, ненавідзеў немцаў, умеў выкарыстаць любую нагоду, каб толькі нешта вартаснае зрабіць для Беларусі. Дзядзька папрасіў падаць яму папер. Я папраўіла яму падушку, ён сеў і пачаў пісаць тэстамэнт, які прасіў мяне перапісаць у трох экзэмплярах на машынцы й назаўтра яму прынесьці. Пані Косач-Шыманоўская, сястра Лэсі Украінкі, хораша перапісала мне гэты тэстамэнт, і назаўтра дзядзька Васіль падпісаў іх, яшчэ папраўіўшы дробныя памылкі. У тэстамэнце Мікола Абрамчык назначаўся Прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі, Ларыса Геніюш — Генеральным Сакратаром БНР. На нас абаіх пераходзіў архіў БНР, які быў у кватэры дзядзькі Васіля…

Я была радая хоць тым, што Мікола мог яшчэ ўбачыць дзядзьку й з яго ўласных рук атрымаць гэты дакумент. Першы экзэмпляр далі мне, другі Міколу, а трэці пакінуў сабе дзядзька Васіль. Ніхто пра гэта нічога не ведаў, усё рабілася тайна…

Спакавалі мы з Міколам пару чамаданаў нашага дзяржаўнага архіву, і ён павёз гэта ўсё да сябе з дум-

кай усё гэта пераправіць у Францыю. Я й да сёньня ня ведаю, як яму й ці яму гэта ўдалося…

А дзядзька згасаў з кожным днём. 13 сакавіка 43-га года ў нядзелю я наведала яго. Заўважыла, што яго перавялі да найцяжэйшых хворых. Ляжаў ён жоўты, слабы. Хацеў, каб падалі яму судна. Я папрасіла, каб не ўстыдаўся мяне, ён ужо мала на што рэагаваў. Прасіў толькі, каб я так хуценька не хадзіла, каб крыху прысела ля яго. Аддаў мне свой экзэмпляр тэстамэнту й папрасіў, каб гадзіньнік яго я пакінула сабе. Я яму абяцала гэта. Мы разьвіталіся…» (Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 53–61).

14 сакавіка 1943 года Васіля Захаркі не стала. Пахаванне яго адбылося на Альшанскіх могілках у Празе, якая была акупавана немцамі. Развітацца з прэзідэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі прыехалі дэлегацыі ад розных народаў. Але сказаць развітальнае слова ім гестапа забараніла. Таму атмасфера ў гэты час была надзвычай цяжкая. Яна больш згусцілася, калі пачалі труну апускаць у магілу. У гэты момант інжынер Мікола Абрамчык, ён ужо прэзідэнт Рады БНР, усё ж прайшоў да магілы і выступіў з невялікай прамоваю. Пасля яго некалькі слоў сказаў і прадстаўнік ад украінскай моладзі. А ўкраінскі прафесар Мазепа вымавіў толькі адзін сказ: «Нічога, мы шчэ будэмо маты оказыю промовіты іншым разом».

Больш за ўсіх шкадавала дзядзьку Васіля Ларыса Геніюш. Калі пачалі засыпаць магілу, яна самлела. Спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і інжынер Васіль Русак выносілі яе на руках…

Смерць Васіля Захаркі выклікала вялікі рэзананс у Еўропе. Але нямецкая цэнзура не дазваляла друкаваць

у газетах артыкулы-некралогі, а таксама кантралявала, каб гэтая сумная вестка не дайшла да Беларусі.

Пахавалі Васіля Захарку побач з яго жонкаю Пелагіяй (Палінай) Захарка. Магіла, дарэчы, была загадзя закуплена і разлічана на дваіх. Да помніка з выяваю Пагоні, які паставіў Васіль Іванавіч сваёй жонцы, пазней прымацавалі толькі шыльдачку з прозвішчам Васіля Захаркі.

Згадваючы пра прэзідэнта Беларускай Народнай Рэспублікі, хацелася б прыгадаць і пра той вывезены з Прагі ў Францыю архіў Рады БНР, які перадаў Васіль Захарка Міколу Абрамчыку. Яшчэ ў 1974 годзе газета «Беларускі голас», якую выпускаў у Таронта (Канада) Сяргей Хмара, надрукавала на сваіх старонках вялікі артыкул «Беларускія бібліятэкі і архівы на эміграцыі» Кастуся Мерляка з Нью-Ёрку. У гэтым артыкуле спадар Мярляк згадвае і пра архіў Рады БНР: «Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, 6.03.1943, № 546, Прага. Іх міласьці гр. інж. Міколе Абрамчыку і гр. Ларысе Гэніюш. Будучы доўга і моцна хворым, што можа прынясьці хутчэй кепскі, чым добры канец майму жыцьцю, я гэтым перадаю вам пане інжынер Становішча Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

…Само сабой разумееццa, што ўсе архівы Рады БНР і дакумэнты пераходзяць таксама на вас. Старшыня Рады БНР В. Захарка…

Згодна гэтага дакумэнта інж. Мікола Абрамчык пераняў архівы і дакумэнты Рады БНР і перавёз іх ува Францыю. Гэты дакумэнт называўся “тэстамэнтам”, які даваў інж. Міколе Абрамчыку канстытуцыйныя правы называць сябе Старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Архіў даўжэйшы час перахоўваўся ў памешканьні пры 65 ру дэ Гравілерс, Парыж, Францыя, а пазьней, здаецца, быў перавезены на прыватнае памешканьне інж. Абрамчыка на прадмесьці Парыжа.

Ад 1943 году да сьмерці 29 травеня 1970 году інж. Абрамчык зьбіраў і папаўняў архіў Рады БНР. Людзі, якія давяралі, у тым ліку і я (маецца на ўвазе Кастусь Мярляк. — *С. Ч.*) асабіста, перадавалі яму архіўныя матэрыялы, асабліва з палітычнае дзейнасьці Рады БНР і грамадзкіх арганізацыяў. Не раз інж. Абрамчык высказваўся і паклікаўся публічна на дакумэнты, якія знаходзяцца ў архівах Рады БНР.

У апошнія пару гадоў перад сьмерцяй інж. Абрамчыка Ангельскі Сэктар Рады БНР намагаўся правесьці інвэнтарызацыю архіву ды забясьпечыць Архіў належнай аховай. На жаль, Старшыня Рады БНР ня ўважаў гэтую справу важнай або меў іншае прызначэньне, каб не дазволіць уліку архіўнага матэрыялу.

Пасьля яго сьмерці была пакліканая камісія ў асобах: а. Льва Гарошкі, а. А. Смарчка і сп. А. Лашука, каб яны перанялі ад сп-ні Ніны Абрамчык, перапісалі Архіў Рады БНР і перадалі яго ў Беларускую Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лондане, Англія.

Сп-ня Абрамчык усякімі спосабамі адцягвала перадачу Архіву. Сябры камісіі былі змушаныя ехаць у Парыж некалькі разоў, аж нарэшце сп-ня Абрамчык заявіла, што Архіву Рады БНР яна нікому не перадасьць. Яшчэ зрабіў адну спробу сп. М. Нікан з Аўстраліі. У жніўні 1973 года паехаў у Парыж спэцыяльна, каб пераканаць сп-ню Абрамчык перадаць архівы, бо гэта агульная беларуская маёмасьць, а не персанальна інж. Абрамчыка, якую яна пераняла ў спадку. Яна сп. Ні-

кана не прыняла ў хату. Ён толькі пагутарыў з сынам Альгэрдам на ганку.

І вось такім чынам Беларускі Дзяржаўны Архіў, няведама ў якіх ён апыніцца руках. Ведама ўсім, што ворагі беларускае незалежнасьці і дзяржаўнасьці заплоцяць усякую суму грошай, каб заўладаць гэтымі дарагімі беларускаму народу дакумэнтамі, каб пазбавіць беларусаў гістарычнае дакумэнтацыі Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі й змаганьня за ажыцьцяўленьне ідэалаў 25 Сакавіка.

Інж. Мікола Абрамчык, які пратэндаваў на Прэзыдэнта БНР, ня меў ніякіх якасьцяў дзяржаўнага мужа, гэта пацьвярджае ягоная прымітыўная дзейнасьць на эміграцыі і сам факт не забеспячэньня перадачы Дзяржаўнага Архіву ў рукі грамадзтва, які ён у свой час атрымаў ад свайго папярэдніка сьв. пам. Старшыні Рады БНР Васіля Захаркі» (Кастусь Мярляк. Беларускія бібліятэкі і архівы на эміграцыі // Беларускі голас. 1974. № 225, верасень).

Па архіў БНР да Ніны Абрамчык у свой час звярталіся і спадары Рагуля, Войтанка і іншыя. Але жанчына нікога не падпускала і блізка. Дарэчы, недзе ў 1960-х гадах амерыканскі дзеяч Далін хацеў архіў БНР выкупіць для Калумбійскага ўніверсітэта. Але таксама нічога не атрымалася. А ў апошні час мне давялося чуць, што пражскі архіў БНР знаходзіцца ў адным з храмаў Францыі.

І ўсё ж верыцца, што архіў Беларускай Народнай Рэспублікі некалі вернецца на Беларусь, а былому прэзідэнту БНР Васілю Захарку будуць устаноўлены помнікі ў Зэльве і ў яго роднай вёсцы Дабрасельцы. Ён варты гэтага.

## НА РАДЗІМЕ ВАСІЛЯ ЗАХАРКІ

Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся беларускі палітычны дзеяч, другі прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка (1877–1943), — глыбінка Зэльвенскага раёна, ад райцэнтра да вёскі больш за 20 кіламетраў.

У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жылі каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 годзе іх жыло 288, у 2003 — 161 жыхар, а цяпер і таго менш. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

У Дабрасельцы, калі ехаць з Зэльвы і Міжэрычаў, можна дабрацца з двух бакоў вёскі. Бо сама вёска — гэта адна доўгая заасфальтаваная вуліца. Праўда, некалькі дамоў стаяць крыху ўбаку ад галоўнай вясковай вуліцы. Мне патрапіць у Дабрасельцы давялося з боку праваслаўнай царквы Святога Антонія, пабудаванай у 1893 годзе. Але на той час у царкве нікога не было, таму прыйшлося ехаць да вясковай крамы — у другі бок вёскі, каб пагутарыць з вяскоўцамі.

У краме ў Дабрасельцах было людна, вяскоўцы куплялі тавары, вялі розныя гутаркі пра сваё жыццёбыццё. Пытаюся ў вяскоўцаў:

— А ці ёсць у вашай вёсцы Захаркі?

— О-о-о! — усміхнуліся жанчыны. — У нас палова вёскі маюць прозвішча Захарка. А вам каторы патрэбен?

— Мне патрэбны сваякі Васіля Захаркі.

— А каторага Васіля?

— Таго, што жыў за мяжой, у Чэхіі.

— А! Гэта трэба вам звярнуцца да Веры Міхальчык, яна жыве ў хаце пад нумарам 15. Кабета шмат ведае і памятае.

Жанчыны выйшлі з крамы і паказалі, дзе знаходзіцца хата Веры Іванаўны Міхальчык. Я паціху пайшоў па цэнтральнай вясковай вуліцы, потым з невялікага грудочка збочыў да хаты спадарыні Міхальчык. Мяне сустрэла невялікага росту бабуля, але яшчэ жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў адзін з пакояў хаты і сказала, што ведае пра Васіля Іванавіча Захарку.

— Мама мая Васілю Захарку была родная цётка, — сказала Вера Іванаўна і адразу задала пытанне: — А ці праўда, што Васілю Захарку ў Слоніме паставілі бюст. І чаму гэта ў Слоніме, а ні ў Зэльве?

— У Слоніме, Вера Іванаўна, ёсць толькі бюсты Леніну. А Васілю Захарку няма. Але прыйдзе час, мы абавязкова паставім помнікі Васілю Захарку ў Зэльве, у Мінску і ў Дабрасельцах. А пакуль толькі адзін помнік яму ёсць на магіле на Альшанскіх могілках у Празе. А ці бачылі Вы Васіля Захарку?

— Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Адзін раз, калі ён прыязджаў, я хварэла. Але я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагею бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна.

— А ці ведаеце вы, кім быў Васіль Захарка?

— Здаецца, нейкім паслом.

— Так, 2 чэрвеня 1920 году ён быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай Беларускай Дыпламатычнай Місіі БНР. Васіль Захарка накіроўваўся ў Маскву па запрашэнні міністра замежных спраў РСФСР Георгія Чычэрына. Там ён выконваў абавязкі старшыні місіі БНР у Маскве. Захарка намагаўся прызнання незалежнасці Беларусі перад савецкімі ўладамі, арганізацыі войска, вызвалення беларускіх палітвязняў ва Усходняй Беларусі і матэрыяльнай дапамогі. А з 1928 года да смерці ён узначальваў Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта значыць, быў яе прэзідэнтам.

— Вось гэта я ад вас чую ўпершыню. Няўжо ён такі знакаміты беларус?

— Вельмі знакаміты ваш сваяк, Вера Іванаўна. А дзе яго была хата, дзе ён жыў?

— Побач з нашай. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

Вера Іванаўна з суседкай паказала мне месца, дзе стаяла хата Захаркі. Маладыя гады будучага прэзідэнта ў Дабрасельцах былі няпростыя. На шаснаццатым годзе жыцця ён застаўся сіратою, маючы пад сваёй апекай сястру і двух братоў. Але Васіль не падаў духам: улетку ён вёў гаспадарку, а ўзімку вучыўся. А ў 1898 годзе быў прызваны на вайсковую службу…

— Вера Іванаўна, а ці ёсць у вас якія-небудзь фотаздымкі Васіля і Пелагеі Захаркаў? — пытаюся ў спадарыні Міхальчык.

— У мяне няма, але, мабыць, ёсць у маёй малодшай сястры Валі.

Мы пайшлі паціху да сястры Веры Міхальчык — Валянціны. Яна адна жыве ў вялікім цагляным доме. Ці не самы вялікі ў Дабрасельцах.

— Такі вялікі дом вы пабудавалі сабе ў Дабрасельцах? — пытаюся ў спадарыні Валянціны.

— Ды гэта не мой. Тут жыў Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Жамойцін. А калі ён памёр, мы выкупілі ў калгаса гэты дом. Вось цяпер адна тут і жыву, муж памёр, — сказала Валянціна Іванаўна.

— А за што Аляксандр Жамойцін атрымаў такое вялікае званне?

— Атрымаў ён гэта званне ў 1972 годзе за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства. Вось за гэта тады давалі такія вялікія званні.

— Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у вас здымкі Васіля Захаркі?

— Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне.

— А што гэта былі за здымкі?

— На адным — Васіль Захарка з жонкай Пелагеяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы яму руку на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку — Васіль Захарка ў Коўне.

— Я ведаю гэтыя здымкі. Яны друкаваліся ў часопісе «Спадчына» ў 1994 годзе…

Пакуль мы гутарылі на вуліцы ў Дабрасельцах, да нас падыходзілі іншыя людзі — і сваякі Васіля Захаркі, і проста вяскоўцы, якія мелі прозвішча Захарка. Яны прасілі напісаць пра іх, пра тое, што многія з жанчын па 20–30 гадоў адпрацавалі даяркамі, свінаркамі ў калгасе, а з пенсіяй іх дзяржава падманвае. Напісаць пра тое, як працуе ў Дабрасельцах магазін, як лечаць старых людзей у бальніцах і г. д. Пытанняў і праблем у вяскоўцаў шмат…

Калі я развітваўся з Захаркамі з Дабрасельцаў, спадарыні Вера і Валянціна сказалі, што, магчыма, яны не дажывуць да таго часу, калі іх сваяку Васілю Захарку пастравяць у Зэльве помнік. Я запэўніў іх, што дажывуць, і што падчас адкрыцця помніка, яны выступяць са шчырай прадмовай. Вяскоўцы падзякавалі за памяць і запрасілі часцей бываць на радзіме прэзідэнта БНР Васіля Захаркі.

*2012*

## ТАЯМНІЦЫ СЫНКОВІЦКАЙ ЦАРКВЫ

Зэльвенская вёска Сынковічы знаходзіцца на мяжы двух раёнаў: Слонімскага і Зэльвенскага. У гістарычных крыніцах яна ўпамінаецца з канца XV – пачатку XVI стагоддзя, калі была пабудавана тут царква-крэпасць. Яна, на думку некаторых даследчыкаў даўніны, збудавана ў пачатку XV стагоддзя. Але з падання вядома, што заклаў царкву вялікі князь Вітаўт. Магчыма, яна з’явілася і раней. Так лічыць сённяшні настаяцель Сынковіцкай царквы Архангела Міхаіла айцец Арсеній.

Айцец Арсеній працуе настаяцелем царквы ў Сынковічах сем гадоў. За гэты час ён добраўпарадкаваў храм, капліцу, тэрыторыю вакол храма, а таксама пацiху вывучае яго гісторыю. Цяпер заняўся рэстаўрацыяй храма. Па словах святара, у 1377 годзе памёр вялікі князь Альгерд. Ён, як пішуць летапісцы, «не столькі сілаю, колькі ўмельствам ваяваў». І пакінуў пасля сябе наследнікам любімага сына Ягайлу, які неўзабаве стаў каралём Польшчы. Пайшоў Ягайла вайною супраць свайго роднага дзядзькі — вялікага князя Кейстута —

і сына яго, князя Вітаўта. Аднак не змог іх адолець. Тады задумаў ён жорсткую хітрасць. Запрасіў да сябе дзядзьку і брата і пакляўся, што не зробіць ім зла. А як толькі яны, паверыўшы ў клятву, прыехалі ў Вільню, паланіў абодвух. Вітаўта спачатку каля сябе пакінуў, а вялікага князя Кейстута загадаў у ланцугі закаваць і кінуць у вежу Крэўскага замка. Яшчэ праз некалькі дзён служкі Ягайлавы забілі слаўнага Кейстута. Потым у Крэўскі замак прывезлі і Вітаўта з жонкаю…

Сядзеў вялікі князь у Крэве пад моцнаю вартаю. Штовечар дзве кабеты прыходзілі слаць ложак яму і княгіні. А паслаўшы, выходзілі. За дзвярыма пакоя неадступна стаяла варта. Пачула вялікая княгіня Вітаўтава ад людзей, што калі Вітаўт не ўцячэ з вязніцы, дык з ім учыняць тое, што і з бацькам ягоным Кейстутам. І навучыла яна мужа свайго, князя Вітаўта, пераапрануцца ў адзенне адной з кабет, што прыходзіла ім слугаваць, а з другою выйсці непрыкметна з пакоя. Паслухаў жонку Вітаўт, надзеў на сябе жаночае ўбранне, незаўважна спусціўся з замка і ўцёк да немцаў у Прусію.

Але туды князь не адразу трапіў. Заблытваючы сляды ад Ягайлавых служак, ён пусціўся наўцёкі зусім у адваротны бок — да старажытнай Літвы, што знаходзілася тады за Наваградкам. І непадалёку ад Слоніма, у ціхай лясной вёсачцы Сынковічы, князь Вітаўт знайшоў сабе надзейную схованьпад сялянскай страхой. Потым, перачакаўшы варожую пагоню, сабраў надзейнае войска, перамог клятваадступніка Ягайлу і стаў адзіным уладаром Вялікага Княства Літоўскага. Праз дваццаць пяць гадоў пасля ўратавання ад немінучай пагібелі вялікі князь Вітаўт загадаў пабудаваць у Сынковічах храм: на знак удзячнасці Богу і тутэйшым людзям, якія захавалі яму жыццё. Невядомыя талена-

вітыя дойліды выканалі волю князя і паднялі да нябёс Сынковіцкую царкву-крэпасць. Такую легенду пра Вітаўта і Сынковічы прыгадвае і беларускі пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік у сваёй кнізе «Сем цудаў Беларусі» (Мінск, 1999).

Пры сустрэчы з айцом Арсенем я неяк запытаўся ў яго:

— Айцец Арсеній, хто найбольш даследаваў Сынковіцкую царкву?

— Святар Яўстафій Міхайлоўскі, які быў тут настаяцелем з 1871 да 1898 года. Ён зрабіў царкоўную агароджу, званіцу, сам рамантаваў дах. На сценах храма ён знайшоў надпісы, датаваныя XIV стагоддзем, а таксама два званы. На адным з іх было напісана: «Anno Domini 1460». Між іншым, ніколі званы не заказваліся задоўга да будаўніцтва храма. Напрошваецца думка: храм у Сынковічах у час адліўкі звона ўжо мусіў існаваць, і, можа, не адзін дзясятак гадоў. Таму, магчыма, яго сапраўды пачыналі будаваць пры Вітаўце. А сама вёска Сынковічы яшчэ старэйшая за крэпасць-царкву.

— Чым унікальная царква ў Сынковічах?

— Тым, што яна захавалася такою, якою была пабудавана. Царква ў Сынковічах — гэта чыста наш беларускі храм. А дата пабудовы замка ў Сынковічах выкладзена на сценах храма. Толькі яе трэба ўбачыць і прачытаць.

Айцец Арсеній паказаў нам гэтыя словы. І мы ўбачылі на сценах славутага храма літару «Т», кропку і дзве вертыкальныя рысы — гэта лічба 302.

— Але чаму не ўказана тысяча?

— Таму, — сказаў святар, — што тысячу цяжка было выкласці з цэглы.

— Значыць, Сынковіцкаму храму больш за 700 гадоў?

— Выходзіць так. І храму, і крэпасці — больш за 700 гадоў. Магчыма, крэпасць яшчэ старэйшая.

— Ды адсюль як на далоні ўсё бачна: лес, поле, рэчкі і дарогі…

— Вось гэтая дарога, што вядзе на Хадзявічы, была простым шляхам на Слонім, скуль прыязджаў Вітаўт у Сынковічы. Вынікае, што Вітаўт быў у маёй роднай вёсцы Хадзявічы?

— Так. Раней людзі не абыходзілі гарады і вёскі. Побач былі Хадзявічы, Сынковічы і паміж імі была сувязь. Такім чынам, Вітаўт прыязджаў сюды праз Хадзявічы альбо ў Сынковічы плыў па рэчцы. Наогул, нашы гісторыкі яшчэ не ўстанавілі, дзе знаходзілася сталіца старажытнай Літвы — нашай дзяржавы. Мы ведаем, што першаю сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага быў Навагрудак, пасля — Вільня. А да гэтага што было?

— З нашай гутаркі я зразумеў, што Сынковічы маглі быць найпершай сталіцай старажытнай Літвы?

— Магчыма, так. І калі Вітаўт уцякае з Крэва, ён уцякае дамоў, сюды, у Сынковічы. Значыць, тут ужо была крэпасць, было дзе схавацца. Ён уцёк да сваіх людзей і будуе на знак падзякі храм.

— Айцец Арсеній, вы вельмі цікава распавядаеце пра нашу гісторыю, але давайце з мінуўшчыны вернемся да нашых дзён. Ці праўда, як кажуць людзі, што з Сынковічаў да Жыровічаў існуе падземны ход?

— Такога не можа быць. Недалёка ад храма знаходзіцца рэчка. І падкапаць ход пад рэчкаю было б складана, бо яго пастаянна залівала б вада. Але падземныя хады ад храма ёсць, толькі яны невялікія, вялі на бераг

ракі, дзе пастаянна стаялі чаўны, ці ў лес. Мясцовыя жыхары расказвалі, што некалі ў гэтай мясцовасці кудысьці знікалі каровы. Правальваліся пад зямлю, і ўсё. І яшчэ прыклад. Калі я сюды прыйшоў працаваць, з правага боку храма была роўная мясцовасць, а цяпер яна, як бачыце, правалілася. Значыць, хады ёсць.

— Ці часта да вас у Сынковічы прыязджаюць турысты?

— Вельмі часта, з усіх куткоў свету, у тым ліку з Японіі, Францыі, Сінгапура, Італіі, Швецыі, Галандыі… Свае водгукі яны пакідаюць у кнізе наведвальнікаў храма.

— Якая мара ў настаяцеля Сынковіцкай царквы?

— Прывесці гэты старажытны помнік да найлепшага стану, а таксама служыць у гэтым храме на роднай мове.

Да ўсяго сказанага пра Сынковіцкую царкву трэба дадаць яшчэ, што ў 1566 годзе вёска Сынковічы належала багатаму чалавеку Зэльвеншчыны — Івану Есьману. А ўжо ў канцы XVIII стагоддзя і да 1939 года гэта была ўласнасць Пуслоўскіх. Праўда, леснічоўка каля Сынковічаў належала Чапскім (Сынковічы былі падзелены на фальваркі). Доўгі час два фальваркі Сынковічаў трымалі Франц Пуслоўскі і Казімір Есьман. І толькі ў 1920 гадах леснічоўку прыдбаў граф Чапскі.

Абсалютную большасць жыхароў Сынковічаў складалі сяляне. Цяглыя сяляне былі надзелены поўным надзелам зямлі, з якога спаганяўся ўвесь комплекс павіннасцей. Паўцяглыя сяляне карысталіся паловай надзелу і адбывалі палавінную норму павіннасцей. А сяляне-агароднікі карысталіся толькі прысядзібнымі ўчасткамі, мелі нават дробную жывёлу, часам — каня.

Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў маёнтку Сынковічы было ў другой палове XIX стагоддзя чатыры двары агароднікаў, якія не мелі ніякіх гаспадарчых пабудоў і буйной рагатай жывёлы. Вольным сялянам маёнтка Сынковічы належала 100 дзесяцін зямлі на 56 душ. А ў Пуслоўскага ў гэтай вёсцы было 32 душы сялянскіх бабылёў (парабкаў, без зямлі і свайго жылля).

Перад рэформай 1861 года і ў другой палове XIX стагоддзя таварны характар у Сынковічах набыло садаводства і агародніцтва. У гэты час у вёсцы з'явілася першая крама, некаторыя сяляне мелі сажалкі, трымалі па тры парсюкі. А вось коней было на вёсцы няшмат — усяго 64, валоў — ажно 334. Сынковіцкія сяляне займаліся таксама перагонам смалы і дзёгцю.

У пачатку XX стагоддзя (1905–1913 гг.) тут дзейнічала вінакурная мануфактура, дзе працавалі восем рабочых. У 1908 годзе мануфактура займела нават паравы рухавік. І калі ў 1890 годзе Сынковіцкі прыход, які ўваходзіў у склад Слонімскага павета, налічваў 1555 жанчын і столькі ж мужчын, то ў 1921 годзе ў вёсцы было ўжо толькі 145 жыхароў. Многія не вярнуліся з бежанства, загінулі ў Першай сусветнай вайне і падчас савецка-польскай.

А што да Пуслоўскіх, Чапскіх і Есьманаў — то яны ў 1939 годзе, за два тыдні да прыходу на Слонімшчыну і Зэльвеншчыну Чырвонай Арміі, выехалі ў Англію.

## ПА КІМ ПЛАЧА ЗВОН?

Шмат бачылі і перажылі на сваім вяку байніцы і сцены Сынковіцкага храма. Сотні сцягоў і ўладаў мяняліся, але ён выстаяў, не скарыўся. Найцяжэй Сынковіцкай царкве было пры савецкай уладзе. Храм быў аддадзены мясцоваму саўгасу (цяпер СВК «Сынковічы» Зэльвенскага раёна). Там складзіравалі лён, садавіну і агародніну. Паціху храм рушыўся, знішчаўся, хаця на яго сцяне даўно прымацавана шыльда, дзе напісана, што «помнік ахоўваецца дзяржавай».

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе пачалося аднаўленне храма ў Сынковічах. У 1993 годзе ён быў ачышчаны ад смецця і бруду, адрамантаваны і асвечаны мітрапалітам Мінскім і Слуцкім. Цяпер Сынковіцкая царква на кожнае свята кліча да сябе праваслаўных вернікаў. Але шмат яшчэ трэба фінансаў і працы, каб цалкам рэстаўрыраваць яе і вярнуць тое, што было з гадамі знішчана і страчана. Знік з Сынковіцкай царквы і звон. А можа, гэта той, на якім быў надпіс «Anno Domini 1460»? Хто яго ведае. Але той адзіны звон, які месціўся ў званіцы Сынковіцкага храма, быў зняты і адвезены ў Мінск. Гэты факт пацвердзіў і былы настаяцель царквы айцец Леанід. Паўстае пытанне: навошта знялі звон са славутага помніка, які ахоўваўся дзяржавай? За пытаннем вымалёўваецца і адказ.

У канцы 1960-х гадоў пачалося будаўніцтва мемарыяльнага архітэктурна-скульптурнага ансамбля «Хатынь», што ў 54 км ад Мінска. Па загадзе Машэрава з усёй Беларусі на Мінскі радыятарны завод звозіліся старыя званы з храмаў для Хатыні. Сюды, відаць, тра-

піў і звон з Сынковіцкай царквы. Больш падрабязна я папрасіў расказаць пра гэта першага дырэктара мемарыяльнага комплексу «Хатынь» Анатоля Белага, якога нядаўна не стала.

— Я сапраўды працаваў першым дырэктарам «Хатыні», — пачаў размову тады Анатоль Яфімавіч. — Калі ўзнікла патрэба ў званах для комплексу, нейкі «руплівец» прапанаваў адліваць іх са старых званоў. Іх пачалі звозіць на радыятарны завод, дзе званы калолі. За аснову для адліву быў выбраны адзін старажытны звон з выдатнай формай, гучаннем, а галоўнае, ён меў патрэбныя памеры. Вучоныя ўзяліся распрацоўваць адмысловую электронную сістэму падачы гучання. Гэты звон цяпер вісіць на мемарыяльным зрубе хаты Камінскіх, каля гумна, дзе карнікі спалілі людзей. Гучанне яго адметнае, і яно выдзяляецца сваёй чысцінёй і ўрачыстасцю гуку.

Па словах Анатоля Белага, хаця званы для Хатыні адлівалі з лепшых царкоўных званоў, але дасягнуць добрага гучання нікому не ўдалося. Усе разлічвалі, што з царкоўнай бронзы будзе гук адмысловы, але забыліся пра адну акалічнасць — пра ўгар металу, які дасягае 7 %. Але металы прысадкі, волава і іншыя, робяць угар значна большым за 7 %. Вось гэтага і зрабіла адлітыя наноў званы з адмысловага металу і бясцэннага народнага скарбу глухімі па гучанні.

Хто быў ініцыятарам таго, каб звозіць званы з храмаў Беларусі і пераплаўляць іх для Хатыні, я не ведаю. Бо ўсё тады рабілася па загаду ЦК КПБ і асабіста П. М. Машэрава. Ён цалкам курыраваў гэты мемарыяльны комплекс. Магчыма, ідэю падала тая брыгада майстроў, якая ўзялася распрацоўваць рытміч-

насць і музычную зададзенасць гучання званоў Хатыні. Для іх было пабудавана спецыяльнае памяшканне. Там пастаянна дзяжурыў адзін чалавек. Удары молата па звоне ажыццяўляліся па сігналу запраграміраванага пульта. Відаць, там і быў знішчаны звон з Сынковіцкай царквы.

Са слоў Анатоля Белага я даведаўся, што на заводзе ў той час прысутнічаў скульптар Аляксандр Шатэрнік. Па тэлефоне звязаўся са спадаром Аляксандрам. Ён сказаў, што «ў той час вельмі шмат пабілі званоў, дабіваючыся ад іх гучання. Але званы маўчалі. Сюды іх звозілі з усёй Беларусі, відаць, быў там звон і з Сынковіч».

Зусім іншыя думкі выказаў мне на гэты конт адзін з архітэктараў Хатыні, Леанід Левін:

— Для мемарыяльнага комплексу «Хатынь» было выліта 26 званоў. Усе аднолькавага памеру. Адліваліся званы з формы звону, які знайшлі каля адной старой і разваленай царквы…

Але дзе знайшлі, спадар Левін не памятае. Шкада…

Званы на Беларусі былі вядомы яшчэ з XI стагоддзя. Калі званы, напрыклад, здымалі з гарадской ратушы, што лічылася выключнай з’явай, гэта было знакам пакарання горада, пазбаўлення права на самакіраванне.

За што была пакарана Сынковіцкая царква, а таксама сотні іншых храмаў Беларусі? Няўжо дзеля Хатыні? Відаць, так. Дык па кім плача звон?..

## КАЛОМНА КАЛЯ АЛЕКСІЧАЎ

Калі едзеш са Слоніма ў кірунку Гродна, адразу за Дзярэчынам, пры павароце на вёску Алексічы, бачыш мураваную каломну, ці, як кажуць у народзе, мураваны слуп. У вёсцы Дзярэчын я неяк спытаў у мясцовых жыхароў, што яны ведаюць пра гэту каломну. Многія вяскоўцы зусім не змаглі нічога сказаць пра яе. Некаторыя расказвалі, што гэты помнік паставіў Напалеон Банапарт, калі адступаў з Расіі на Захад. Іншыя людзі называлі слуп Сапежынскім, бо яго паставіў Аляксандр Сапега, які меў рэзідэнцыю ў Дзярэчыне ў XVIII стагоддзі. А некалькі чалавек сказалі, што з'яўленне каломны звязана са шведамі і што наверсе помніка некалі быў вялікі гадзіннік.

Пра каломну каля вёскі Алексічы ніхто ніколі не пісаў. І мне знайсці нейкай інфармацыі пра яе так і не ўдалося. Міхась Скобла, аўтар кнігі «Дзярэчынскі дыярыюш», паведаміў, што, магчыма, каломна з'явілася ў XVII стагоддзі. Падобная стаяла і ў цэнтры Дзярэчына. Іх пабудавалі дамінікане. Дзярэчынская каломна з цягам часу разбурылася, а каля вёскі Алексічы — захавалася.

Сапраўды, каломна каля Алексічаў Зэльвенскага раёна — унікальны помнік з цэглы. Але на версе каломны ніколі не было гадзінніка, а быў крыж. Пра гэты факт сведчыць здымак каломны, зроблены ў 1930-х гадах. З версіяй Міхася Скоблы можна пагадзіцца. Але існуе і іншы факт, што гэты мемарыяльны слуп быў пабудаваны ў 1708 годзе. Яго ўзвялі шведскія воіны. Гэтым самым яны выказалі шчырую падзяку мясцоваму насельніцтву, якое шмат дапамагала шведам падчас

руска-шведскай вайны. На каломне была нават мемарыяльная шыльда з тэкстам па-беларуску і па-шведску. Але, кажуць, немцы ці партызаны яе знішчылі падчас Другой сусветнай вайны.

Цяпер мураваная каломна трохі пахілілася, як Пізанская вежа. Але ёй не пагражае падзенне, бо яна замацаваная на спецыяльным стрыжні на ўсю вышыню свайго збудавання.

## ЗЭЛЬВЕНСКІЯ КАРАНІ

1

Кожны край, кожны горад і нават вёска маюць сваю літаратурную біяграфію. Літаратурнае жыццё пэўнай мясцовасці, факты творчай дзейнасці асобных аўтараў, звязаных з краем, арганічна ўваходзяць сёння ў агульны працэс развіцця нацыянальнай літаратуры.

На Зэльвеншчыне нарадзілася і пэўны час жыла польская пісьменніца Марыя Радзевіч (1863–1944). Яна была сваячкай беларускага пісьменніка Леапольда Родзевіча. Марыя Радзевіч — аўтар шматлікіх раманаў і аповесцей. Сярод якіх — «Страшны дзядок» (1887), «Шэры пыл» (1889), «Гняздо Белазора» (1931), «Верас» (1903) і многіх іншых. У некаторых сваіх творах апісвала жыццё сялян-беларусаў, хараство палескай прыроды.

Семдзесят тры гады пражыў на радзіме, у вёсцы Алексічы, беларускі народны казачнік Іван Юр'евіч Макей.

Нарадзіўся Іван Макей у 1882 годзе ў вёсцы Дзярэчын. Пэўны час, каб не памерці з голаду, парабкаваў. Пасля працаваў у Беластоку на тэкстыльных фабры-

ках, у пякарні. У 1904 годзе разам з сям’ёй пераехаў у Алексічы.

Аднавяскоўцы з павагай і любоўю называлі Івана Юр’евіча «артыстам». На ўсё наваколле гэта быў адзіны казачнік, які не толькі расказваў, але і сам складаў казкі. У куце свае хаты, заўсёды перапоўненай цікаўнымі слухачамі, ён «разыгрываў» казку ў асобах, па-майстэрску перадаваў інтанацыі, міміку, рухі, нават паходку казачных персанажаў.

Апавядальныя эпізоды ён звычайна перадаваў, седзячы на табурэтцы, роўным голасам. Калі ж пачынаўся дыялог, казачнік уставаў і як бы пераўвасабляўся ў дзейных асоб. Кампазіцыйныя і стылістычныя асаблівасці, што адрозніваюць традыцыйную казку ад бытавой, у казках Макея амаль не адчуваліся. Ён нібыта спраўляў разнастайныя чарадзейныя і бытавыя, камічныя і драматычныя сюжэты.

У 1946 годзе ў час фальклорнай практыкі студэнты Белдзяржуніверсітэта запісалі ад Івана Макея трыццаць казак. Адна з лепшых чарадзейных казак яго рэпертуару «Кіёчак» была апублікавана ў 1973 годзе ў зборніку «Чарадзейныя казкі». Друкаваліся яго казкі і ў другіх выданнях.

Казкі Івана Макея лёгка пазнаць. Стылістычнай абраднасці і традыцыйнага трохчастковага кампазіцыйнага дзеяння ў яго назвах няма. Так, у яго варыянце казкі «Звярынае малако» замест трохразовага або шматразовага падарожжа па звярынае малако герой робіць адно, здабываючы малако ад розных звяроў. Замест традыцыйных шчаслівых развязак у яго даволі часта сустракаюцца драматычныя. Напрыклад, казка «Кіёчак» мае менавіта такі фінал.

У 1980 годзе ў Берліне на нямецкай мове выйшла з друку кніга «Беларускія народныя казкі». Сярод іншых у кнігу трапіла і казка нашага земляка «Кіёчак».

Памёр народны казачнік Іван Юр'евіч Макей у 1955 годзе, а нашчадкам сваім ён пакінуў чароўны і непаўторны свет казак.

2

У вёсцы Бародзічы нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік і гісторык Міхаіл Іоська (1931–1983). Пасля заканчэння філасофскага аддзялення БДУ М. Іоська па волі лёсу сем гадоў пражыў у старажытным узбекскім горадзе Самаркандзе, а ў апошнія гады свайго жыцця выкладаў навуковы камунізм і этыку ў Мінскім інстытуце культуры. Ён аўтар цікавых кніг «Зоркі Самарканда», «Беларусь і Узбекістан» (яны выйшлі з друку ва Узбекістане). У Беларусі ўбачылі свет яго кнігі «Мікалай Судзілоўскі-Русель» (1976), «К. Маркс, Ф. Энгельс і рэвалюцыйная Беларусь» (1977), а ў 1985 годзе выйшла другое дапоўненае перавыданне гэтай кнігі.

У кнізе «Мікалай Судзілоўскі-Русель» Міхаіл Іоська ўпершыню ў нашай краіне грунтоўна расказаў пра вялікага сына беларускага народа, рэвалюцыянера, вучонага-энцыклапедыста, актыўнага дзеяча паліт-эмігрантаў у Жэневе, прэзідэнта Гавайскай рэспублікі Мікалая Канстанцінавіча Судзілоўскага, якога ў многіх краінах свету ведалі як доктара Руселя.

## 3

У час прагляду часопіса «Атэнаум» за 1845 год (кніга 3) трапілася на вочы адно апавяданне-прытча з незвычайным прозвішчам аўтара Асорыя. Бліжэйшае ж знаёмства з творам дало нечаканыя вынікі. Апавяданне было напісана ў Варшаве, але заснавана яно на беларускім матэрыяле. Больш за тое, мова галоўнага героя апавядання літаральна перасыпана беларускімі прымаўкамі і рознымі выслоўямі: карова забыла, як цялушкаю была; чыя кароўка, таго цяля; навучыся кудзелю прасці, яйца пад куру класці, сыры рабіці, есці варыці і іншыя. Хто ж такі Асорыя?

Асорыя — гэта псеўданім польскага і беларускага літаратара, перакладчыка, фальклaрыста Марціна Цяплінскага (1802/1810–1847). Нарадзіўся ён на Зэльвеншчыне ў фальварку Крупава (паводле іншых звестак, Цяшэйкава). Выпускнік Варшаўскага кадэцкага корпусу. За ўдзел у паўстанні 1830–1831 гадоў сасланы на Каўказ (1831–1833), але пасля цяжкага ранення хутка быў адпраўлены на радзіму. Выступаў у друку з 1837 года на польскай мове. Свае рамантычныя вершаваныя творы і пераклады публікаваў у віленскім альманаху «Biruta» («Бірута»), часопісах «Athenaeum» («Атэнаум»), «Wizerunki i roztrząsania naukowe» («Навуковыя агляды і разважанні»). Уноміку альманаха «Biruta» на 1837 год ён змяшчае пераклады чэшскіх і ўкраінскіх народных песень, а на 1838 год — «Сербскую баладу» і баладу «Украінец». У 1840-я гады выдаваў у Варшаве часопіс «Snopek Nadwiślański». Між іншага аўтар аповесцей «Кадэт» («Snopek Nadwiślański», 1844, 13.III), «Нешта тут сабакам смярдзіць» («Athenaeum», 1846, № 3). Збіраў

і выкарыстоўваў у сваёй творчасці беларускія паданні, песні, прымаўкі, прыказкі. Падрыхтаваныя да друку 3 тамы «Паэзіі» засталіся ў рукапісе (не выяўлены). Планаваў арганізаваць выданне альманаху «Наднёманскі снапок» («Snopek Nadniemeński»), ведучы ў сувязі з гэтым перапіску з віленскімі выдаўцамі Завадскімі.

Але значнай працай нашага земляка з'яўляецца збор народных песень на ўсіх гаворках, якія гучалі калісьці на Зэльвеншчыне. У архівах захавалася 300 песень, нідзе дагэтуль неапублікаваных…

Апавяданне Марціна Цяплінскага «Нешта тут сабакам смярдзіць» на беларускую мову пераклаў мой аднакурснік па Белдзяржуніверсітэту прафесар Мікола Хаўстовіч і апублікаваў у навукова-літаратурным альманаху «XIX стагоддзе» (Мінск, 1999. С. 61–76).

## З ЖЫЦЦЯ ПАЭТА

Жыццё і творчасць беларускага паэта Валянціна Таўлая звязана з многімі мясцінамі былой Заходняй Беларусі. У Баранавічах паэт нарадзіўся, у вёсцы Рудаўка Слонімскага павета прайшло яго дзяцінства (адсюль родам быў і яго бацька Павел Дзям'янавіч), пры Польшчы ў 1930-х гадах у Слоніме, Вільні, Гродна, Лукішках за рэвалюцыйную дзейнасць сядзеў у турмах…

Гаворачы пра многія жыццёвыя мясціны Валянціна Таўлая і яго бацькоў, нельга абмінаць і Зэльвеншчыну. Менавіта на Зэльвеншчыну, стаўшы ўжо вядомым паэтам, часцей за ўсё завітваў Валянцін Таўлай.

У сваёй аўтабіяграфіі «Аб сабе» паэт пісаў: «Дзяцінства ўспамінаю, як шчаслівае. З таго далёкага часу

засталіся: рад здымкаў кучаравага пестуна-хлопчыка, цяга да бясконцых раек, рытм ракатавання цягнікоў…»

Пасля працяглых блуканняў сям'я Таўлаяў у 1920 годзе вярнулася з бежанства і знаходзіць часовае прыстанішча на станцыі Зэльва. Успамінаючы гэты год у Зэльве, паэт пісаў: «Уцякаюць польскія легіёны. За імі гоняцца чырвонаармейцы, не заўсёды абутыя, але заўсёды з пытаннем: «Ці далёка Варшава?»

У часы гэтых адступленняў Валянціну Таўлаю было толькі шэсць з палавінай гадоў, але ён добра памятаў, як у адну з восеньскіх раніц маці не ўстала з пасцелі (маці В. Таўлая — Марыя Антонаўна — была родам з-пад Бераставіцы). Бацька хуценька паклікаў мястэчковага ўрача, але той нешта спалохана прамармытаў і ўцёк. Праз некалькі гадзін у хату да хворай маці завітаў ваенны ўрач — малады і сімпатычны чалавек. Ён адразу сцвердзіў халеру і сказаў, што ратаваць Марыю Антонаўну трэба было значна раней. Адзінае, што засталося — гэта даць укол хворай — на супакаенне болю, а астатнім членам сям'і — на папярэджанне хваробы. «Калі б не той ваенны ўрач — усім бы нам капут. І мяне б узяла халера. А так — застаўся жыць», — пісаў у аўтабіяграфіі В. Таўлай.

К вечару маці ўжо не было. Шкадавалі і плакалі па ёй усе, але больш за ўсіх плакаў маленькі Валянцін. Ён вельмі любіў яе, любіў назіраць, як яна снавала кросны, прала воўну, выпякала хлеб, а больш за ўсё ён любіў слухаць народныя песні і калыханкі, якія яна спявала за работай. На наступны дзень маці пахавалі ў мястэчку Зэльва на самай гары, тут жа ля царквы, адабранай праз нейкі час пад касцёл (на сённяшні дзень ён не захаваўся).

Зіму Таўлаі перазімавалі ў Зэльве. Але хутка бацьку звольнілі з працы і сям'ю выкінулі з чыгуначнага дома. Напрадвесні 1921 года Павел Дзям'янавіч Таўлай з сям'ёй пераехаў у недалёкую ад Зэльвы родную сваю вёску Рудаўку, што на Слонімшчыне, «на заросшыя буйным маладняком пажарышчы, у падсуседзі да сваякоў, якія ўжо здолелі вярнуцца з бежанства і пабудаваць хату».

## РОДАМ З ШУЛЯКОЎ

З вялікай цікавасцю прачытаў артыкулы дачкі беларускага пісьменніка Адама Бабарэкі Алесі Бабарэкі пра яе маці «Маміны песні» і бацьку «Слова пра бацьку» у зборніках «Скарыніч-2» (Мінск, 1993. С. 90–106) і «Скарыніч-4» (Мінск, 1999. С. 176–188). Справа ў тым, што маці Алесі Бабарэкі — Ганна Іванаўна Дзянішчык — была родам з вёскі Шулякі Зэльвенскага раёна. Дзесьці кіламетры са тры ад Шулякоў знаходзіцца і мая родная вёска Хадзявічы Слонімскага раёна. А паміж Шулякамі і Хадзявічамі, на самай мяжы двух раёнаў — Слонімскага і Зэльвенскага, — узвышаецца Сынковіцкая царква XV стагоддзя. Сюды шмат стагоддзяў з усіх навакольных вёсак ішлі і ідуць вернікі, каб памаліцца Богу. Некалі спяшаліся ў Сынковіцкую царкву і Ганна Іванаўна Дзянішчык, яе маці Магдалена і бацька Янка.

Вёска Шулякі знаходзіцца каля самай шашы Слонім–Зэльва, за пятнаццаць кіламетраў ад Слоніма і дваццаць ад Зэльвы. У 1930–1970-х гадах была вялікая, працавітая і вясёлая вёска. Неяк летам Адам вырашыў завітаць у Шулякі — родную вёску Ганны Дзянішчык.

У шулякоўскую дзяўчыну беларускі паэт, празаік і крытык закахаўся з першага позірку. Яна стала яго жонкаю і была побач усё яго кароткае жыццё.

Тут жыве Вольга Пятроўна Толкіна. Яна ведае пра Шулякі і шулякоў усё. Дарэчы, Вользе Пятроўне — больш за 80 гадоў.

— Некалі наша вёска была вялікай, — сказала жанчына, — а цяпер яна неперспектыўная. Усяго дзесяць хат.

— А ці жылі ў Шуляках вяскоўцы з прозвішчам Дзянішчык? — запытаўся ў жанчыны.

— Былі-былі такія. Але ўсе памерлі. А дзе іх дзеці і ўнукі жывуць, я не ведаю, — сказала Вольга Толкіна.

Пасля прачытання ўспамінаў Алесі Бабарэкі пра яе маці я напісаў аўтарцы ў Маскву пісьмо. Расказаў трохі пра Слонімшчыну, пра Шулякі, Сынковічы — пра тыя мясціны, дзе прайшло дзяцінства яе маці. Хутка ад Алесі Адамаўны атрымаў адказ: «Паважаны Сяргей! Вельмі ўдзячна Вам за добрыя словы аб маім артыкуле пра маму. Дзякуй вялікі за ліст, такі аб усім дакладны. Паглядзела карту Карскага за 1917 год (у Мінску на кангрэсе летам гэтым атрымала яе). Знайшла Зэльву, шашу да яе ад Слоніма. Так што ў думках там пабывала.

У мамінай вёсцы Шулякі я ніколі не была, не быў там і мой бацька, бо ён пазнаёміўся з мамай, калі гэты край быў ужо пад Польшчай.

Маміна маці Магдалена памерла ў Мінску неўзабаве пасля сустрэчы са сваім Астапам, які працаваў у вайсковым шпіталі. Не ведаю, хавалі яе там, ці сын павёз у Шулякі. Сям'я ўцякала ад немцаў, можа, вяртацца было небяспечна. Бацька мамін памёр у Шуляках ужо пасля вайны. Мама мая пахавана ў Маскве на Вастракоўскіх

могілках, таксама тут і мая сястра Лора. Акрамя мяне, нашчадкаў Ганны і Адама няма.

Пра Бялькевіча — гэта той самы Бялькевіч Янка, аўтар слоўніка. Аб ягоным лёсе раней нічога мы не ведалі, бо мама з Вяткі яму не пісала, баялася пашкодзіць родным такімі небяспечнымі на той час сувязямі. Нядаўна сама даведалася аб ягоным лёсе з адной беларускай газеты.

Другія маміны сваякі нас самыя адшукалі ў пачатку 60-х гадоў. З бацькавымі сувязь была ўвесь час. У Мінску жывуць мае стрыечная (па бацьку) сястра Акцябрына і брат Леанід са сваімі дзецьмі. З маміных сваякоў у Брэсце жыве яе пляменнік Мікалай, на Слонімшчыне ў вёсцы Селявічы — пляменніца Таня. Яе ніколі я не бачыла, а другія прыязджалі да нас, у Маскву.

Па бацьку ў мамы маёй сваякоў не было, акрамя дзеда, яна нікога не згадвала, а па яе маці ўспамінала пра цётку Агату (ці не па маці гэта была Янкі Бялькевіча?).

Аб бацькавай працы ў Мінску вельмі добрая даведка ў бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». Тэкст І. П. Чыгрына (ці не Ваш сваяк?), бібліяграфія Г. І. Рэўта. Бацька выдаў толькі маленькую кніжачку, 5 апавяданняў. Вершы і крытычныя артыкулы змяшчаў у часопісах і газетах, ніколі не выдаваў паасобна. Калі спіс Рэўта больш-менш поўны, то бацька напісаў каля 80-ці вершаў, апавяданняў, артыкулаў. Добрая кніжачка аб бацькавай дзейнасці — У. М. Конан «Адам Бабарэка» (Мінск, 1976). Там многа здымкаў, што мы з мамай Конану давалі (у копіях).

Цяпер пра сябе. Скончыла Маскоўскі ўніверсітэт, хімфак. Працавала два гады інжынерам на трактарным заводзе. Потым вярнулася ў Маскву, працую ў інсты-

туце металургіі РАН старшым навуковым супрацоўнікам, кандыдат тэхнічных навук. Займаюся вось якімі справамі — тэкстурамі металаў і керамікі. Сааўтар кнігі «Тэорыя ўтварэння тэкстур у металах і сплавах», больш чым за 100 навуковых артыкулаў і двух вялікіх аглядаў па гэтай тэме.

Як мы з сястрой (таксама хімікам) выбіралі спецыяльнасць. Жыццё паказала, што з двух Гарэцкіх-братоў гуманітарый загінуў, а тэхнічны спецыяліст вытрымаў (мы аб усім гэтым добра ведалі ад жонкі М. Гарэцкага, з якой разам жылі ў Вятцы). Дзеці яшчэ не былі ўпэўнены, што ўслед за бацькам не пагоніць іх лёс. Гэта, канешне, па-за свядомасцю.

Аўтабіяграфія — дык звычайнае жыццё дзяцей рэпрэсіраваных бацькоў. Але маміна добразычлівасць выклікала спачуванне да нашага лёсу і дапамагала ўсім выжыць. Бацька — ахвяра часу. А маці — падзвіжніца. Праглядаю часам бацькавы паперы, што маці захавала (нават ёсць запісы з мінскай турмы 1930–31 гадоў). З двума малымі дзецьмі мама ехала да бацькі ў Вятку і ўсё везла, усё захавала. Трэба бачыць гэтыя запіскі, каб даведацца, што за жыццё ў яе было, учарашняй вясковай дзяўчыны: праца (бо трэба забяспечыць сям'ю), дома дзеці малыя, перадачы ў турму, адтуль — брудная бялізна і ніякай дапамогі. Ад запісак (урывачкі) адрывалі ў турме ўвесь тэкст, акрамя просьбы аб перадачах. І ніякіх звестак аб бацькавым здароўі (у яго перад арыштам былі сухоты), дык як жа яна хвалявалася аб ім…

Пішу Ваш адрас — Слонім, і гэта выклікае ў мяне пачуццё: колькі разоў чула гэтае слова ад мамы, яна з захапленнем згадвала аб сваім жыцці ў Слоніме. Жыла

на кватэры ў Карлінскай (калі вучылася ў школе). Брат мамін Янка Дзянішчык працаваў таксама ў Слоніме ці то настаўнікам, ці то школьным інспектарам. Як казала мая маці, яго там добра ведалі і паважалі, нават на яе гэта ўплывала.

Выбачайце за памылкі ў правапісу. У школе беларускай вучыцца не давялося, як чытаю беларускую літаратуру, дык усюды розны правапіс, вось і блытаю.

Жадаю ўсяго найлепшага і поспехаў у Вашай працы. З павагаю Алеся Бабарэка».

Даўно не чытаў такіх шчырых і цудоўных пісьмаў, напісаных на прыгожай беларускай мове. І хоць Алеся Адамаўна ніколі не вучылася ў беларускай школе, затое выдатна піша па-беларуску. Адзінай школай для яе была школа яе бацькоў — Адама і Ганны Бабарэкаў. Найвыдатнейшая школа.

У пісьме Алеся Адамаўна прыгадвае пра Янку Бялькевіча — стрыечнага брата сваёй мамы. Тым больш, што Янка Бялькевіч таксама мой зямляк, родам са Слонімшчыны.

Нарадзіўся ён у 1883 годзе ў вёсцы Варонічы. Быў сябрам партыі беларускіх эсэраў. У 1925 годзе закончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў настаўнікам, дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума, у Інстытуце беларускай культуры і ў Інстытуце мовазнаўства БелАН.

Янка Бялькевіч займаўся пытаннямі арфаграфіі і культуры беларускай мовы. У лютым 1930 года ён быў рэпрэсіраваны і высланы ў горад Яшкар-Ала Марыйскай АССР на пяць гадоў. Але пасля адбывання тэрміну Янку Бялькевічу не дазволілі вяртацца ў Беларусь. Ён пераязджае ў Азова-Чарнаморскі край, дзе выкладае

рускую мову. З 1955 года наш зямляк працуе інжынерам-метадыстам Жданаўскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума.

Далёка ад Беларусі Янка Бялькевіч працуе над краёвым слоўнікам усходняй Магілёўшчыны. Але ўбачыць свой слоўнік надрукаваным яму не ўдалося: у кастрычніку 1960 года яго не стала.

Пра дзесяць гадоў жонка Янкі Бялькевіча Ніна Улашчык і сын Усяслаў Бялькевіч падрыхтавалі «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» і выдалі яго асобнаю кнігай. Гэты слоўнік і з’яўляецца данінай светлай памяці Янкі Бялькевіча — стрыечнага брата Ганны Дзянішчык.

*2002*

## ЗЭЛЬВЕНЦЫ Ў СВЕЦЕ

Сляды многіх зэльвенцаў згубіліся на чужыне. Па самых розных прычынах яны пакінулі родную Зэльвеншчыну: то Першая сусветная вайна, то рэвалюцыя ў Расіі, то грамадзянская вайна, то калектывізацыя, то Другая сусветная вайна, то сталінскія рэпрэсіі скранулі з абжытых селішчаў тысячы людзей, якія вымушаны былі шукаць больш бяспечных мясцін для працы і жыцця.

Вядома, пра ўсіх зэльвенцаў у свеце расказаць немагчыма. Але сярод іх ёсць асобы, абысці ўвагай якіх проста нельга.

Славутая вёска Дзярэчын на Зэльвеншчыне з 1685 года належала беларускаму магнацкаму роду

Сапегаў, была адной з іх галоўных рэзідэнцый. Далёкі нашчадак роду — Эўстах Сапега — зараз пражывае ў Афрыцы, у Кеніі. Ён прафесіянальны паляўнічы, сын былога міністра замежных спраў Польшчы (1920–1921) Эўстахія Каэтана Сапегі (1881–1963).

У 1995 годзе Польскім навуковым выдавецтвам была выдадзена фенаменальная манаграфія «Дом Сапежынскі» пад рэдакцыяй Эўстаха Сапегі. У ёй — усё пра Сапегаў. І, вядома, шмат напісана пра Дзярэчын. Дарэчы, летам 1997 года Эўстах Сапега наведаў радзіму сваіх бацькоў і дзядоў. Ён пабываў у Гродне, меў сустрэчу з зэльвенцамі: паэтам Міхасём Скоблам і прадпрымальнікам Валянцінам Дубатоўкам. На якой мове яны гутарылі? На польскай і на роднай беларускай мове. Уявіце, жыхар Афрыкі Эўстах Сапега размаўляе па-беларуску.

Цяпер з далёкай Афрыкі вернемся ў Вялікабрытанію, дзе жыве англійскі гісторык Міхась Гедройць. Нарадзіўся ён у маёнтку Лобзава, што каля Дзярэчына ў 1929 годзе. У 1940 годзе разам з маці быў дэпартаваны ў Сібір. Потым быў выезд у Іран, вучоба ў Лонданскім універсітэце.

Міхаіл Гедройць усё жыццё працаваў у галіне канструявання і эксплуатацыі авіятэхнікі. Адначасова даследаваў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. У апошні час наш зямляк заняўся гісторыяй хрысціянства ў Беларусі і Літве, апублікаваў на гэту тэму некалькі грунтоўных прац.

У 1990-я гады Міхаіл Гедройць наведаў сваю радзіму, пабываў у Дзярэчыне.

Калі ўжо размова пайшла пра Дзярэчын, то хачу сказаць, што пачынаючы з 1932 года тут жыў і працаваў беларускі перакладчык, публіцыст і выдавец Ян Пятроўскі.

Чатыры гады ў Дзярэчыне не прайшлі марна. У першым томе ягоных «Мемуараў», якія выйшлі з друку ў ЗША ў 1988 годзе, Ян Пятроўскі надрукаваў цэлы раздзел успамінаў пра гэтую вёску, які называецца «Дзярэчын — малы Версаль». Ён, у прыватнасці, шукаў адказу на пытанне: што за прычына, што Дзярэчын атрымаў у свой час імя малога Версаля. Што было агульным паміж малым Версалем і тым (Вялікім) французскім — узорам пышнасці двароў пануючых дынастыяў і багатых родаў?

«Дзярэчын, — пісаў Ян Пятроўскі, — мае за сабою доўгую і прыгожую мінуўшчыну, і як дагэтуль, запертую яшчэ на сем пячацяў перад аб'ектыўным беларускім гісторыяграфам».

Ян Пятроўскі жыў у ЗША ў штаце Фларыда. Ён выдаў тры тамы сваіх «Мемуараў», пераклаў на беларускую мову і надрукаваў шэсць кніг дыялогаў грэчаскага філосафа Платона.

Не кожная дзяржава ў свеце можа пахваліцца слоўнікам, які сёння маюць беларусы — маецца на ўвазе двухтомнік «Грэчаска-беларускі слоўнік» Яна Пятроўскага. У 1960-х гадах наш зямляк у Амерыцы выдаў часопіс «Сьветач Хрыстовае Навукі», надрукаваў паштоўкі, прысвечаныя Францыску Скарыне, а таксама трохтомнік «Лепшых думак чалавека».

Большую частку жыцця пражыў у Бельгіі і былы жыхар Зэльвы Яўген Смаршчок. Нарадзіўся ён у

1914 годзе. У 1939 годзе наш зямляк быў мабілізаваны у польскае войска, прымаў удзел у польска-нямецкай вайне, дзе пад Варшавай трапіў у палон. Пасля палону працаваў у Берліне на фабрыцы, а восенню 1947 года пераехаў у Марбург і паступіў на псіхалагічны факультэт Філіпс універсітэта. У 1950 годзе атрымаў дыплом магістра псіхалогіі. Пасля жаніцьбы на Зоі Жалязоўскай — студэнтцы фармацэўтычнага факультэта Лювэнскага ўніверсітэта — Яўген Смаршчок пераязджае ў Бельгію і паступае на педагагічны факультэт таго ж універсітэта. Пасля заканчэння яго атрымаў дыплом доктара педагогікі.

У 1966 годзе былы зэльвенец напісаў вялікую працу «Гісторыя і актуальны стан беларускай бібліяграфіі».

Закончыў ён яшчэ і студыю ў Інстытуце філалогіі і гісторыі ўсходніх славян пры Брусельскім універсітэце, атрымаўшы пры гэтым дыплом магістра філалогіі.

У 1969 годзе Яўгену Смаршчку прапануюць пасаду дацэнта ў Вышэйшай Фламандскай школе ў Антвэрпене, дзе ён выкладаў рускую мову аж да 1980 года. Перад пенсіяй яму было нададзена званне прафесара вышэйшых школ.

25 верасня 1984 года наш зямляк адсвяткаваў сваё 70-годдзе, а праз дзесяць дзён раптоўна памёр — спынілася сэрца.

У пачатку XX стагоддзя развітаўся з радзімаю яўрэйскі паэт з Зэльвы Якуб Саладскі, які эмігрыраваў у Ізраіль.

У вёсцы Пятрэвічы нарадзіўся польскі паэт міжваеннага часу Альбін Дзяконскі.

У 1920-х гадах у вёсцы Луконіца ў Міхайлаўскім касцёле служыў каталіцкім святаром вядомы беларускі перакладчык, выдавец і рэлігійны дзеяч Вінцук Адважны (1890–1978). Пазней ён жыў у Кітаі, Польшчы, Італіі, а апошнія гады жыцця правёў у Англіі, дзе рэдагаваў часопіс «Божым шляхам».

Пісьменнік Барыс Сачанка ў адной са сваіх кніг напісаў: «Эміграцыя… Розная яна была і па-рознаму складвалася ў кожнага чалавека».

Па-рознаму складвалася і складваецца яна і ў нашых простых і таленавітых землякоў-зэльвенцаў у вялікім і трывожным свеце. Але што зробіш — такі іх лёс…

## ГЕНЕРАЛ ГАМПЕР

Шмат разоў бываў на могілках у Дзярэчыне, дзе знаходзіцца магіла генерал-маёра Ермалая Ермалаевіча Гампера. І кожны раз думаў: што гэта за чалавек, як ён трапіў на Беларусь?..

Прагледзеўшы шмат кніг і брашур па гісторыі Айчыннай вайны 1812 года, я нічога пра генерала Гампера не знайшоў. Праўда, у Слонімскім раённым краязнаўчым музеі ёсць на адным са стэндаў фотакартка, пад якой стаіць подпіс «Удзельнік Айчыннай вайны 1812 года генерал Е. Е. Гампер». Больш у музеі пра яго нічога няма.

Не адкладваючы пошукі на будучае, звяртаюся ў Санкт-Пецярбургскую Ваенную галерэю Зімняга палаца. Праз некаторы час атрымліваю адказ, што ў Ваеннай галерэі Зімняга палаца ёсць партрэт генерал-маёра Ермалая Ермалаевіча Гампера. У свой час для

напісання партрэтаў Ваеннай галерэі быў запрошаны вядомы англійскі партрэтыст Джордж Доу (1781–1829). Праца працягвалася з 1819 да 1828 года. Сам Доу напісаў каля 150 партрэтаў (усяго ў галерэі знаходзіцца 322 партрэты рускіх генералаў – удзельнікаў вайны 1812–1814 гадоў). Усе астатнія карціны-партрэты належаць пэндзлю рускага мастака з прыгонных А. Палякова (1801–1835) і рускага партрэтыста В. Голіке (памёр у 1848 годзе). Так як партрэт Гампера не мае подпісу і даты, таму цяжка сказаць, хто з пералічаных вышэй мастакоў напісаў яго і ў якім годзе. Відаць, партрэт маляваў Джордж Доу.

У Ваеннай галерэі Зімняга палаца і ў Ваўкавыскім ваенна-гістарычным музеі імя П. І. Баграціёна ёсць рэдкае выданне «Ваенная галерэя 1812 года», якое выйшла з друку ў 1912 годзе. Менавіта тут мне ўдалося знайсці сёе-тое з біяграфічных звестак Е. Е. Гампера.

Ермалай Ермалаевіч Гампер паходзіў з курляндскіх дваран. На ваенную службу быў прызваны ў 1766 годзе ў Казанскі кірасірскі полк. Прымаў удзел у ваенных паходах і бітвах у Малдавіі (1770), на рацэ Кагул, у Валахіі ў 1771 годзе, у вайне з Турцыяй (1768–1774), у 1809 годзе ўдзельнічаў у штурме Ізмаіла.

У гады руска-французскай вайны 1812 года генерал Гампер камандаваў Смаленскім драгунным палком у арміі Чычагава. З гэтым палком ён і дайшоў да Беларусі. Тут у 1813 годзе быў назначаны старшынёй Палявога генерал-аўдытарыята…

У снежні 1814 года цяжка захварэў і памёр.

## ЯНКА І ЛАРЫСА ГЕНІЮШЫ

Пачну з радкоў з пісьма Ларысы Геніюш да Сакрата Яновіча ад 3 красавіка 1969 года (Ларыса Геніюш. Каб вы ведалі… Мінск, 2005. С. 235): «Дарагі сябра Сакрат! Цяжка паэту пісаць прозаю, але вельмі хочацца мне паслаць Вам гэты кусочак успамінаў са старых Крынак. Калі б з гэтага нешта надавалася для друку, а імя маё не было дзеля гэтага перашкодай, дык, калі ласка, пакланецеся і ад мяне старому гарадку маяго роду…»

Ларыса Геніюш нарадзілася ў 1910 годзе на Ваўкавышчыне ў фальварку Жлобаўцы, як яна сама пісала, на зямлі «з дзядоў і бацькоў беларусаў». А дзед яе Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак. Ларыса Геніюш аб гэтым успамінае і ў артыкуле «Крынкі» («Маладосць», 1997, № 1): «Казаў мой дзед Павел, што некалі прыйшлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і заляжылі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, а ад Міхала — Міхайлоўскія — два старыя, адвечныя роды ў Крынках». А ажаніўся Павел Міклашэвіч на 18-гадовай Марфе з вёскі Чамяры, што побач з маім родным Слонімам. Так што сувязь Слоніма і Крынак па сваяках Міклашэвічаў-Геніюшаў існуе даўно.

Будучы муж Ларысы Геніюш — Янка Геніюш — нарадзіўся ў 1902 годзе ў саміх Крынках. І калі Ларыса Антонаўна Міклашэвіч выйшла замуж за Янку Геніюша, то запыталася жартам у яго: «А дзе ж ты нарадзіўся?» — «Гдзе? У Крынках!» — адказаў Янка. І сапраўды… дзе ж яшчэ можна нарадзіцца на Беласточчыне, як не ў славутых Крынках.

Калі пра Ларысу Геніюш у Беларусі і за яе межамі напісана і пішацца шмат, то пра Янку Геніюша зусім

мала. Згадваецца зрэдчас, што ён быў мужам вялікай паэткі. Таму хочацца пра Янку Геніюша распавесці больш, але спачатку ўсё ж прыгадаю яшчэ раз Ларысу Геніюш — сапраўды геніяльную паэтку, мужную жанчыну і шчырую беларуску.

3 лютага 1935 года Ларыса Міклашэвіч узяла шлюб са студэнтам медычнага факультэта Карлава ўніверсітэта (Прага) Янкам Геніюшам у Воўпенскай царкве, што на Ваўкавышчыне. Пасля шлюбу пераехала ў Зэльву, дзе хутка нарадзіўся ў маладой сям'і сын Юрка. У 1937 годзе маці з сынам перабраліся ў Прагу да мужа і бацькі, дзе ён працаваў лекарам.

У 1942 годзе ў Празе выходзіць першы зборнік паэзіі «Ад родных ніў». Там паэтка актыўна займаецца літаратурнай і грамадскай дзейнасцю, уваходзіць у Беларускі камітэт самапомачы, працуе сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі. 5 сакавіка 1948 года Ларысу Геніюш разам з мужам Янкам арыштоўваюць у г. Вімпэрк, пазбаўляюць чэхаславацкага грамадзянства, выдаюць савецкім спецслужбам і пад канвоем дастаўляюць у Мінск, дзе паэтку асабіста дапытваў тагачасны міністр МГБ БССР Л. Цанава, патрабуючы аддаць архіў БНР.

7 лютага 1949 года Вярхоўны Суд БССР прыгаварыў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне яны адбывалі далёка на Поўначы былога СССР. У Зэльву вярнуліся ў 1956 годзе, бо былі вызвалены як несавецкія грамадзяне. У Зэльве жылі да самай смерці на Савецкай вуліцы, 7а.

Цяпер пра Янку Геніюша. Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому» пра Янку Геніюша сказаў, што «ўвогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай

беларускай шчырасцю». А калі Янка Геніюш заязджаў да Васіля Быкава ў Гародню, то яны вялі доўгія гутаркі пра ўсё на свеце, але найперш пра Беларусь і лёс беларусаў. З іх вялікі пісьменнік «пазнаў нямала новага і нават неспадзяванага з жыцця на акупацыйнай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды…». Так згадваў Васіль Быкаў Янку Геніюша.

Па характары Іван Пятровіч быў розны — то спакойны, то занадта рэзкі і гарачы ў выказваннях, то чулліва-лагодны, то вясёлы. Але найперш да канца сваіх дзён (памёр 19 лютага 1979 года, а Ларысы Геніюш не стала 7 красавіка 1983 года, пахаваны ў Зэльве на мясцовых могілках. — *С. Ч.*). Янка быў і застаўся шчырым беларусам, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Дый іншым Янка Геніюш быць не мог. Тым больш, што побач з ім, нягледзячы на ўсе пакуты, цяжкія і шматгадовыя ростані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хваляванні, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім абодвум стаіць помнік на зэльвенскіх гарадскіх могілках), былі выбіты такія радкі:

Па сонца асветы ўзлятаў, нібы птах,
З палоскі сялянскае, вузкае.
Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях
Пачэсны, цяжкі, беларускі.

А калі да Ларысы Геніюш прыязджалі сябры і яны прыходзілі на зэльвенскія могілкі да магілы Янкі Геніюша, Ларыса Антонаўна казала: «Вось тут спіць

мой Янка, на мяккай пярынцы. Каторы гадочак спіць Яначка, адбегаў сваё, адгараваў…»

З Крынак шлях ляжаў у Прагу, куды Янка Геніюш прыехаў вучыцца. Ён паступіў у Карлаўскі ўніверсітэт, а пасля яго заканчэння атрымаў медыцынскую адукацыю, стаў урачом-венеролагам.

Жыццё ў Празе было вельмі цікавым і разнастайным. Тут жылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускія спевакі, кампазітары, мастакі, пісьменнікі. З імі ўсімі быў знаёмы Янка Геніюш, з многімі шчыра сябраваў. А яшчэ ён быў актыўным сябрам пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы.

Падчас акупацыі Прагі нямецкімі войскамі, кіраўнік Беларускай народнай самапомачы (БНС) Іван Ермачэнка адправіў Янку Геніюша ў Беларусь, у прыватнасці, у Слонім на лекарскую працу. Пры жыцці доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка расказаў мне адзін цікавы эпізод з жыцця Янкі Геніюша ў акупіраваным немцамі Слоніме: «Падчас акупацыі ў 1943–1944 гадах мой бацька быў намеснікам слонімскага гебітартца (слонімскага райздрава), а гебіткамісаратрцам быў не хто іншы, як дзядзька Янка, спадар Іван Пятровіч Геніюш. Толькі па рэцэптах за подпісам майго бацькі выдаваліся ў слонімскай аптэцы лякарствы. Тыя лекі ішлі да партызанаў, і спадар Геніюш не мог таго не ведаць. А яшчэ Іван Пятровіч стаў героем у вачах майго бацькі, калі ён не ўскінуў руку дзеля прывітання слонімскага гебіткамісара Эрэна, п'ючы піва пры рэстараннай стойцы, калі ў рэстаран зайшоў Эрэн. Эрэн зрабіў на тое заўвагу, на якую дзядзька Янка зрэагаваў імгненна: «А хто тут гаспадар, мы ці вы?!» Праз некалькі дзён слонімскі арцтгэбіт узначальваў ужо не Геніюш: Эрэн

прагнаў яго ў Баранавічы. Іншай меры пакарання Эрэн не дабіўся, бо за Генюшам стаяла слава тых, хто падпісаў з Прагі ліст самому Гітлеру…» Што датычыць ліста Гітлеру, дык пра гэта і ўсе тыя махінацыі, якія вытвараў у акупацыйнай Празе Іван Ермачэнка, добра расказала Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі».

Гісторыю пра рэпліку Янкі Геніюша ў адрас гебіткамісара Эрэна, расказаную Алегам Лойкам, аспрэчыў Барыс Данілюк (1923–2011), які падчас акупацыі жыў у Слоніме. У адным з пісем да аўтара гэтых радкоў спадар Барыс пісаў: «У Слоніме пры немцах не было ніякага рэстарану, апрача харчэўні Самапомачы. У ёй піва не прадавалі, ды і ў такую харчэўню гэбіткамісар ніколі не пайшоў бы. Піва, магчыма, было ў “Soldatenheim”, але туды для “Einhemishe”, у тым ліку і для доктара Геніюша, не было доступу». Хто з іх меў рацыю — цяжка сказаць, але ж ад смелага і рызыкоўнага Янкі Геніюша, які моцна любіў Беларусь, можна было чакаць і такой рэплікі ў адрас чужынцаў.

Вярнуўшыся са сталінскіх лагераў, Іван Пятровіч уладкаваўся працаваць доктарам у мясцовай зэльвенскай бальніцы. Пісьменнік Уладзімір Арлоў прыгадвае: «Янка Геніюш быў добрым лекарам, што маглі б засведчыць і ягоныя чэшскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязьня, не прызнаючы замежны Янкаў дыплом…»

Янка Геніюш вельмі любіў беларускія кнігі. Ён іх купляў у крамах, прасіў сяброў, каб высылалі яму новыя беларускія выданні з Мінска, з абласных гарадоў. Некалі ён першы даў сваёй нарачонай Ларысе пачытаць вершы Янкі Купалы, расказваў ёй пра гісторыю

Беларусі, пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны. Ці не Іван Пятровіч адкрыў жонцы — будучай паэтцы Ларысе Геніюш — свет беларускасці, натхніў на паэзію?!. Бо ведаў ён шмат. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік нядаўна прыгадаў, як ён быў яшчэ школьнікам, а Іван Пятровіч натхніў яго падпісацца на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю. «Іван Пятровіч фанатычна любіў беларускія кнігі: купляў усе, якія выдаваліся, нават па некалькі паасобнікаў, купляў тыя, якія трэба было купляць і тыя, якія яму былі нават не патрэбныя», — успамінае Уладзімір Ягоўдзік.

Калі не стала Янкі і Ларысы Геніюшаў, я пабываў у іх доме з настаўнікам з Дзярэчына Пятром Марціноўскім. Тады якраз з Беластока Валянціна Геніюш — нявестка Геніюшаў — прыехала, каб вырашыць пытаннем з домам Геніюшаў у Зэльве. «Усю бібліятэку Янкі і Ларысы Геніюшаў абяцала купіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі, але ў апошні момант адміністрацыя бібліятэкі адказалася ад кніг, — уздыхнула Валянціна. — Бярэце, хлопчыкі, што-небудзь сабе з гэтых выданняў…»

Кніг у хаце Геніюшаў сапраўды было шмат: у адным пакойчыку яны стаялі на паліцах ад падлогі да столі. Вялікая гара выданняў па медыцыне ляжала проста на падлозе. Мы ад убачанага проста разгубіліся. У гэтым доме можна было зрабіць музей Геніюшаў, куды прыязджалі б штогод тысячы турыстаў, бо Зэльву сёння ведаюць толькі таму, што там жылі і пахаваны Янка і Ларыса Геніюшы. Але, на вялі жаль, ніякага музея там няма, нават на 100-годдзе паэткі не дазволілі мясцовыя ўлады ўстанавіць на доме мемарыяльную шыльду. Яе сарвалі, і шыльда знаходзілася ў міліцыі. Нядаўна яе мне і Міхасю Скоблу ўсё ж вярнулі, але ўстанавіць на

доме, дзе жылі Геніюшы, зэльвенскія чыноўнікі так і не дазволілі.

Уладзімір Арлоў у сваёй кнізе «Імёны свабоды» згадвае: «Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, “дабрадзеі” пусцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі.

Ён памёр на жончыных руках. Ларыса Антонаўна сама яго мыла і апранала.

“Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак нельга аб гэтым…”»

Пры жыцці ў іх хаце часта гасцілі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Па-рознаму яны адносіліся найперш да Івана Пятровіча, які пасля сталінскіх лагераў страшна ненавідзеў камуністаў і савецкую ўладу, а яшчэ мацней любіў Беларусь і ўсё жыццё марыў аб яе незалежнасці ад Расіі. Пакуль мара Янкі Геніюша не споўнілася. Не збылася і светлая мара Ларысы Геніюш, пра якую яна пісала ў сваіх вершах:

І будзем верыць мы ў кайданах,
Узняўшы сэрцы угару,
Што так, як Бог укрыжаваны,
Васкросне й наша Беларусь!

Чытачам кнігі прапаную ўспамін Янкі Геніюша пра беларускага паэта, мастака, калекцыянера Гальяша Леўчыка (1880–1944). Гэты ўспамін пры жыцці мне даслаў Янка Саламевіч з Мінску.

# З УСПАМІНАЎ ПРА ГАЛЬЯША ЛЕЎЧЫКА

Пра Гальяша Леўчыка ведаю няшмат. Пазнаёміўся з ім і ягонай жонкай Зосяй недзе ў трыццатыя гады ў Слоніме. Дакладна не памятаю гэтай даты. Трапіў я да іх пару тыдняў пасля іх вяселля, запрошаны ягонай жонкай, якая мела сваякоў у Зэльве — нашых добрых знаёмых.

Якое было маё здзіўленне, калі, увайшоўшы ў хату, убачыў на сцяне партрэцік Гальяша Леўчыка ў баранавай шапцы і каўняры — той самы, што ў «Чыжыку беларускім».

Гальяш Леўчык меў тады нейкіх 50 ці праз 50 гадоў. Жонка была малодшая. Была гэта даволі прыгожая жанчына, якая прывяла Леўчыку з сабой у хату дзве свае сваячкі-сіраты, якімі ён заапекаваўся і яны жылі разам з імі. Г. Леўчык быў вельмі жывы, рухавы, хораша іграў на гітары і пяяў. Пяяў ён з глыбокім пачуццём, пранікнёна. Мне асабліва запамяталася песня «Мне трэба ўмярці, а жыў яшчэ так мала». Іграў ён яшчэ на нейкай свісцёлцы, накшталт акарыны. І гэта таксама ў яго хораша атрымлівалася. Увесь белы быў, але як жа малады духам!

Невялічкая хата ўся была застаўлена кніжкамі на стэлажах і вельмі цікавай беларускай керамікай, купленай ім на кірмашах — было яе якіх 20 дэкаратыўных, непаўторных экземпляраў. Пасля мінулага пачастунку, асабліва духовай яго часткі, мы хадзілі з ім яшчэ доўга па Слоніме, заходзілі да яго знаёмых. Ён мне распавядаў, як цікава пазнаёміўся з жонкай. Прачытаў недзе абвестку ў газеце аб тым, што дзяўчына напісала аповесць з беларускага жыцця і звяртаецца,

каб нехта дапамог яе выдаць, бо сама не мае на гэта сродкаў. Леўчык адгукнуўся на такую справу і папрасіў прыслаць яму рукапіс. Дзяўчына прывезла яму рукапіс асабіста і ён захапіўся болей аўтаркай, чым рукапісам, што ў хуткім часе скончылася шлюбам. Аб далейшай долі таго рукапісу, на жаль, не ведаю.

Мне хацелася часцей яго бачыць і гутарыць, але я тактоўна стараўся не наносіць лішніх візітаў. Аднак яшчэ пару разоў мы з ім бачыліся. Ён звяртаўся да мяне, маладога студэнта-медыка, па розныя парады ў гэтай галіне. Хутка мы з ім развіталіся, бо мне трэба было ехаць у Прагу канчаць амаль без грошай у чужым краі сваю вучобу.

Едучы ў Прагу, я заехаў да іх у Варшаву — апрача хаткі ў Слоніме мелі яны там невялікую кватэру, усю застаўленую кніжкамі, сярод якіх было шмат беларускіх. Паказваў мне ён тады вельмі хораша выдадзеную метадычную «Божую ліру» на беларускай мове. Казаў, што рабіў якраз для яе пераклады. Я толькі заўважыў, што гэтая кніжка была напісана надта добрай беларускаю моваю.

Даў ён для мяне тады старую газету на беларускай і рускай мовах, якую выдавалі беларускія студэнты ў Петраградзе (назвы не памятаю). І яшчэ даў мне вайсковы статут на беларускай мове, выдадзены ў Лодзі палякамі ў свой час. Гэтыя дзве рэчы я аддаў у Пражскі беларускі архіў, які існаваў пры славянскім архіве, бо лічыў, што там яны лепей захаваюцца.

Болей я з Гальяшам Леўчыкам не сустракаўся. Калі я ажаніўся і да мяне прыехала ў Прагу жонка з сынам, мы атрымалі яшчэ ад Леўчыка пару кніжак на роднай мове

аб выхаванні дзяцей. Гэта было даўно, ды можа не ўсё захавала памяць, але вобраз Гальяша Леўчыка застаўся ў маёй памяці чысты такі і пранікнёна беларускі.

Чуў я ад людзей, што ў яго варшаўскую маленькую кватэру ў час вайны трапіла нямецкая бомба. Было гэта, як казалі, у яго адсутнасці. Так што нічога яму не ўдалося выратаваць. Жонку ягоную, кажуць, расстралялі немцы ў час вайны ў Слоніме, у адной з аблаваў на людзей. Дзе пахаваны Г. Леўчык — не ведаю і чуць мне аб гэтым не давялося. Кароткае было маё знаёмства з ім, але памяць аб ім я захаваў праз усё жыццё. Часта ўспаміналіся ягоныя словы:

Хто адрокся сваіх,
І стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых, —
Каб ён свету не знаў!..

*Янка Геніюш*

## АЎТАРЫ — МАЦІ І СЫН

Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якім кіруе Ян Чыквін, выпусціла ў Беластоку кніжку «Маці і сын» (Беласток, 1992). Пад вокладкай — раней невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша.

Вершаваная падборка Ларысы Геніюш названа «Сэрца». Добрая назва, бо ўсе вершы тут сапраўды напісаны ад шчырага сэрца, з вялікай любоўю да Беларусі, яе людзей, з любоўю да нашай роднай зямлі.

Уступнае слова «Яна лічыла сябе яцвяжкай» да вершаў слыннай паэткі зрабіла Данута Бічэль, якая напіса-

ла: «Ларыса Геніюш і яе хата, як сонейка, прыцягвалі ўсё яшчэ жывое на Беларусі — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, сялянак. І ўсе бітыя, пакрыўджаныя, параненыя знаходзілі той ганак удзень і ўночы, стукалі ў сенцы, не зважаючы на суседку, якая бяссонна стаяла на варце ў суседніх дзвярах. Іх там кармілі, адпойвалі, суцяшалі словамі…»

Сапраўды так, бо толькі сэрцам можна напісаць радкі:

Не хачу быць дома эмігрантамі!
Гаспадыня тут я — а ня госьць!
Гаварыць на дзікім «эсперанта»,
Калі мова матчыная ёсць?!

Трыццаць дзевяць невядомых раней вершаў Ларысы Геніюш увайшлі ў беластоцкі зборнік «Маці і сын». Кожны радок і кожная страфа яе вершаў адметныя тым, што яны трывала прывязаны да родных ніў, родных беларускіх хат, дзе спрадвечна і нязгасна жывуць лепшыя традыцыі і звычаі беларусаў.

Ларыса і Юрка Геніюшы амаль усё жыццё жылі ў ростані. Сустракацца выпадала рэдка. І гэта добра, што пад адной вокладкай, пад адным літаратурным дахам сышліся яны — маці і сын.

Падборка Юркі Геніюша мае назву «Да свету». Яе напісаў Сакрат Яновіч. Прадмова невялікая, але шчырая і простая: «Юрка Геніюш пісаў мала, няшмат пакінуў у спадчыну існа літаратурных твораў. Больш займаўся публіцыстыкай, якая, як вядома, рэдка вытрымлівала выпрабаванне часам. Засталося па ім — колькі вершаў, нізка паэтычнае прозы, трохі апавяданняў, некалькі п’ес (для дзяцей сцэны перша за ўсё)…»

Талент Юркі Генюша больш праявіўся ў паэтычнай прозе. Менавіта яна ў асноўным і прадстаўлена ў гэтай кнізе. Яго маленькія розныя па тэматыцы лірычныя абразкі чытаюцца лёгка, зразумелыя ўсім. Сюды, праўда, увайшло і некалькі вершаў, якія напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове.

Шмат можна пісаць і разважаць над творамі Генюшаў. Але хочацца проста шчыра і сардэчна падзякаваць беларускім літаратарам з Беласточчыны за добрую кніжку твораў тых, каго мы любім і цэнім. Такое выданне ў гісторыі беларускай літаратуры ажыццёўлена ўпершыню, а гэта ж вялікая радасць — пад адною вокладкаю выдаць творы маці і сына.

*1992*

## СА ЗВАНІЦЫ ЮРКІ ГЕНЮША

У лістападзе 1985 года з Беластоку прыйшла сумная вестка: памёр Юрка Генюш, таленавіты беларускі празаік, драматург, паэт і публіцыст, сын слыннай паэткі нашага краю Ларысы Генюш.

Нарадзіўся ён у 1935 годзе ў Зэльве. Па трагічных для сям'і Генюшаў абставінах большую частку свайго жыцця пражыў без бацькоў у Беластоку. Тут пабудаваў свой дом, меў добрую сям'ю.

Пісьменніцкі лёс Юркі Генюша непарыўна звязаны са станаўленнем і развіццём беларускага тыднёвіка «Ніва» і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, у дзейнасці якога ён прымаў актыўны ўдзел. Дэбютаваў Ю. Генюш на старонках «Нівы»

у кастрычніку 1964 года — гэта было апавяданне «Прыкметы».

Пісаў Юрка Геніюш таксама і сцэнічныя творы. Прыкладам можа служыць «Зборнік сцэнічных твораў», які ён выдаў у 1976 годзе ў Беластоку супольна з Сакратам Яновічам.

Пахаваны пісьменнік Юрка Геніюш у Беластоку, на праваслаўных могілках, у Петрашоўскім квартале горада.

У 1992 годзе беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», якім кіруе Ян Чыквін, выдала ў Беластоку кнігу «Маці і сын». Пад адну вокладку былі сабраны раней невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша, якія былі напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове. А ў 1993 годзе праграмная рада тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку з удзелам Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшчы, якое было фундатарам, выдала асобную празаічную кнігу Юркі Геніюша «З маёй званіцы».

У кнігу ўвайшлі фельетоны, гумарыстычныя абразкі і апавяданні. Празаік трапна, лаканічна, у звычайнай вобразнай форме расказвае пра смешныя моманты з жыцця сваіх землякоў. Аб чым толькі ён не гутарыць! Чаго тут чытач не пачуе! Чаму ў каровы хвост уніз расце? Чаму пра цябе адну мару, найхарашэйшая мая? Як чэрці свіней у балота сцягнулі? Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў? На гэтыя і дзясяткі іншых смяхотлівых пытанняў дае жыццёвыя адказы Юрка Геніюш. Гэтыя адказы простыя і зразумелыя, як анекдоты. У іх шмат арыгінальных прыказак і прымавак, багата яркіх і запамінальных фразеалагізмаў, народных выслоўяў і рэплік: «шлюбнай жонцы ніколі ні ў чым не адмаўляй»,

«сабака брэша, дзеці пішчаць, жонка сварыцца, матор гудзе», «вочы ў зямлю ўваб'е», «сыцее і сыцее — пад нож даспявае», «пад лыжачкай смокча» і многія іншыя.

Творы Юркі Геніюша мне чымсьці нагадваюць прозу Андрэя Мрыя. Яны, кажучы словамі Максіма Гарэцкага, «агульнадаступныя, лёгкія, у духу свайго дня з рознымі слоўнымі эфектамі».

Да кнігі «З маёй званіцы» невялікае слова згадкі напісаў Сакрат Яновіч. Ён, дарэчы, адзначыў: «Успамінаючы драматычную смерць Юркі (20 лістапада 1985 года), прыходзіць на думку і такая канстатацыя: яго згубіў нядобры час! Будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурных здаволенцаў і наменклатурных паноў. Як кожны пісьменнік, дабіваўся друкавання, што было такому заняткам на тую пару вычарпальным. Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся запісваць у іх тое, чаго не напісаў. І ён заплаціў гэтую чортаву даніну — не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцяй у свае пяцьдзясят».

*1994*

## «СНУЕЦЦА З ПЕСНЯМІ ЛЬНЯНОЕ ПРАДЗІВА…»

Вывучаючы беларускія народныя песні, паэтка Ларыса Геніюш і сама шмат распрацавала матываў народнай творчасці. У сваёй літаратурнай дзейнасці яна заўсёды звярталася да фальклору як да крыніцы, якая можа даць для творчасці кожнага паэта ўзоры высокай мастацкай вобразнасці і паэтычнага майстэрства.

Паэзія Ларысы Геніюш была простай, мудрай, народнай:

Не згінай мяне, я не сагнуся,
Не баюся ні страхаў, ні зла.
Нездарма я з зямлі беларускай
Непахіснай сасною ўзрасла.

Першыя вершы паэтка напісала яшчэ да вайны. У іх выказаны пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту заходнебеларускага насельніцтва, вера ў тое, што нарэшце ўзыдзе «волі зелейка», якое трэба паліваць не толькі слязьмі, але і «крывёю ўласнай». Лірычны герой праграмнага верша «Тры дарогі» (1937) свядома выбірае шлях служэння свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне.

З кожным годам лірыка Ларысы Геніюш станавілася ўсё больш аптымістычнай. Склад думак паэткі, выяўлены ёю ў мастацкіх творах, вызначаецца сваёю народнасцю. Паэтычная вобразнасць, матэрыялам для якой служыць жыццё і побыт працоўнага чалавека, прастата і задушэўнасць, якімі прасякнуты яе творы — усё гэта ідзе ад народнай творчасці, ад фальклору:

Што тут было — зямлі амаль няўцям,
Мінае ўсё у ветру перагудзе.
Галоўнае — пульс вечнага жыцця,
Галоўнае, што заўтра ў полі будзе.

Народнай творчасцю абумоўлены многія асаблівасці паэтычнай мовы Ларысы Геніюш, якая ўспрыняла выразнасць і лаканічнасць народнай творчасці. Традыцыйныя эпітэты і азначэнні, якія часта сустракаюцца ў мове паэткі, ідуць ад фальклору: дубовае карыта, шэрае беднае зрэб’е, цуглі срэбныя, льняное прадзіва, слязінка скупая, адвечная роля, нітка льняная…

Сувязь яе з фальклорам выявілася ў характары параўнанняў, якія ўжываліся паэткай:

Не зязюлька пяе ля ракі —
Тчэ дзяўчына сабе ручнікі.
Раным раннем ўсё стук, стук, стук,
А чаўночак слізгаецца з рук.

На народны матыў напісаны верш «Дзяўчына»: пан загледзеўся на прыгожую дзяўчыну, у якой «цвілі вясной ясна вочанькі ў полі сінімі васілёчкамі». Ён хоча, каб яна стала яго жонкай і жыла ў «месце каменным».

Але дзяўчына адмовілася:

Не пакінула ракі Нёмана,
Ні лясоў сівых з ціхім гоманам.
Сяла роднага, краю мілага,
Каб быць паняю, не пакінула.
У сяле сваім песняй, словамі
Сэрца цешыла Міхасёвае.

Фальклорныя вобразы, фальклорная рытміка ўдала выкарыстаны ў вершах «Явар з ветрам хіліўся», «Над

рэчкаю», «Дзед», «У сёлах даўно не прадуць» і г. д. Звяртаючыся да народных узораў, паэтка ўзнімае іх да вышынь сапраўднай сучаснай паэзіі.

Ёсць у Ларысы Геніюш і паэма «Куфар», напісаная ў 1965 годзе. Разам з аўтарам чытач адчыняе века старадаўняга бабулінага куфра і любуецца адмыслова вытканымі посцілкамі і палотнамі, дыванамі і хусткамі, паясамі і світкамі.

Даматканыя вырабы ўвабралі ў сябе ўсе колеры вясёлкі. Яны захоўваюць цяпло чалавечых рук, якія выткалі ўсю гэту прыгажосць. Таму паэма «Куфар» успрымаецца як гімн чалавеку-працаўніку, чалавеку-мастаку.

Частае ўжыванне паэткай паўтораў таксама ідзе ад народнай творчасці, для якой гэты прыём з’яўляецца вельмі характэрным:

Ваду конікі пілі чыстую,
Хвалі беглі ў даль серабрыстую,
Пілі конікі, напіваліся,
Вочы хлопцавы недзе рваліся.

У прадмове да кнігі вершаў «На чабары настоена» Данута Бічэль адзначыла: «Ларыса Геніюш стварае свае вершы, быццам прадзе дзівосны кужаль і тчэ на бабуліных кроснах узоры ў ромбікі з беларускіх патаемных слоў…»

Ткацтва, прадзіва — улюбёныя дэталі мастацкіх знаходак Ларысы Геніюш. Як нашы бабулі ўмелі па-майстэрску ткаць на кроснах дзівосныя ромбікі, так і Ларыса Антонаўна ўмела выкарыстаць ткацкае рамяство ў паэзіі:

Снуецца з песнямі льняное прадзіва,
Пасаг бы з кужалю танчэй саткаць.
Жартоўна кросенцы мае разладзілі,
Уток заблыталі — не разблытаць.

У вершах, якія звязаны з народнай творчасцю, мацней адчуваецца еднасць Ларысы Геніюш з Бацькаўшчынай, для шчасця і росквіту якой яна аддала ўсе свае сілы:

Адзінай мэты не зракуся
І сэрца мне не задрыжыць:
Як жыць — дык жыць для Беларусі.
А без яе — зусім не жыць.

## ЭПІСТАЛЯРНЫ РАМАН ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

Гэту кнігу міжволі ўзважваеш на далоні, нібы ёмістую цагліну з гістарычнага падмурку Беларушчыны. Узважваеш з нялёгкім уздыхам: глыбока ў душу, трывожна і пранікліва яна, гэта кніга, углядаецца вачыма мужнай і таленавітай беларускай паэткі Ларысы Геніюш.

Гэта кніга незвычайная і арыгінальная. Кніга, якую чытаеш як гістарычны раман. Падобнага выдання ў Беларусі яшчэ не было. Яшчэ ніколі не выходзіла эпісталярная спадчына асобным выданнем у Беларусі ні пісьменнікаў, ні вучоных, ні палітыкаў. Нарэшце напачатку XXI стагоддзя такое выданне ў нашай рэспубліцы з’явілася. Вядома, беларусы спазніліся, можа, на цэлае стагоддзе ў плане выдання эпісталярнай спадчыны асобнымі выданнямі. А выдаваць у нас ёсць каго. Най-

перш гэта лісты У. Сыракомлі, А. Вярыгі-Дарэўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, А. Ельскага, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча, М. Танка, В. Быкава, З. Верас, У. Дубоўкі, Г. Леўчыка, А. і Л. Луцкевічаў, Г. Каханоўскага, дзеячаў беларускай эміграцыі і многіх-многіх іншых. Іх лісты ўжо друкаваліся на старонках зборніка «Шляхам гадоў», гадавіка «Скарыніч», часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Куфэрак Віленшчыны», у зборах твораў. Але асобнымі выданнямі іх эпісталярная спадчына, на вялікі жаль, не выдавалася.

Па выданнях эпісталярнай спадчыны мы адстаём ад палякаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх. У Расіі амаль штомесяц выдаюцца ў розных выдавецтвах асобнымі кнігамі пісьмы вялікіх людзей, найперш пісьменнікаў. Вось нядаўна ў Іркуцку выйшла перапіска Віктара Астаф'ева з крытыкам Аляксандрам Макаравым пад назваю «Твердь и посох», свет пабачылі асобнымі выданнямі лісты Сяргея Даўлатава, Д. Мережкоўскага да П. Перцава і іншыя. Пісьменніцкі эпісталярый — гэта даволі рэдкі жанр (таму, магчыма, што пісьменнікі рэдка рэдка пішуць лісты з-за сваёй прафесіі і занятасці). Менавіта Ларыса Геніюш і стала першым за доўгія гады паэтам у Беларусі, чые лісты становяцца набыткам не вузкага кола спецыялістаў, а шырокіх чытацкіх мас. Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш пад назваю «Каб вы ведалі» дзякуючы Міхасю Скоблу, які беражліва, далікатна і прафесійна ўклаў пісьмы паэткі, напісаў да кнігі ўступнае слова, зрабіў каментарый, пабачыла свет літаральна на днях у мінскім выдавецтве «Лімарыус» накладам 500 асобнікаў.

Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» — цэлы пласт яе жыцця і творчасці. У кнігу ўвайшлі 355 лістоў паэткі, якія былі ёю напісаны на працягу 38 гадоў, пачынаючы са студзеня 1945 да студзеня 1983 гадоў. Найперш гэта лісты, адрасаваныя яе мужу Янку Геніюшу, Міколу Прашковічу, Максіму Танку, Юрку Голубу, Зосьцы Верас, Міхасю Чарняўскаму, Міколу Канашу, Міколу Ермаловічу, Валянціне Трыгубовіч, Дануце Бічэль, Алесю Белакозу, Раісе Жук-Грышкевіч, сыну Юрку Геніюшу, Надзеі Караткевіч, Ірыне Крэнь і іншым. Найбольш у кнізе надрукавана пісем Ларысы Геніюш да літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук Міколы Прашковіча (1932–1983), які ў свой час быў звольнены з Інстытута літаратуры за «беларускі нацыяналізм». Мікола Прашковіч быў самым актыўным карэспандэнтам Ларысы Геніюш. Копіі гэтых пісем (а іх ажно 156) перадала Міхасю Скоблу Ірына Крэнь — даследчыца беларускага школьніцтва, якой сёлета не стала.

«Каб вы ведалі» — эпісталярны раман Ларысы Геніюш. Раман праўдзівы, шчыры, глыбокі, суб'ектыўны і аб'ектыўны. Ён нібы з'яўляецца працягам яе вядомай «Споведзі», гэта споведзь у лістах да сяброў, знаёмых, родных.

Па пісьмах адчуваеш, як паэтка дасканала ведала гісторыю Беларусі, жыццё і дзейнасць знакамітых беларусаў. Па гэтых лістах можна напісаць падручнік па гісторыі Беларусі. Паэтка шкадуе і нават папракае сама сябе, што слаба ведае гісторыю Беларусі, хаця веды на ніве гісторыі ў яе на той час былі фенаменальныя. У пісьме да Міколы Прашковіча Ларыса Геніюш у студзені 1964 года пісала: «Будзе Вам праца, дарагі

мой сябра, пакуль перагледзіце раскіданую па сьвеце 40-тамовую Мэтрыку Вялікага Княства Літоўскага. Я калісьці напісала паэму аб Рагнедзе. Я задыхалася ад нястачы матэрыялу. Гэта было ў Празе. Пасьля пачала пісаць аб Эўфрасіньні Полацкай, таксама не хапала матэрыялу. Я вымольвала начамі вобразы ў свае фантазіі. Адзін раз я з захапленьнем слухала даўгую лекцыю аб нашай Зофцы Гальшанскай, чацьвёртай жонцы караля Ягайлы. Яшчэ мне давялося чуць з рукапісу аб хрысціянстве на нашых землях. Ягайла ж быў хрышчаны да таго, як жаніўся зь Ядвігай і зусім ня быў горшы ад хваляных польскіх вяльможаў. Напрыклад, я ведаю, што Ядвіга залажыла ў Празе Чэскай інтэрнат для беларускай моладзі, якая там студ’явала…»

Пісьмы Ларысы Геніюш вельмі падрабязныя, шчырыя і павучальныя. У многіх з іх паэтка дае парады, яны багатыя на крылатыя выслоўі, прыказкі, прымаўкі, прыгожыя, напышлівыя выразы, фразы. Вось некаторыя з іх: «Не дазваляйце болей забіваць…», «Плакаць — гэта абражаць памяць, а яна мусіць жыць…», «Прыяцеляў шаную, але кнігаў не пазычаю…», «Мацярынства — гэта незвычайная з’ява, гэта цуд!», «Інтуіцыя мінулага, адчуваньне сучаснага і прадбачаньне ці лягічнае прадчуцьцё будучых дзён, намаганьне іх сьветлага напрамку — вось вартасьць паэта!», «Кожны чалавек — як казка», «Бог ня выдасьць — сьвіньня ня зьесьць!», «Паэзія — гэта нейкая ласка і дапамога нябёс у выказаньні і аб’яўленьні праўд і надзеяў, якія ўжо даў зь сябе народ, ня ведаючы аб гэтым. Паэзія, памойму, гэта прыгажосьць, сьмеласьць і праўда жыцьця. Паэзія — гэта гуманнасьць!».

У пісьмах Ларыса Антонаўна заўсёды прыгадвае свайго сына Юрку. Калі пісала са сталінскіх лагераў з Абезі, то хвалявалася: як там Юрка, што з ім, дзе ён? Калі ўжо жыла ў Зэльве, то цікавілася яго жыццём на Беласточчыне. Вельмі перажывала за тое, што сын любіў выпіць. А яна не любіла тых, хто часта заглядваў у чарку. У адным з лістоў да Міколы Прашковіча паэтка папярэджвае: «Я вельмі не хачу, каб Вы пілі хоць капельку гарэлкі!»

Праз эпісталярную спадчыну Ларысы Геніюш праходзяць многія пісьменнікі, якіх паэтка любіла, ведала, з якімі сустракалася і перапісвалася. Яна добра разбіралася ў людзях, магла лёгка адрозніць, хто з іх таленавіты, а хто бездар. І Ларыса Геніюш не памылялася. Вось што прарочыла і казала яна пра тады яшчэ маладых Вольгу Іпатаву, Яўгенію Янішчыц, Алеся Разанава: «Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасьце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная», «Усе мы з захапленьнем чыталі нашу маленькую, надзейную Янішчыц. Як добра, што яна далей вучыцца, але адначасова хацелася б, каб пабыла яшчэ сярод сваіх, каб больш увабрала ў сябе чараў, глыбіні, гутарак, духу і паху роднай зямлі. Яна — добры майстар і зможа ўсё гэта некалі launched ператварыць тонкай і сільнай жаночай рукою — у вялікае!», «Была ў нас некалькі разоў маладзенькая Оля Іпатава. Нам яна вельмі спадабалася — невялікая, прыгожанькая, разумная, сціплая. Уцякла пасьля нялюдзкіх зьдзекаў ад мачыхі ў дзятдом, гдзе ня чула слова беларускага (у Горадні!), а мова матчына — за ёю, і так цяпер хораша піша…»

У пісьмах Ларысы Геніюш можна прачытаць добрыя словы і пра Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Янку

Брыля, Максіма Танка. І нядобрыя словы пра тых жа Алеся Бажко, Якава Герцовіча, пра інтрыганку Паўліну Мядзёлку і пра іншых. Напісала аўтарка так, якімі яны былі на самой справе, напісала, каб мы ведалі. У пісьмах, якія склалі кнігу, хораша выяўлены ідэйна-палітычныя, эстэтычныя і творчыя погляды беларускіх, чэшскіх, рускіх, польскіх, нямецкіх, украінскіх дзеячаў літаратуры і мастацтва, культуры і палітыкі. Гэтая спадчына Ларысы Геніюш патрабуе сёння грунтоўнага навуковага даследавання.

Эпісталярная літаратура — ад грэчаскага слова epistole — пасланне, пісьмо. Пасланне нашчадкам-беларусам XXI стагоддзя мы атрымалі ад народнай паэткі Беларусі. Праўда, гэта далёка не ўся яе эпісталярная спадчына. Але Ларыса Геніюш упэўнена вяртаецца на Беларусь не толькі вершамі, прозай, але і ліставаннем.

*2005*

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ<br>БУДЗІЦЬ БЕЛАРУСКАЕ СУМЛЕННЕ

Беларускі пісьменнік і журналіст Міхась Скобла (нарадзіўся 23 лістапада 1966 года на хутары Шыя паблізу Дзярэчына) шмат зрабіў і робіць дзеля ўшанавання памяці вялікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш (1910–1983). З яго добрай рукі з друку выйшлі яе «Выбраныя творы» (Мінск, 2000) «Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны 1945–1983 г.» (Мінск, 2005), «Лісты з Зэльвы» (Гародня–Уроцлаў, 2012), «Асоба і час: Ларыса Геніюш» (Мінск, 2010), Збор твораў у 2 тамах (Мінск, 2010). Пра Ларысу Геніюш для «Кра-

язнаўчых сцежак Зэльвеншчыны» зрабіў спецыяльна гэта інтэрв'ю з Міхасём Скоблам.

*— Міхась, давай пагутарым пра нашу вялікую і мужную паэтку Ларысу Геніюш. Тым больш, ты нямала зрабіў па ўшанаванні яе памяці, выдаў некалькі зборнікаў яе твораў і эпісталярнай спадчыны. Нядаўна ў Беластоку выйшла аўдыёкніга Ларысы Геніюш «Птушкі без гнёздаў» — начытаная народнай артысткай Беларусі Зінаідай Бандарэнкай «Споведзь». Пад гэткай жа, зменена й, назвай рыхтуецца і выданне ўспамінаў пісьменніцы на польскай мове. Ці варта было мяняць назву, якая ўжо прыжылася?*

— Гэта звычайная практыка — калі пэўны твор у перакладным варыянце набывае новую назву. Скажам, многія кнігі Васіля Быкава ў перакладзе ці пасля экранізацыі атрымлівалі абсалютна адрозныя ад аўтарскіх назвы. Прыкладам, «Сотнікаў» стаў «Узыходжаннем». Што да назвы «Птушкі без гнёздаў», то гэтая назва, кажучы бюракратычнай мовай, ужо запатэнтаваная — так называўся пастаўлены на «Беларусьфільме» ў сярэдзіне 1990-х гадоў па «Споведзі» мастацкі фільм. Ён дрэнны ва ўсіх адносінах, апрача, хіба, ролі Васіля Захаркі, якую выканаў Павал Кармунін. Рэжысёр Віталь Дудзін увёў у фільм эпізоды, якіх не было і не магло быць у тэксце Ларысы Геніюш. Скажам, у адным з такіх эпізодаў Ларыса Антонаўна ўцякае ад польскіх паліцыянтаў, хаваючы за пазухай чырвоны сцяг… Я гады два таму размаўляў з выканаўцай ролі Ларысы Геніюш артысткай Маладзечанскага тэатра Таццянай Кавалеўскай, дык яна прызналася, што паняцця не мела пра «Споведзь», не разумела, каго яна іграе; ёй

падсунулі расейскамоўны сцэнар і спехам адправілі на здымачную пляцоўку… Так што на месцы выдаўцоў і спадчыннікаў я не стаў бы вяртацца да назвы «Птушкі без гнёздаў». Мемуары Ларысы Геніюш пад назвай «Споведзь» выходзілі ў свет ужо шэсць (!) разоў, пад гэтым знакавым імем яны ўжо замацаваліся ў чытацкай свядомасці. Споведзь — гэта ж не толькі замольванне нейкіх грахоў, спавядацца — гэта распавесці шчыра, нічога не хаваючы. Я так разумею.

*— Чаму да Ларысы Геніюш у Беларусі да гэтай пары нейкае няпэўнае стаўленне? З аднаго боку — выходзяць яе кнігі (у тым ліку і ў дзяржаўных выдавецтвах), экранізуюцца яе творы. З другога боку — яе стогадовыя ўгодкі ў Зэльве адзначаць было забаронена, памятную шыльду з яе хаты зэльвенскія ўлады знялі.*

— Звязана гэта з тым, што Ларыса Антонаўна па сённяшні дзень застаецца нерэабілітаванай. Абсурд поўны — даўно няма той краіны, якая яе судзіла, у сучасным беларускім прававым кодэксе і блізка няма артыкулаў, якія ёй інкрымінаваліся («спрыянне сусветнай буржуазіі» і г. д.), а пісьменніца да гэтай пары лічыцца злачынцам. У пачатку 1990-х гадоў рэабілітацыяй рэпрэсаваных за саветамі грамадзян займалася камісія ў Вярхоўным Савеце, якую ўзначальваў Ніл Гілевіч. І я ў яго спытаўся: «Ніл Сымонавіч, як так сталася, што ў вялікі спіс рэабілітаваных не трапіла Ларыса Геніюш?» І ён мне шчыра прызнаўся: «Забыліся». Сучасныя ідэолагі гэта скарыстоўваюць. Плюс тое, што Геніюшы жылі ў акупаванай немцамі Празе, удзельнічалі ў працы беларускіх грамадскіх арганізацый. Адзін высокапастаўлены чыноўнік напярэдадні

100-годдзя паэткі мне так і заявіў: «Какое ўшанаванне? Она же состояла в переписке с Гитлером!» Вось такі дурдом у асобна ўзятай галаве… Ларыса Геніюш і сучасны антыбеларускі рэжым — рэчы несумяшчальныя. Таленавітая і праўдзівая творчасць Геніюш будзіць беларускае сумленне, служыць гэткай своеасаблівай прышчэпкай ад страху. У сённяшняй Беларусі Ларыса Геніюш выконвае тую ж ролю, якую ў XIX стагоддзі выканаў Францішак Багушэвіч, а ў першай палове XX стагоддзя Янка Купала. І значнасць яе творчасці будзе з цягам часу толькі ўзрастаць.

*— У цэнтры Зэльвы стаяць помнікі Леніну і каню… Ці з’явіцца калі ў горадзе помнік Ларысе Геніюш?*

— Ён ужо з’явіўся — на цвінтары зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы. Калі яго ў 2003 годзе ўсталявалі, зэльвенскае начальства месца сабе не знаходзіла. Выклікалі мясцовага святара айца Аляксандра ў выканкам і загадалі ў трохдзённы тэрмін помнік дэмантаваць. А той адказвае чыноўнікам: «Дабраславенне на ўсталяванне помніка ад Уладыкі Філарэта маю, а на дэмантаж — не». Так помнік і застаўся — рукі ў начальства аказаліся закароткімі. І цяпер штогод 9 жніўня каля гэтага помніка мы праводзім ушанавальныя імпрэзы. Вось і сёлета каля царквы прайшла прэзентацыя кнігі Ларысы Геніюш «Лісты з Зэльвы». У царкве, дарэчы, два гады таму святаром айцом Георгіем была адкрытая невялікая музейная экспазіцыя, прысвечаная Геніюш, поруч, праз дарогу — хата. Так што без санкцыі ўладаў у Зэльве ўзнік цэлы музейны комплекс пісьменніцы. А на плошчы, пад вокнамі выканкама — помнік каню. Што ж, кожнаму — сваё. Хай на каня глядзяць. Конь

у спалучэнні з Леніным — вельмі арыгінальнае архітэктурнае рашэнне. Гэта вельмі яскрава сведчыць пра культурны ўзровень сённяшніх зэльвенскіх уладаў.

*— Ты падрыхтаваў да выдання зборы эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» (2005) і «Лісты з Зэльвы» (2011). Ці шмат яшчэ нявыдадзеных лістоў?*

— У згаданых табою кнігах, а таксама ў «Выбраных творах» (2000), юбілейным двухтомніку (2012) і альманаху «Асоба і час» (2012) мною апублікавана больш за 1200 лістоў Ларысы Геніюш. Я называю іх Геніюшаўскім летапісам, у якім зафіксаваны безліч самых розных падзеяў — эпахальных і прыватных. Публікацыя прыватных лістоў заўсёды спалучаная з пэўным сумневам: што ў людскіх адносінах можна выносіць на суд чытача, а што — не. Тым большае гэты сумнеў, калі лісты належаць нейкай вялікай асобе, чыё прыватнае жыццё паступова ператвараецца ў жыццяпіс і аб'ект для адмысловых даследаванняў. Падобныя сумневы давялося перажыць і мне, я стараўся да купюравання лістоў звяртацца як мага радзей. Памятаю, доўга раіўся з людзьмі, якія сябравалі з Ларысай Антонаўнай, якія разумеюць значнасць кожнага яе слова. Вось што напісала мне паэтка Данута Бічэль у лісце ад 18 сакавіка 2010 г. адносна друкавання лістоў, у якіх закраналіся сямейныя адносіны Геніюшаў: «Прыватныя лісты — гэта самыя праўдзівыя сведкі часу, бо яны пасылаюцца непасрэдна ад сэрца да сэрца. Гэтыя лісты каштоўныя дэталямі, якія звычайна губляюцца ў памяці, каштоўныя эмоцыямі паэткі. Што да адносінаў Ларысы Геніюш з нявесткай Валянцінай, то яны развіваліся ў

традыцыях нашага этнасу — класічна. Віна нявесткі перад свекрывёй была толькі ў тым, што Валя прымала свякроў па-хатняму, як свякроў, а не як вялікую паэтку і пакутніцу. Гэта неяк павінны зразумець і чытачы, і Валянціна, і нашчадкі. Чытанне лістоў — гэта акт любові, які вучыць нас любіць яшчэ мацней». Мне здаецца, Данута Бічэль мае рацыю — кожная дэталь у жыццяпісе вялікага чалавека каштоўная. Але публікацыі чакаюць не толькі пазасталыя лісты Ларысы Геніюш (іх шмат; прыкладам, толькі ў архіве Зоські Верас зберагаецца 307 лістоў), але і невядомыя вершы. Архіў Ларысы Антонаўны ў Бібліятэцы Акадэміі навук, які калісьці ўратаваў і вывез з Зэльвы прафесар Адам Мальдзіс, яшчэ мала даследаваны. Я працую ў ім ужо гадоў дзесяць, але яшчэ не ўсе папкі дэталёва прагледзеў. Заклікаю даследчыкаў з Беласточчыны далучацца да геніюшазнаўства. Бо сёлетняя аўдыёкніга і зборнік «Маці і сын», выдадзены ў Беластоку ў 1992 годзе, — даробак сціплаваты. Калі я чую па Радыё Рацыя, што ў Беларусі мала выдаецца і даследуецца спадчына Ларысы Геніюш, што Ларыса Геніюш — гонар Беласточчыны, бо род яе паходзіць адтуль, то мне хочацца ўсклікнуць у стылі сярэдневяковых рытараў: «Пяро і кампутар вам у рукі, спадары! Працы — непачаты край, і разам мы зробім нашмат болей».

*— А што новага і цікавага ты знайшоў за апошнія гады з жыцця і творчасці Ларысы Геніюш?*

— З ласкі дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі я цяпер апрацоўваю перапіску Ларысы Геніюш і Кастуся Езавітава. Сярод іншага там гаворка ідзе пра архівы

БНР… А зусім нядаўна мне патэлефанавала незнаёмая спадарыня Вікторыя Тарасевіч з Гародні і сказала, што гатовая перадаць у дар аўтэнтычны зборнік Ларысы Геніюш «Ад родных ніў» (1942). Я адклаў усе справы і паехаў у Гародню. Мы сустрэліся, і я пачуў незвычайную гісторыю. Муж Вікторыі Палікарпаўны Георгій Тарасевіч (пазней — вядомы архітэктар) быў вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну і там набыў кнігу Геніюш. Ён пранасіў яе с сабою тры гады, нават у шахце з ёю не расставаўся, амаль усю вывучыў на памяць. А пасля таго, як Ларыса Геніюш вярнулася з савецкага лагера, ён паехаў да яе ў Зэльву з тою зачытанай літаральна да дзірак кнігай. Прызнанне ў любові ад такога чытача да слёз узрушыла Ларысу Антонаўну, яна пра гэта напісала ў адным з лістоў. Кніга без вокладкі, у ёй не хапае ўсіх старонак, але і ў такім выглядзе яна мне найдаражэй за любыя кніжныя рарытэты.

*2012*

## Я ПРАМАЎЛЯЮ СЛОВА «БОГ»

У Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» у 1994 годзе свет пабачыў паэтычны зборнік Міхася Скоблы «Вочы Савы». І хоць на вокладцы напісаны словы «Першая кніга паэта», хачу напомніць сваім землякам, што гэта ўжо трэцяя кніга беларускага аўтара. Першая з іх з’явілася ў 1990 годзе пад назвай «Вечны Зніч», другая — «Розгі ў розніцу» — выйшла з друку ў Слоніме ў 1993 годзе. І вось новая «ластаўка».

Невыпадкова да гэтага матэрыялу я ўзяў назву «Я прамаўляю слова “Бог”». Справа ў тым, што паэт,

сапраўды, у кожным вершы звяртаецца да Бога як да заступніка, як да суцяшальніка і дарадцы, які можа дапамагчы не толькі асобнаму чалавеку, а і ўсёй нашай Бацькаўшчыне. Вобраз і святло Бога праходзяць амаль праз усе вершы:

Святкуючы перамогу,
Ордэн паднесці і Богу…
*«Круглая плошча»*

З Богам пеўні ладзяць перамовы…
*«Готыкі Рыгі»*

Посах Бог ад прыкрасці сагнуў…
*«Казка»*

І храм без Бога абыдуць тройчы…
*«Ля Дома кіно 1990»*

Заміж Хрыста на сцяне — хамут…
*«Балада пра стайню»*

І вынайшаў Бог чалавека…
**** С. Адамовічу*

Апошняй заступніцай Бога
На гэтай зямлі дажывае…
*«У пелюсцях сонца захаду...»*

Хай вас Бог, мае родныя, крые!..
*«Я хацеў бы памерці ў сне..»*

Да пана Бога, — мовілі іншыя.
*«За імгненне да вяртання ў гэты свет»*

Тапелец ішоў па вадзе, як Бог…
*«Алесь Салавей»*

І беларускі Бог сыдзе да іх з распяцця…
*«Паэты» Тодара Копшы*

Задуменна праходзіць Бог…
*«Узнясенне Шагала»*

Бог ішоў, да неба датыкаўся…
*«Бог ішоў...»*

Не адгукнуўся Бог чужы…
*«Славянін — раб»*

І разгневаўся дзядзька Бог…
*«Герадотава мора»*

Вам, відаць, надакучыла маё цытаванне радкоў з Богам. Але хачу адзначыць, што гэтыя вершы, як, дарэчы, і ўсе іншыя, вызначаюцца сваёй нетрадыцыйнасцю і навізной, глыбінёй думкі і своеасаблівым почыркам, а таксама рамантычнай узнёсласцю, грамадзянскай страснасцю і пранікнёным лірызмам. Можа, трохі і занадта ў зборніку паэтычных вяртанняў да Бога, але ўсё па-майстэрску так добра пададзена і размешчана ў кнізе, што яшчэ больш надае паэзіі сілы, вобразнасці і адшліфаванасці.

Звяртаюць на сябе ўвагу ў зборніку вершы патрыятычнага гучання. Да іх можна аднесці вершы-прысвячэнні славутым людзям Беларусі: паэтам Алесю Салаўю, Карусю Каганцу, Пімену Панчанку, Аляксею Пысіну, адчуваецца любоў паэта да роднай зямлі, да культуры і мастацтва нашых продкаў, да тых нацыянальных каштоўнасцей народа, якія даў Бог зберагчы да сённяшніх дзён, а таксама страціць:

Праўды святой супольніцы —
Кнігі Скарыны, Буднага,

Крыж Еўфрасінні Полацкай…
«Знішчана…»
«Згублена…»

Шмат у зборніку Міхася Скоблы «Вочы Савы» вершаў-верлібаў, якія вызначаюцца філасафічнасцю, смелай метафарычнасцю і глыбінёй. Мне, праўда, больш даспадобы рыфмаваныя строфы, а таксама вершы з маленькім сюжэтам, дзе добра паказаны настрой і характар як аўтара, так і ягоных герояў. Пісаў раней, хачу і зараз адзначыць два хрэстаматыйныя і яркія паэтычныя творы з новага зборніка Міхася Скоблы. Гэта вершы «Балада пра стайню» і «Бацька прыйшоў». Дарэчы, паэт Анатоль Вялюгін таксама хваліў верш «Балада пра стайню». Значыць, мы не памыліліся, вызначыўшы гэты твор. І наогул, калі, прачытаўшы новы зборнік паэта, застаецца ў памяці і западае ў душу хоць адзін ягоны верш, значыць, паэт адбыўся. У Міхася Скоблы такіх вершаў шмат.

Пра новы зборнік нашага земляка можна напісаць шмат. Скажу яшчэ, што на апошніх яго старонках змешчана і сатырыстычна-іраічная паэма-сваволя «Герадотава мора».

Прачытаўшы апошнія старонкі зборніка вершаў «Вочы Савы» Міхася Скоблы, міжволі ўспомніў радкі Уладзіміра Караткевіча:

На Беларусі Бог жыве.
Так кажа мой просты народ…

Відаць, так! Бо Бог жыве і ў паэзіі гэтага зэльвенскага аўтара, а значыць, жыве і ў яго душы, бо талент у Міхася Скоблы сапраўды ад Бога.

*1994*

## ЁН ЛЮБІЎ НАС, ЯК РОДНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Цяпер у вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна я бываю вельмі рэдка. Але калі праязджаю праз гэта мястэчка і гляджу на вялікі пусты дом Пятра Марціноўскага, то не магу супакоіцца — сэрца шчыміць, сумна да болю ад таго, што мяне больш ніколі не сустрэне гэты тактоўны, культурны, адукаваны і інтэлігентны чалавек. Яго не стала 1 лютага 2006 года. Але здаецца, што Пятро Мікалаевіч жыве і сёння, зараз выйдзе на панадворак, сустрэне, абдыме, мы сядзем у яго «Запарожац» і паедзем у вандроўку па роднай Гарадзеншчыне. Ён нас, маладых, любіў, як родных дзяцей, пра нас пісаў, друкаваў нашы творы на старонках зэльвенскай «раёнкі», прапагандаваў нашу творчасць, арганізоўваў вечары і сустрэчы. Гэта быў апантаны і ўлюбёны чалавек у жыццё, у літаратуру і ў родную Бацькаўшчыну.

Дом Пятра Мікалаевіча Марціноўскага ў Дзярэчыне прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі жартоўна называлі Домам літаратараў. Калі б ні прыехаў у старажытны Дзярэчын — ноччу ці днём, у святы ці ў гарачы будзень — з усмешкаю і з бацькоўскай цеплынёй Пятро Мікалаевіч заўсёды запрашаў у сваю светлую і прасторную хату. І не проста запрашаў, а смачна частаваў кумпячком ці вэнджанай каўбаскай і абавязкова наліваў самаробнага вінаграднага віна, якому мы далі назву «Marcini» (ад слова Марціноўскі). І за гэтым частаваннем гадзінамі, а то і суткамі лілася гутарка пра лёс роднай мовы, пра літаратуру, гісторыю і пра Беларусь наогул.

У дзярэчынскім доме Пятра Марціноўскага пабывалі шмат вядомых пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў,

музыкантаў. Але часцей за ўсё ў Дзярэчын прыязджалі землякі: Павел Сцяцко, Міхась Скобла, Юрка Голуб, Уладзімір Ягоўдзік, Валянцін Дубатоўк. А ў прыватнай бібліятэцы гаспадара засталіся кнігі з аўтографамі ці не паловы прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў: Максіма Танка, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль, Сяргея Законнікава і іншых.

Пра свае сустрэчы, знаёмствы і гутаркі Пётр Мікалаевіч планаваў напісаць і выдаць кнігу. І верылася, што яму гэта ўдасца. Не ўдалося, не паспеў. Бог яму адмераў 74 гады.

Сам Пятро Марціноўскі быў родам з вёскі Катчыно Мастоўскага раёна, хаця большая частка жыцця была пражыта ў Дзярэчыне — у малым Версалі, як назваў гэту вёску некалі беларускі эмігрант з ЗША Ян Пятроўскі.

Бацькі Пятра Марціноўскага былі звычайныя сяляне. Маці непісьменная, а бацька — самы адукаваны чалавек на вёсцы. Ён меў прыгожы почырк, пісаў і ведаў добра беларускую, рускую і польскую мовы. А яшчэ Мікола Марціноўскі быў майстрам на ўсе рукі, але найперш вясковым рацыяналізатарам. Сам зрабіў тры веялкі (у нас называюць іх архі) для ачысткі насення ад мякіны пасля абмалоту. Змайстраваў станок для вырабу прасяных круп і шмат чаго іншага. «А яшчэ мой бацька, — згадаў неяк Пятро Марціноўскі, — пастаянна выпісваў газеты і часопісы. У нашым доме збіраліся вяскоўцы, за газавай лямпай бацька чытаў людзям пра тое, што адбывалася ў свеце. А мы з братам, седзячы за сталом, рыхтавалі ўрокі. Я быў вельмі задаволены, калі чытаць газеты давяралі і мне. Гэта было ў канцы саракавых гадоў мінулага стагоддзя…»

У 1944 годзе Пётр Марціноўскі паступіў у пяты клас Дзярэчынскай сярэдняй школы. Пачаў пісаць замалёўкі, вершы, інфармацыі ў Зэльвенскую раённую газету. У школьныя гады захапляўся яшчэ музыкаю. Іграў нядрэнна на мандаліне. Нават марыў з адною дзяўчынай паступаць у кансерваторыю. Ды і да апошніх дзён жыцця Пятро Мікалаевіч паэзію і музыку любіў аднолькава. «Яны неяк узвышаюць чалавека духоўна, робяць яго міласэрным, гуманным і лепшым», — казаў Марціноўскі.

Пасля службы ў войску мой зямляк вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць настаўнікам у Дзярэчынскай сярэдняй школе. Работу ў школе сумяшчаў з завочнай вучобай ў Гродзенскім педінстытуце. А з 1969 года і да пенсіі працаваў у гэтай школе намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Аб стылі работы і аб метадах навучання ў Дзярэчынскай СШ напісаў і выдаў брашуру «У нагу з часам» (1986).

Першыя селькораўскія карэспандэнцыі Пятра Марціноўскага былі надрукаваны ў пачатку 1950-х гадоў у Зэльвенскай раённай газеце. Пасля матэрыялы на самыя розныя тэмы з'яўляліся на старонках газет «Звязда», «Гродзенская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Наша слова» і ў многіх іншых рэспубліканскіх выданнях. Усё свядомае жыццё дзярэчынскага настаўніка хвалявалі пытанні адраджэння беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адсюль вынікала і тэматыка ягоных публікацый. Самымі светлымі старонкамі ў жыцці Пятра Марціноўскага былі сустрэчы і шчырае сяброўства з беларускай паэткай Ларысай Геніюш. З ёю ён пазнаёміўся ў канцы 1950-х гадоў, пасля таго, як паэтка была рэабілітавана і вярнулася ў 1956 годзе

ў Зэльву. «Гэта была шчырая, добразычлівая і простая беларуская жанчына. З трывогай і надзеяй думала яна пра лёс роднай Беларусі, паэтка верыла ў яе адраджэнне, у росквіт нацыянальнай культуры і мовы. Прыкладам бескарыслівага служэння людзям з'яўляецца яе паэзія, яе жыццёвы подзвіг. Мне пашчасціла быць першым чытачом многіх вершаў, якія Ларыса Антонаўна з хваляваннем і гордасцю перш-наперш прачытвала сама», — расказваў Марціноўскі.

У 2002 годзе ў Слоніме выйшла з друку кніжка ўспамінаў пра Ларысу Геніюш Пятра Марціноўскага «Наша Лорка». Я быў рэдактарам гэтай кніжкі і напісаў да яе ўступнае слоўца.

Ларыса Антонаўна Геніюш часта гасціла ў Марціноўскіх у Дзярэчыне, ды і яны неаднаразова наведвалі хату Геніюшаў у Зэльве. Кніга «Наша Лорка» пачынаецца з успамінаў аб тым, як аўтар кнігі, Алесь Траяноўскі і Ларыса Геніюш ездзілі на матацыкле ў Гудзевічы да Алеся Белакоза, а таксама на радзіму паэткі — у засценак Жлобаўцы і ў вёску Палаўкі, што на Ваўкавышчыне. Там землякі Ларысы Геніюш ласкава называлі яе наша Лорка: «Наша Лорка прыехала. Прыходзьце да нас…»

Пётр Марціноўскі цікава распавядае ў кніжцы і пра тое, як Ларыса Геніюш напісала і чытала яму верш «Зубры», як яна па-мацярынску клапацілася пра Уладзіміра Караткевіча, якім апантаным кнігалюбам быў Янка Геніюш.

У кнізе «Наша Лорка» змешчаны тэксты пісем і паштовак Ларысы Геніюш да Марціноўскіх, а таксама ўрыўкі з «Незакончанай паэмы» паэткі. Паэма цалкам нідзе не друкавалася, яна прысвечана рэпрэсіям на Бе-

ларусі ў 1930–1950-х гадах, падчас якіх шмат загінула беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў:

«На якой мове з табой гаварыць,
Знаеш расейскую,
Можа, выклікаць перакладчыка,
Можа, па-чэску?»
Гляджу адважна, не, не баюся:
«Не знаю рускай,
Вы жа міністр на Беларусі
Дык гаварыце, як тут належыць,
Па-беларуску!»
«Не, па-расейску ты загаворыш», —
Грыміць Цанава.
Мовы ён нашай знаці — не знае,
Ад злосці шэры.
Біч для народу, скула ліхая,
Піяўка на сэрцы!
Бесіцца люта і мне жадае.
Суддзі не суддзі,
Быццам не людзі,
Скалы сядзяць:
«За беларускасць няхай вам будзе
Лет 25!»…

Акрамя малавядомай паэмы ў кнізе змешчаны вершы гродзенскіх паэтаў, прысвечаныя Ларысе Геніюш: Юркі Голуба, Дануты Бічэль, Міхася Скоблы, Уладзіміра Мазго, Ірыны Навуменкі, Ірыны Войткі і іншых аўтараў. У кнізе надрукаваны таксама і рэдкія фотаздымкі.

На працягу 25 гадоў Пётр Марціноўскі кіраваў зэльвенскім раённым літаб’яднаннем «Зоры над Зальвянкай». Сам рыхтаваў вершы да друку, наладжваў літаратурныя сустрэчы, вечарыны. Па запрашэнні

літаб'яднання на Зэльвеншчыне пабывалі пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Алег Лойка, Алесь Асіпенка, Мікола Гроднеў, Данута Бічэль, Юрка Голуб, Міхась Скобла, Уладзімір Мазго… Усіх і не пералічыць.

Плённа супрацоўнічаў Пётр Мікалаевіч з мясцовым кампазітарам Уладзімірам Плютам. Вось, што ўспамінаў Пётр Мікалаевіч пра гэта сам: «Зазваніў тэлефон. Бяру трубку і пазнаю голас калегі па рабоце, вядомага дзярэчынскага музыкі Уладзіміра Плюты. Прывітаўшыся, ён адразу прапануе паслухаць па тэлефоне мелодыю акардэона. Яна сапраўды мне спадабалася. Але да гэтай песні не хапала слоў, і Уладзімір Міхайлавіч прапанаваў мне напісаць іх. Так нарадзілася ў нас сумесная песня «Любы мой»:

Замяла завея нашыя сляды,
А я ўсё кахаю, як было заўжды.
Ноччу мне не спіцца — страціла спакой.
Дзе ж ты, адгукніся, мілы мой?
Навокал лютуе матухна зіма.
Выйду на дарогу, а цябе няма.
Стынуць ногі, рукі, ў сэрцы неспакой.
Можа, ты адчуеш, мілы мой.
Сум і адзіноту вып'ю ўсю да дна,
Песню, што я склала, запяю адна.
І калі пачуеш, дома не сядзі.
Я цябе чакаю — дык прыйдзі.
Замяла завея нашыя сляды,
А я ўсё кахаю, як было заўжды.
Ноччу мне не спіцца — страціла спакой.
Дзе ж ты, адгукніся, мілы мой.

Аўтар музыкі Уладзімір Плюта — карэнны жыхар вёскі Дзярэчын. Тут прайшло яго дзяцінства, школь-

ныя і юнацкія гады. Працаваў у Дзярэчынскай школе бібліятэкарам, пасля настаўнікам спеваў і музыкі, а з 1978 года аж да пенсіі — дырэктарам Дзярэчынскай музычнай школы.

На працягу многіх гадоў Уладзімір Плюта ўзначальваў харавыя калектывы Дзярэчынскай школы. Падрыхтаваныя ім калектывы шмат разоў выступалі на рэспубліканскіх і абласных аглядах мастацкай самадзейнасці, узнагароджваліся дыпломамі і падарункамі.

Дарэчы, Пётр Марціноўскі і Уладзімір Плюта, выйшаўшы на пенсію, стварылі творчы дуэт, пладамі якога сталі 18 песень, якія гучаць не толькі на сельскіх, але і на раённых сцэнах.

Перад смерцю П. Марціноўскі падрыхтаваў добры том вершаў зэльвенскіх паэтаў, амаль дамовіўся з дзярэчынскімі фундатарамі і хацеў выдаць іх асобнаю кніжкай пад назвай «Зоры над Зальвянкай». Зноў не паспеў. Прайшоў год пасля яго смерці, а кніжка так і не выйшла з друку: няма грошай. А ён так хацеў патрымаць яе ў руках, парадаваць тых, каго ён чытаў, друкаваў на старонках зэльвенскай газеты «Праца», каму даваў дарогу ў літаратурнае жыццё. І толькі ў 2008 годзе ў Слонімскай друкарні «Зоры над Зальвянкай» пабачылі свет. Праўда, з кнігі выкінулі вершы Ларысы Геніюш і мой артыкул пра самога Пятра Марціноўскага. Выкінулі сённяшнія ідэолагі з Зэльвенскага райвыканкама

Гэты цудоўны чалавек усё жыццё пражыў у глыбінцы, але ніколі не старэў душою, не заставаўся ўбаку ад тых падзей, якія адбываліся ў нашым паўсядзённым жыцці. Калі надаваўся вольны час — ён ехаў у Мінск, Гародню, прымаў удзел у рэспубліканскіх і абласных

літаратурна-мастацкіх мерапрыемствах. Ён быў дэлегатам першага, другога, трэцяга, чацвёртага з’ездаў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, выбіраўся сябрам Рэспубліканскай рады ТБМ. Літаратура і педагогіка ўсё жыццё крочылі з ім побач.

Штогод на яго дзень нараджэння мы збіраемся і едзем у Дзярэчын, да нашага настаўніка. Ускладаем кветкі на яго магілу, ідзем па вуліцах малога Версаля, дзе ён хадзіў, жыў, працаваў, дзе вяскоўцы яго ўсе памятаюць і ўспамінаюць толькі добрымі, шчырымі словамі.

## ЗГАДКА ПРА ВАЛЯНЦІНУ АДАДУРАВУ

Пра таленавітую паэтку і настаўніцу Валянціну Ададураву (1941–1995) сёння нагадвае толькі адзіны зборнічак яе вершаў «Глыбінка», які выйшаў з друку ў Слонімскай друкарні за год да смерці Валянціны Захараўны — у 1994 годзе.

Шмат гадоў чакала свой першы паэтычны зборнік гэтая сціплая і здольная жанчына. Жывучы ў глыбінцы, ёй цяжкавата было выдаць яго ў Мінску, дзе ў выдавецтвах па некалькі гадоў ляжалі рукапісы нават даволі масцітых літаратараў рэспублікі. Таму ёй, вясковай настаўніцы, адзінай радасцю і ўцехай было бачыць свае паэтычныя творы надрукаванымі ў раённай і абласной газетах ці часам у часопісах «Работніца і сялянка» і «Роднае слова». Адзін верш нават неяк трапіў і ў зборнік «Краю мой — Нёман» (Мінск, 1986). Усё ж гэтыя клопаты былі для Валянціны Ададуравай менш істотнымі, бо галоўнае — было натхненне, пісаліся і пісаліся новыя вершы.

* * *

Нарадзілася паэтка ў 1941 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Закончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыла і працавала настаўніцай у вёсцы Елка на Зэльвеншчыне. Дарэчы, ад яе роднае вёскі да Елкі было нейкіх тры кіламетры. Па дарозе дамоў стаіць велічная і неўміручая Сынковіцкая крэпасць. Пра яе, як і пра вёскі Хадзявічы і Елка, у паэткі таксама ёсць верш, а ў ім радкі:

Каторы век каштанаў свечкі
Цвітуць ля крапасной сцяны.
Што ж! Чалавек недаўгавечны,
А сцены — вунь стаяць яны.

Гэтую страфу я працытаваў з першага зборніка вершаў Валянціны Ададуравай «Глыбінка». Фундатарам выдання было будаўніча-мантажнае прадпрыемства «Зэльваэнергабуд».

Любоў да роднай зямлі праходзіць праз усе вершы паэткі. Цэлая геаграфія Зэльвеншчыны і Слонімшчыны ў яе радках. Яны шчырыя і светлыя, як крыніцы. Адразу адчуваеш, што пісаліся гэтыя творы на адным дыханні. І пісаліся яны менавіта тады, калі пульсавала натхненне, калі на сэрцы і ў душы выспявалі радкі і прасіліся на паперу:

Паэзія — хранічная хвароба,
А рэцыдывы — ўвосень і вясной.
Калі наш край у лісцяной аздобе, —
Прыходзіць Муза, каб пабыць са мной.
Прыйдзе ўранку і падыме з ложка,
Або ў ціхі прадвячэрні час

Жар-птушкай прамільгне, пакружыць трошкі,
Лаві яе, страчай і прывячай…

Вобразы вёскі і сваіх землякоў для паэткі Валянціны Ададуравай — нібы глыток чыстай, гаючай вады, якая лечыць, супакойвае і жывіць, надае сілы і бадзёрасці. Яна сама прызнаецца, што «не шукае далёкага раю» і што «мне мілей беларускі родны кут», дзе

Хаты з крамяных смольных хваінак,
Вольхі за вёскай па груды ў вадзе.
Стукнеш у дзверы няўтульнай часінай —
Сэрцам сагрэешся тут у людзей.

Чытаючы зборнік вершаў паэткі, звярнуў увагу на верш «Бацькаўшчына». У ім цэлы вянок беларускіх слоў на літару «б». Дзіву даешся, якія ўсё ж у нашай мове сакавітыя і прыгожыя словы. Вось, напрыклад, колькі іх у адным гэтым вершы: бацькаўшчына, бор, балота, блакіт, белы бусел, Беларусь, беразняк, бракун, брусніцы, бульба буяе, бурштынавыя бярвенні, беларусы. Цэлы слоўнічак у адным вершы.

Даўно ўжо няма жывых бацькоў нашай зямлячкі, але ім у зборніку прысвечана шмат вершаў. Большасць з іх напісаны на фальклорнай аснове, бо, відаць, праз народную песню глыбей перадаецца любоў да маці і бацькі ці проста помняцца тыя песні, якія яны спявалі:

Ой, у полі каліна,
Дый каліна завяла,
Без цябе, любы,
Без цябе, мілы,
Мая доля прапала…

Валянціна Ададурава ўсё жыццё працавала ў школе, усё жыццё была сярод дзяцей. Таму дзіўна было б, каб пра школу не пісалася б вершаў. Праўда, большасць сённяшніх паэтаў пачыналі свой працоўны шлях настаўнікамі ў школах, а вось вершаў на гэтую тэму, на жаль, напісана зусім мала. У аўтаркі зборніка «Глыбінка» такія вершы ёсць, прычым добрыя вершы, якія так і просяцца на музыку:

Ах, сто дарог! Да пабачэння, школа!
Ах, сто дарог! Вы сніліся даўно!
Але чаму сягоння невясёла
Звініць той самы школьны наш званок!..

На апошніх старонках першай кніжкі В. Ададуравай надрукаваны побач два вершы — «З думай пра музей Ларысы Геніюш» і «Памяці Ларысы Геніюш». Розныя яны па мастацкім узроўні, але некаторыя радкі нельга не працытаваць:

Нахлынуць успаміны, думы, мроі —
І дапазна агеньчык у акне.
Чай для гасцей на чабары настоены,
А ўласны шлях — на горкім палыне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Час веснавы, а Зэльвеншчына ў скрусе…
Над Зэльвай цёплы красавіцкі дзень.
Ідзем да Вас — ідзем да Беларусі,
І верым — з Вамі да яе дайдзем.

Ёсць у зборніку і лірычна-іранічныя вершы. Чытаючы іх, адчуваеш, што ў беларускай глыбінцы таксама ўмеюць жартаваць і смяяцца. Па адных назвах можна здагадацца, аб чым яны. Вершы «У паліклініцы»,

«Жанчыне цяжка дагадзіць», «Дэфіцыт», «Мой воз і лёс» апавядаюць аб тым, чым «хварэюць» сёння вёска і райцэнтр.

Бясконца можна гаварыць пра першы паэтычны зборнік «Глыбінка» ВалянціныАдадуравай. Гэта ўзрушаны роздум аб тым, што ўбачана і перажыта, ён кранае напоўненасцю радкоў і вобразнай мовай. Паэзіі аўтаркі ўласціва напружанае судакрананне думкі і пачуцця, гранічная шчырасць у лірычным самавыяўленні. Ёсць, праўда, і вершы, якія з гадамі страцілі сваю актуальнасць, састарэлі, але «Глыбінка» паэткі атрымалася як песня, а з песні слоў не выкінеш.

* * *

Так я пісаў пра першы зборнік Валянціны Ададуравай у 1995 годзе. Пісаў тады, каля яна жыла, ды хутка яе не стала. Цяпер кожны раз, калі еду ў родную вёску паэткі Хадзявічы на мяжы Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў, а гэта і мая родная вёска, мне прыгадваюцца яе цудоўныя шчырыя радкі:

Куточак родны — Хадзявічы.
Да вас шляхі з усіх канцоў.
Ды незнаёмы, непрывычны
Мне твары юных хадзяўцоў.
Дадому ў госці… Крыўдна шчыра.
Ды птушкам быць не век ў гняздзе.
Хай будзе найцяплейшы вырай,
А сцежка зноў сюды вядзе.

Разам з гэтымі радкамі прыгадваецца і сама Валянціна Захараўна. Не так часта прыходзілася з ёй сустракацца, бо жыла яна ў суседняй з Хадзявічамі вёсцы Елка

Зэльвенскага раёна, але такія сустрэчы былі. Найбольш яе цікавіла тое, аб чым я пішу. Яна пыталася заўсёды, што новае ў літаратуры, у нашай культуры. Была Валянціна Ададурава вельмі сціплай, адукаванай, інтэлігентнай, апантанай у жыццё жанчынай. Але лёс ёй не даў пажыць шмат, невылечная хвароба яе рана загнала ў магілу. Як Максім Багдановіч, так і наша зямлячка пры жыцці паспела выдаць толькі адзіны зборнічак светлай паэзіі «Глыбінка». Па сваіх светаадчуваннях, светаразуменнях, манеры думаць і гаварыць Валянціна Ададурава была найперш вясковай, сялянскай паэткай. Яе любоў да роднага краю была настолькі магутнай, усеабдымнай, што, правёўшы дзяцінства, юнацтва ў вёсцы, паэтка зрабіла яе галоўным героем у сваіх паэтычных радках. Свае вершы яна прысвяціла роднай вёсцы Хадзявічы, зэльвенскім вёскам Шавулічы, Манцякі, Ялуцавічы, Елка, Крамяніца, родным краявідам і землякам. Уся істота паэткі была ахоплена такой нястрымнай любоўю да маленькай радзімы, што нічога, апроч яе, яна проста не магла ўспрымаць:

Гайдае рэчка тут ваду
Знаёмымі ўсплёскамі.
А я сцяжынкаю іду,
А я прыспешваю хаду —
Спаткацца з роднай вёскаю.

Валянціну Ададураву вельмі хваляваў і лёс роднай зямлі, мовы і народа, прыгажосць беларускай прыроды, пытанні маралі і міру. Пра гэта яна таксама пісала. Няўтольная прага любові да ўсяго блізкага, да гродзенскага краю, Бацькаўшчыны, шчырых і добрых людзей гучала ў яе мілых, адкрытых паэтычных радках.

Вельмі часта перачытваю яе «Глыбінку» — зборнічак жаночых пачуццяў, захапленняў, радасці, дзе хораша апета родная зямля, якая, як магніт, прыцягвала яе чуллівае сэрца. Чытаю яе вершы сёння і адчуваю, што без Беларусі ёй не было б спакою, не было б натхнення і святасці. Паэзія, землякі і родная зямля яе лячылі, суцяшалі, а паэтка іх апявала ў сваіх вершах. Гэтыя вершы Валянціна Ададурава пакінула нам як напамін пра яе, як наказ, як трэба любіць бацькоўскі кут, захапляцца ім, берагчы і шанаваць яго.

Некалькі вершаў з літаратурнай спадчыны Валянціны Ададуравай я ўключыў у сваю кнігу.

*Валянціна Ададурава*

## Беларусачка

— Скажы, дзяўчына, мне, адкуль
Вачэй тваіх блакітны колер?
— Я наглядзелася ў раку
І на блакітны лён у полі.
— Скажы, а дзе ты узяла
Касы тугое перавясла?
— З палеткаў жытніх ля сяла
І з промняў сонейка нязгасных.
— А ці не можаш падказаць,
Чаму твой стан павеўна-тонкі?
— Ён ад бярозак у лясах,
А можа, ад струны-сасонкі.
— Яшчэ скажы ты мне тады,
Адкуль пагляд адкрыты, чысты?
— Ён ад крынічнае вады,
Ад росаў, лугавых маністаў.
— А дзе твой родны дом-жыллё?

— Яно ў зялёнай Беларусі.
— А як, скажы, імя тваё?
— Я беларускаю завуся.

## Вучыла маці…

Вучыла маці ў роднай хаце,
Вучыла мудрасці народнай:
— Жыві, сынок, з людзьмі у ладзе
І не рабі нікому шкоды.
Другая маці ў роднай хаце
Інакшай мудрасці вучыла:
— Старайся быць, сынок, пры ўладзе,
Павагу будзеш мець і сілу!
Адзін сябрамі стаў багаты,
Надзелены людской любоўю.
Бо чалавека меў за брата,
Да сэрца браў чужыя болі.
— Каб гэткіх маці не радзіла! —
Праклёны чуў другі і скаргі.
Уладу меў, была і сіла,
Ды толькі не было павагі…
І я прашу: вучыце, маці,
Сыноў і сёння, як спрадвеку,
Каб і пры славе, і ў багацці
Рос сын спачатку Чалавекам.

## З думай пра музей Ларысы Геніюш

Ад родных ніў ішло да Вас натхненне,
Ад ваўкавыскіх, зэльвенскіх сцяжын.
І за мяжой — пра Беларусь трызненне,
І белы сон пра родны край адзін.
Нахлынуць успаміны, думы, мроі —

І дапазна агеньчык у акне.
Чай для гасцей на чабары настоены,
А ўласны шлях — на горкім палыне.
Але ніхто не бачыў Вашы слёзы,
І песню задушыць не змог надзор.
Бо па-над шэрай буднічнаю прозай
Ваш позірк быў скіраваны да зор.
То гаманілі ветліва з сялянкай,
То басанож хадзілі па траве,
То невадам із Нёмана, з Зальвянкі
Лавілі залатую рыбку — верш.
Вас помняць людзі, помняць сад і кветкі,
Што грэліся ля Вашага цяпла,
Заступніца за Беларусь, паэтка,
Што побач з намі па зямлі ішла.
Не зарастаюць да магілы сцежкі,
На помніку — букеты і вянкі,
Бо помняць воблік Ваш і Вашу ўсмешку,
Бо просяць прабачэння землякі.
І скажа праўнук мовай сакавітай,
Прыехаўшы з далёкага сяла:
— О! Зэльва ў белым свеце знакаміта,
Бо тут Ларыса Геніюш жыла!

## АБАВЯЗАК ПЕРАД ПАМЯЦЦЮ

Беларускага празаіка Івана Сяргейчыка (1949–2006) ведаў шмат гадоў. У коле жыццёвай мітусні сустракацца выпадала рэдка, але гэтыя сустрэчы былі даволі гарачыя ад спрэчак. Але раней… раней была вайна ў Афганістане, удзельнікам якой быў і Іван Сяргейчык.

Нарадзіўся ён у 1949 годзе ў вёсцы Пустаборы на Зэльвеншчыне. Скончыў Слонімскае СПТВ, пэўны час

пасля працаваў на будаўніцтве аўтадарог. З 1970 да 1990 года служыў у Савецкай Арміі. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.

У час знаходжання на афганскай вайне Іван Сяргейчык пісаў дзённік. Гэты дзённік праляжаў у яго шмат гадоў. І што цікава — пісаўся ён на роднай беларускай мове. У бібліятэцы часопіса «Маладосць» афганскі дзённік Івана Сяргейчыка пабачыў свет. Ён выйшаў асобнай кнігай пад загалоўкам «Горкі пыл Гіндукуша».

З асаблівай увагай я прачытаў гэты афганскі дзённік свайго земляка, асабістыя думкі па-сяброўску выказаў Івану. Ад прачытанай кнігі ўзніклі таксама і пытанні. Мы размаўлялі ў жніўні 1991 года. А ў 2006-м яго не стане.

*— Іван, выхад першай кнігі — гэта заўсёды радасць для аўтара. Ці так?*

— Безумоўна. Думаю, што яно і павінна так быць. Першая кніга, як першая ластаўка — прыкмета радасці і надзеі. Сяргей, а цяпер дазволь задаць табе пытанне: ці бачыў ты ўспышку выбуху снарада альбо міны ноччу ў гарах?

*— Не…*

— Яна вельмі кароткая. Успыхне — і няма. Такою была і мая радасць. Як бліскавіца. Толькі пасля выбуху ў чалавека застаецца звычайна сполах у душы. У мяне ж пасля тае радасці засталося хваляванне. Справа ў тым, што тады, напачатку 1980-х гадоў, тыя, хто стварыў 40-ю армію з ДРА і пасылаў нас выконваць інтэрнацыянальны абавязак, наракл і нас воінамі-інтэрнацыяналістамі. У «пасведчанні на льготы» напісана: «За паспяховае выкананне ўрадавага задання мае права

на льготы…» Людзі кажуць: «Што напісана пяром, не высечаш сякераю». Запіс застаўся, а вось тыя, хто яго ўзаконіў, жывыя не ўсе. Дый вінаватага няма сярод іх. Нас жа, выканаўцаў урадавага задання, нараклі забойцамі. Мы ваявалі. Мы былі салдатамі і выконвалі загад. Мы забівалі. Бо мы былі на вайне. Думалі рознае, а рабілі адну агульную справу. Людзі аддавалі жыццё за ідэю. Атрымлівалі баявыя ўзнагароды… Уявіце сабе такое: чалавек атрымаў ордэн Леніна і Зорку Героя Савецкага Саюза за подзвіг, за праяўленне найвышэйшага гераізму і мужнасці. Яго ўзнагародзіў савецкі ўрад ад імя Радзімы, ад імя народа. А сёння кажуць таму герою: «Ты — забойца».

Сэрца разрываецца на часткі. Хочацца крыкнуць: «Лю-дзі-і! Што вы робіце?!» Таму няма радасці. Застаўся толькі боль. За тых асабліва, хто аддаў жыццё.

Выхад маёй кнігі — гэта мой абавязак перад памяццю аб іх, перад мёртвымі і жывымі. Гэта мой нясцішны боль. Лопнуў нарыў нарэшце. Але ці будзе лягчэй? Не ведаю. Відаць, не будзе. Людзі не разумеюць нас. Мы не маем права крыўдаваць на іх. Бацькоўскае пакаленне прайшло праз чатырохгадовы агонь Вялікай Айчыннай вайны. Маё — праз дзесяцігадовы афганскі агонь. Бацькоў пасля вайны Радзіма і грамадства сустракалі цяплом абалелых сэрцаў, як пераможцаў. Нас жа сустракалі з недаверам, з пагардаю, як чужынцаў. Чаму так? Можа, таму, што мы не перамаглі? Не…

Я лічу, што першая кніга — гэта задатак мой чытачу. Калі ён прыме гэты задатак, дык ёсць спадзяванне думаць, што ён зразумее нас, афганцаў, зразумее нашы душы. Нельга выкрасліць з жыцця цэлае пакаленне. Без

мінулага няма будучыні. Страціць будучыню — гэта значыць знішчыць сябе.

*— Мне здаецца, што «Горкі пыл Гіндукуша» яшчэ не ўвесь твой афганскі дзённік. Гэта добра адчуваецца, калі ўважліва з ім пазнаёмішся.*

— Так. Ты здагадаўся. «Горкі пыл Гіндукуша» — гэта толькі невялікая частка запісаў, якія захаваліся. Кніжку можна прадоўжыць, хаця не ўсе запісы можна друкаваць. Я маю на ўвазе лёсы людзей, як, напрыклад, камандзіра ўзвода старшага лейтэнанта Сяргея Лісаўца. Захаваліся ў мяне і многія фатаграфіі, пісьмы да сям'і.

*— Цікава пачуць, Іван, тваю думку наконт кнігі Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі».*

— Праўда аб афганскай вайне патрэбна нашым людзям. Аднак я лічу, што праўда, сабраная Святланай Алексіевіч, вельмі жорсткая. Сведкі адказвалі на тыя пытанні, якія яна задавала. Атрымалася так, што там не было нармальных людзей, а былі толькі забойцы, наркаманы, злодзеі і прастытуткі. Прачытаў кнігу і падумалася: мы — адкіды грамадства. Крыўдна. «Афганцаў» і без таго разумець не хочуць.

*— Як справы сёння ў Сяргейчыка-празаіка і Сяргейчыка-афганца?*

— Пішу шмат. Хочацца хутчэй скончыць аповесць «Грымаса лёсу». Ёсць цікавыя задумы, якія неабходна ажыццявіць. Матэрыял вынашаны ў душы. Адчуваю, што ад тэмы афганскай вайны мне не адарвацца ніколі. Часта сустракаюся з сябрамі-афганцамі. У іх шмат праблем, якія цяжка вырашаць. Радуе, што ў Слоніме, дзе я жыву, створана арганізацыя — «Савет ветэранаў

Афганістана». Хочацца пажадаць сваім баявым сябрам поспехаў у працы і здароўя.

Пасля нашай гутаркі Іван Сяргейчык шмат пісаў і друкаваўся. Ён стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выдаў кнігі «Сцяжынка школьная мая…» (2005), «Без права на літасць» (2006). Жыў і памёр у Слоніме.

## З ВЕРАЙ У СІЛУ МАСТАЦТВА

З заслужаным артыстам Беларусі Баляславам Сяўко я быў добра знаёмы. Мы сябравалі, сустракаліся на Зэльвешчыне, якую ён любіў, успамінаючы сваё маленства і школьныя гады.

Нарадзіўся Баляслаў Сяўко ў 1940 годзе ў вёсцы Міжэрычы. Вучыўся ў мясцовай дзесяцігодцы, на канікулах, як і ўсе равеснікі, працаваў разам з бацькамі ў калгасе.

З усіх сваіх настаўнікаў з найбольшай удзячнасцю ўспамінаў Іосіфа Адамавіча Жыдка — выкладчыка фізкультуры. Па характары надзвычай шчырага і добразычлівага чалавека, які жыў клопатамі і інтарэсамі вучняў, усебакова дапамагаў ім загартоўваць не толькі цела, але і волю, вучыў перамагаць нават тады, калі для перамогі сіл, здавалася б, не засталося. Лыжныя кросы і маршы, шматлікія спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, валейболе і футболе, якія ён арганізоўваў, вучылі рабят змагацца і перамагаць. Калі ж і прайграваць — то дастойна!

Цёпла гаварыў Баляслаў Іванавіч і аб былой загадчыцы Міжэрыцкага сельскага клуба Сцепанідзе

Лук'янаўне Трафімовіч, якая вельмі многа зрабіла для развіцця ў пасляваенныя гады мастацкай самадзейнасці на вёсцы. Заўважыла яна здольнасці да мастацкага чытання і ў Баляслава. Прапанавала неяк прачытаць на чарговым канцэрце, а былі яны ў клубе частымі і збіралі вялікую аўдыторыю, «Дзялідзьбу» Якуба Коласа. «Быццам прадчула, што праз некаторы час буду працаваць у тэатры, які носіць імя Якуба Коласа», — казаў Баляслаў Іванавіч.

У Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут паступіў адразу. Скончыў вучобу ў 1965 годзе. Вучыўся ў педагога Дзмітрыя Арлова. Пасля атрымання дыплома ён і параіў Баляславу Іванавічу ісці працаваць у Другі Беларускі тэатр у Віцебск (цяпер Беларускі Акадэмічны тэатр імя Я. Коласа). І там артыст усё жыццё працаваў, іграў ролі да самай сваёй смерці.

— Прафесія акцёра, — разважаў Баляслаў Іванавіч, — самая залежная. Залежыш ад драматурга: чакаеш, каб ён напісаў для цябе. Чакаеш ад рэжысёра, каб ён даў магчымасць сыграць ролю, якая б табе спадабалася, убачыў цябе і г. д.

## Ролі ў тэатры і ў кіно

Акцёр Баляслаў Сяўко — выканаўца драматычных і характарных роляў. Вострае адчуванне жанру, выразнасць адзінай пазіцыі, драматызм, пластычнасць і экспрэсія, глыбокае пранікненне ў псіхалогію сваіх герояў вызначалі многія работы акцёра. Заслужаны поспех да Баляслава Сяўко прыйшоў пасля выканання роляў Юркі, Валодзькі і сына ў камедыях Андрэя Макаёнка «Таблетку пад язык», «Трыбунал», «Зацюканы апос-

тал», а таксама ў п’есах «Скорыя цягнікі» А. Паповай (роля Сярожы), «Апошняя інстанцыя» М. Матукоўскага (роля Дзімкі).

Жыццёва праўдзівыя, псіхалагічна дакладныя, эмацыянальна насычаныя вобразы стварыў наш зямляк і ў класічнай, і ў сучаснай драматургіі. Гэта — Алёша («Прыніжаныя і зняволеныя» паводле Ф. Дастаеўскага), Гатыньш («Ветрык, вей!» Я. Райніса), Сільвіа («Слуга двух гаспадароў» К. Гальдоні), Аўгуст Фіш («Аз» і «Ферд» П. Фёдарава), Іван Акімавіч («Вясёлы дзянёк» В. Пакроўскага) і многія іншыя.

Баляслаў Сяўко быў вядомы і як кінаакцёр. Ён зняўся ў фільме «Малады дубок» паводле апавядання Я. Коласа, дзе сыграў ролю Максіма. Гледачы добра памятаюць і шматсерыйны фільм «Дзяржаўная граніца». У гэтым фільме акцёр сыграў ролю паляка Стапіньскага.

## Захапленні

У вольны ад тэатра і кіно час Баляслаў Іванавіч спяшаўся ў другі тэатр — пантамімы «Мім», які ён арганізаваў сярод глухіх дзяцей у Віцебску яшчэ ў 1969 годзе. Праўда, за ўвесь час яму як рэжысёру так і не давялося прайсці стажыроўку, павучыцца гэтаму складанаму жанру, які ўслаўляе пластыку чалавечага цела і душы. Між тым поспехі тэатра былі відавочныя: яму ў 1982 годзе прысвоілі званне народнага. У сваім рэпертуары «Мім» налічваў больш за 50 пастановак, аўтарам якіх з’яўляецца сам кіраўнік. Сярод іх — «Мы — не рабы», «Век жыві — век вучыся», «Рыцар», «На арэне цырка» і іншыя.

Аднойчы Баляслаў Іванавіч наведаў у Маскве, на Арбаце, выстаўку народнай творчасці, на якой дэманстраваліся вырабы з дрэва, саломкі. Вялікае ўражанне зрабіла гэтая выстаўка на яго. З таго часу сам пачаў захапляцца падзелкамі з дрэва: у яго калекцыі сабралася шмат цікавых і арыгінальных вырабаў. У іх — часцінка мастацкага бачання свету, любоў да прыгожага на зямлі. У іх — шчодрасць і дабрыня душы самога акцёра.

Многае можна было расказаць пра гэтага таленавітага і цікавага чалавека, які больш за ўсё баяўся быць толькі адной фарбай у тэатры і ў жыцці, а хацеў застацца разнапланавым і шматколерным. Для гэтага ён умеў назіраць і назапашваць у душы назіранні. Ён упарта працаваў і заўсёды верыў у вялікую сілу мастацтва. На вялікі жаль, лёс яму адмераў толькі 62 гады.

## ШЧЫРАЯ ІРЫНА ВАСІЛЕЎКА

У гэтай кнізе я вырашыў напісаць некалькі радкоў пра журналістку і перакладчыцу Ірыну Васілеўка з Зэльвы. Нарадзілася яна ў вёсцы Міжэрычы на Зэльвеншчыне. Пачала друкавацца ў раённым, абласным і рэспубліканскім друку яшчэ ў час вучобы ў Міжэрыцкай сярэдняй школе, пасля заканчэння якой працягвала вучобу на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

З 1973 года працавала ў зэльвенскай раённай газеце «Праца» адказным сакратаром рэдакцыі, пасля — намеснікам рэдактара і рэдактарам. Цяпер на пенсіі. Жыве ў Зэльве.Узнагароджана Памятным знакам «2000 год Хрысціянству».

Я шмат гадоў ведаю гэтую шчырую, сціплую і мілую жанчыну. Калі яна была рэдактарам раённай газеты «Праца», я ўпершыню на яе старонках апублікаваў вялікі артыкул пра прэзідэнта БНР Васіля Захарку, а таксама дзясяткі артыкулаў пра Ларысу, Янку і Юрку Геніюшаў, пра іншых вядомых зэльвенцаў.

Ірына Васілеўка і сама часта выступала ў перыядычным друку з артыкуламі пра сваіх землякоў. Цяпер яна перакладае на беларускую мову рэлігійныя творы і вершы польскіх паэтаў. Пераклад Святога Францішка з Асіза яна прапанавала зэльвенскаму выданню «Зоры над Зальвянкай» (Слонім, 2008), але тэкст у кнігу не ўключылі. Я вырашыў выправіць гэту памылку.

*Святы Францішак з Асіза*
*(1181–1226)*

## Песня аб стварэннях

Найвышэйшы, ўсёмагутны, добры Божа.
Табе гонар, і хвала, і пашана,
І ўсялякае благаславенства.
Толькі Табе, Найвышэйшы, яны належаць,
І ніводны чалавек не варты нават упамянуць Цябе.
Пахвалёны будзь, Пане мой, з усімі стварэннямі Тваімі,
Асабліва з панам братам сонцам,
Які ўладкоўвае дзень, праз яго даеш нам святло.
Ён цудоўны і прамяністы ў ясным німбе,
Ён Цябе, Найвышэйшы, зразумець дапамагае.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру поўню і за зоркі.
Ты зрабіў іх на небе яснымі, каштоўнымі і прыгожымі.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за брата ветру,
І за паветра, пахмурнае і яснае, і ў кожную пару,
Дзякуючы якім існуюць Твае стварэнні.

Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру ваду,
Якая вельмі карысная, пакорная, каштоўная і чыстая.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за брата агонь,
Якім ты распраменьваеш ноч,
Ён такі прыгожы, вясёлы, уладарны і доблесны.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру нашу маці зямлю,
Якая нас падтрымлівае і корміць,
І дае нам розныя плады з кветкамі розных колераў
і травой.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за тых, хто дзеля Тваёй
Любові прабачае і зносіць хваробу і пакуты.
Благаславёныя, хто вытрымае ў спакоі,
Бо табой, Найвышэйшы, будуць сцешаны.
Пахвалёны будзь, Пане мой, за сястру нашу смерць
Цялесную, якой ніводны жывучы чалавек не можа
пазбегнуць.
Гора тым, хто памрэ ў грахах смяротных.
Благаславёныя, каго яна застане жывучымі паводле Тваіх
Найсвяцейшых жаданняў, бо іншая смерць ім ужо
не пагражае.
Услаўляйце і благаслаўляйце майго Бога,
Дзякуйце і служыце Яму з вялікай пакорай.

*Пераклад з польскай мовы Ірыны Васілеўкі*

## УЗЫХОДЖАННЕ ЗЭЛЬВЕНСКАГА ПАЭТА

Калі з друку ў 1969 годзе выйшаў першы паэтычны зборнік вершаў Юркі Голуба «Гром на зялёнае голле», Аляксей Пысін напісаў на яго рэцэнзію, апублікаваў у «Магілёўскай праўдзе» і назваў «Узыходжанне». Хаця ніякага дачынення малады паэт з вёскі Горна Зэльвенскага раёна да Магілёўшчыны не меў, але дужа спадабаліся вершы вопытнаму паэту. Станоўчыя рэцэнзіі на першую кніжку Юркі Голуба з’явіліся ў «Гомельскай

праўдзе», у «Маладосці», «Нёмане», «Полымі» і іншых выданнях. Вось бы сёння так пісалі пра паэтычныя зборнікі беларускіх паэтаў, тады пра іх ведала б уся Беларусь і цаніла б паэтычны талент па-сапраўднаму шчыра і дастойна.

Аляксей Пысін у той час не памыліўся, бо ён адразу адчуваў і бачыў таленавітых хлопцаў і прарочыў ім паэтычную славу. Узыходжанне па паэтычны Алімп ён прадказаў і Юрку Голубу. З цягам часу з друку пачалі выходзіць новыя кнігі вершаў паэта — «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Помню пра цябе», «Сын небасхілу», «Поруч з дажджом», «Багра» і г. д.

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Юрка Голуб не застаўся ў сталіцы, як многія яго сябры і равеснікі, а паехаў на родную Гарадзеншчыну. На абласным радыё ён вёў цудоўную перадачу «Гродзеншчына літаратурная», а пасля ў «Гродзенскай праўдзе» загадваў аддзелам культуры і штомесяц рыхтаваў і друкаваў літаратурныя старонкі, дзе змяшчаў творы пісьменнікаў Гарадзеншчыны, а таксама гісторыка-краязнаўчыя старонкі «Родны край». Мы, маладзейшыя творцы зямлі гарадзенскай, абавязаны яму за тое, што пра нас ён пісаў, апрацоўваў і друкаваў нашы першыя вершы, замалёўкі, нарысы.

У 2002 годзе Юрка Голуб разам з рэдактарам «Гродзенскай праўды» Іосіфам Багіна пачаў выдаваць літаратурны штогоднік «Галасы». Там публікаваліся вершы і апавяданні, а таксама краязнаўчыя артыкулы аўтараў з гарадоў і вёсак Прынёмання. Распачата была добрая справа, каб падтрымаць творчую інтэлігенцыю, сабраць лепшае, што было напісана за год і апубліка-

вана на старонках «Гродзенскай праўды». Выйшлі з друку «Галасы» 2002, 2003, 2004, 2005 гадоў. А вось «Галасы–2006», хоць і былі складзены, так свет і не пабачылі. На пасаду новага рэдактара абласной газеты прыйшла нехта Бераснева, і яна забараніла выдаваць літаратурныя старонкі і старонку «Родны край», таксама знішчыла і «Галасы». Не вытрымаў і Юрка Голуб, сышоў з «Гродзенскай праўды». Неяк пры сустрэчы я запытаўся ў яго пра справы ў газеце. Ён адмахнуўся: «Лепш, Сярожа, не пытайся…»

Але не сышоў Юрка Голуб і яшчэ доўга не сыдзе, не збочыць са сцяжынкі нашай Літаратуры. Хоць, як сцвярджае Міхась Скобла, паэт да гэтай пары застаецца на належным узроўні не ацэнены крытыкай. Магчыма. Але якія ў яго паэтычных радках моцныя вобразы, параўнанні, інтанацыі, што калі іх чытаеш — проста смакуеш:

Зноў плешчацца ў плюшчы.
Трашчыць —
Чутно пад ранкі —
У ліўня на плашчы
Сухое шво маланкі.

Літаратура — не рэспубліка роўных. Гэта, здаецца, сказаў некалі Бальзак. Літаратура аб’ядноўвае вакол сябе таленты рознай велічыні і рознага гатунку. Талент Юркі Голуба вызначаецца яго непаўторнай манерай пісьма і вельмі вялікай асацыятыўнасцю. Яго паэтычны почырк не падобны да почырку іншых паэтаў. Яго нельга зблытаць з іншымі, ён — свой, са сваім адметным голубаўскім мысленнем і арыгінальнасцю. Ён па-сапраўднаму таленавіты чалавек, вельмі сціплы ў жыцці

і вельмі шчыры. Пра родную Зэльву і Зэльвеншчыну ён некалі напісаў: «Калі дзень разгортвае на небакраі ручнік раніцы, я дыхаю табой. Калі поўдзень садзіцца на золата саломы і палуднуе, я спраўляю на смак твой хлеб. Калі над горненскім лесам нясмелай сініцай ціранькае першая зорка, я ўслухваюся ў цябе. Радуюся…» Хораша сказана, ці не праўда…

20 кастрычніка 2012 года сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт Юрка Голуб адзначыў сваё 65-годдзе. Божа мой, зусім нядаўна, здаецца, калі я ў 1980-х гадах быў студэнтам БДУ, выкладчыца французскай мовы Святлана Мікалаеўна Любіч на ўроках французскай мовы вельмі часта згадвала свайго любімага выпускніка Юрку Голуба. «Мой Юрачка!..», — казала яна. Больш ніяк, толькі так яго называла. На вялікі жаль, наша любая Святлана Мікалаеўна рана пакінула гэты свет. Ды і яе Юрачку ўжо 65. А для нас, маладзейшых за юбіляра, ён — Юрый Уладзіміравіч. Няхай Ваша паэтычнае ўзыходжанне, Юрый Уладзіміравіч, яшчэ працягваецца доўга-доўга, аж да новых юбілеяў і кніг.

*2012*

## «МАРАФОН» І «СУСЕДЗІ ПА СУСВЕЦЕ»

*Пра кнігі вершаў Уладзіміра Мазго*

1

Перш чым пазнаёміцца з вершамі зборніка «Марафон» (Мінск, 1992) Уладзіміра Мазго (нарадзіўся ў Зэльве), прачытаў яго першую кніжачку «Пад спеў крыніц», якая выйшла з друку ў 1982 годзе. Якія светлыя і чыстыя, па-юнацку шчырыя былі там радкі. Яны запомніліся:

Абудзілі славянкі
Сонны бераг Зальвянкі.
Верным рыцарам коней
Купалі каханкі…

За гэты дзесяцігадовы шлях Уладзімір Мазго выдаў тры зборнікі лірыкі. «Пад спеў крыніц» — яго дэбют, пасля была «Вершаліна» (1987), затым дзіцячая кніжачка «Калі спрачаюцца маланкі» (1989) і вось… «Марафон». Для трыццацітрохгадовага літаратара, здаецца, творчы ўмалот нядрэнны. Таму новы зборнік для яго з'яўляецца нібы справаздачным.

Адразу скажу, што назва паэтычнай кніжкі мне не спадабалася. Няўжо лепшай назвы паэт не знайшоў? Мяркуючы па вершах у зборніку, назвы так і просяцца на вокладку: «Вільготны след расы», «Крыло хаты», «Мой вечны лес», «Святло далёкіх вокан», «Зорны парасон» і многія-многія іншыя. Думаецца, што любая з іх падышла б для гэтай паэтычнай кніжкі.

Склалі зборнік вершы і паэма «Амазонка». Што датычыцца твора «Амазонка» — цяжка назваць яго паэмай. Проста — верш. Паэма — гэта ўсё ж вялікі

вершаваны твор, у якім значныя праблемы рэчаіснасці раскрываюцца адначасова эпічнымі і лірычнымі сродкамі. Немагчыма па памерах параўнаць «Амазонку» У. Мазго з паэмамі «Сымон-музыка» Я. Коласа, «Сцяг брыгады» А. Куляшова, «Голас сэрца» П. Броўкі, «Куфар» Л. Геніюш і іншымі. Але твор мне спадабаўся сваім зместам. Прысвечаны ён дваццацітрохгадовай амазонцы Надзеі Дуравай — удзельніцы вайны 1812 года.

У новы зборнік «Марафон» Уладзіміра Мазго ўвайшлі вершы разнастайнай тэматыкі, большасць з іх прывезены з розных куткоў былой вялікай краіны. Адны назвы — гэта паэтычная геаграфія: «На Рыцы», «У Юрмале», «Турайдскі замак», «Ля Гагры» і іншыя. Але дзе б паэт ні быў, пра што б ні пісаў (і гэта пахвальна), у кожным ягоным зборніку ёсць вершы пра родную Зэльвеншчыну, пра сваіх землякоў. Новы зборнік без такіх вершаў выглядаў бы сумным і абыякавым. Але такога не адбылося. І быць не павінна, бо паэт любіць свой родны бацькоўскі куток, сумуе па ім, вяртаецца сюды:

Знаёмыя твары сяброў,
Прыветныя ўсмешкі.
На ўзмежжу вячыстых бароў —
Бярэжкі.
Дзе рэха канала ў журбе
Капежнай,
Ці не прысніўся табе?
— Канешне…
Варушыцца зноў напамін
Хваляй…
З табою, дзе сёння адзін,
Стаялі…

У шчырых, кранальных вобразах увасоблены паэтам успамін аб вясковым маленстве і студэнцкім жыцці. Ён імкнецца раскрыць складанасць узаемаадносін чалавека з навакольным светам, прагу глыбокіх і чыстых пачуццяў. З вялікай цікавасцю чытаюцца вершы «Дыялог са страхагентам», «Так многа год сплыло…», «Дэзактывацыя», «Сляды», «Жанчыне дадзена радзіць…» і іншыя.

Ёсць у зборніку «Марафон» і мініяцюры. Да гэтай формы Уладзімір Мазго звяртаецца ўпершыню. Яны, лічу, удаліся:

Вы чуеце, як варушыцца цішыня,
Замураваная ў каменных сценах Нясвіжа або Сігулды?

Адно засмучае, што вельмі шмат у зборніку слоў «ціша», «цішыня», «ціш». Пры чытанні вершаў яны проста надакучваюць: «ціша галасіла», «ні майскі гром у цішы», «дрэмле цішыня», «такая сёння ціша», «раннем спуджаную ціш», «як стэлавая ціша», «у далях ціш», «такая ціш — да нематы» і г. д. І ўсё гэта ў розных вершах. Ці можа, я памыляюся? Бо ў наш трывожны і складаны час так хочацца сапраўднай цішыні. А творчаму чалавеку, напэўна, тым больш…

За ўсе невялікія заўвагі, выказаныя вышэй, няхай на мяне мой зямляк і сябра не крыўдуе. Усё ж вершы Уладзіміра Мазго мне падабаюцца сваім імгненнем — адкрыццём. У кожным творы ёсць нешта новае, вакол якога некалькі строф і… ён атрымаўся. Можа, некаторым чытачам такое не падабаецца, больш хочацца вершаў з нейкім маленькім сюжэтам. Але вершы У. Мазго мне імпануюць сваёй канкрэтнасцю, лёгкасцю, пры

чытанні іх уяўляецца той малюнак, які вершаванымі радкамі стварае паэт…

Два добрыя вершы «Паэт» і «Душой ўсе мы — паэты» знаходзяцца ў зборніку побач. У адным з іх Уладзімір Мазго сказаў:

А талент?
Талент даражэй,
Што дадзен Богам.
Паэт павінен быць вышэй
Сябе самога…

Гэтай вышыні і хочацца пажадаць у жыцці і творчасці аўтару «Марафона».

2

Паэтычная творчасць нашага земляка Уладзіміра Мазго добра вядомая жыхарам Зэльвеншчыны. Аўтар за свае гады выдаў ужо шмат кніг для дарослых чытачоў і для дзяцей. Новы зборнік «Суседзі па свеце» (Мінск, 1994) нядаўна з'явіўся на паліцах кніжных крамаў рэспублікі.

Кніжка «Суседзі па свеце» Уладзіміра Мазго адрасавана дзецям дашкольнага і малодшага ўзростаў. Яна адкрываецца вершам «Родная мова», які паэт прысвяціў Ларысе Геніюш. Дарэчы, у свой час і Ларыса Геніюш таксама шмат пісала для дзяцей. Свет пабачылі два яе дзіцячыя зборнічкі паэзіі «Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы, Алесь!». Як бачыце, вучыцца ёсць у каго. Бо слынная паэтка нашага краю ў сваіх творах заўсёды заклікала любіць сваю Бацькаўшчыну, шанаваць і берагчы яе мову, гісторыю і народныя звычаі.

Добра, што і наш зямляк у новым зборніку таксама шчыра гэта робіць. У вершы, які стаў назваю кніжкі, Уладзімір Мазго піша:

І дарослыя, і дзеці —
Усе — суседзі на сусвеце.
А калі ты — нам сусед —
Беражы Зямлю як след,
Мову матчыну шануй,
Ведай бохану цану.
Пранясі праз пакаленні
Чалавечнасць і сумленне.

Гэтай тэме адрасаваны і вершы «Шумяць лясы», «Вяртанне крылатых сяброў», «Дзень волі» і казка «Адзінец». Менавіта вершаваная казка «Адзінец» — адзін з самых моцных і цікавых твораў для дзяцей Уладзіміра Мазго. Адзінец — гэта белавежскі зубр, які вызваляе свой родны край ад галодных ваўкоў, пасля чаго

Зноў ад Нёмана да Дняпра
Уздыхнуў свабодна край…

Калі яшчэ раз вярнуцца да творчасці Ларысы Геніюш, дык скажу, што і ў яе ёсць верш з назваю «Зубр — адзінец». Ці не ён натхніў паэта на напісанне добрай казкі? Відаць, так. Бо белавежскія зубры — гэта гонар нашай Беларусі.

Для кніжкі «Суседзі па сусвеце» характэрны і дасціпны гумар. Аўтар удала перадаў вершаванымі радкамі смешныя рысы ў характарах юных герояў, іх паводзіны і ўчынкі. Напрыклад:

У нас Воўка — проста ас:
У красоўках «Адзідас»…
Не пазнаць на ўроку Воўку:
Ледзь адолеў стометроўку…

Пра многіх хлопчыкаў і дзяўчынак напісаў Уладзімір Мазго. Некаторыя юныя чытачы пазнаюць у іх сябе. Тут ёсць і дзяўчынка Маша, якая любіць эскімо, і Ясь, якому шпак шчабеча мовай чалавечай, і суседзі-сябры Андрэйка і Надзейка, і Оля, якая добра малюе, і Юля, якой сняцца зайчык і зязюля, і Святлана, якая прачынаецца рана. Юныя чытачы, прачытаўшы кнігу нашага земляка, з вялікай радасцю пабываюць у Абхазіі, на моры, у Мінску ў планетарыі, на аўкцыёне, у заапарку і шмат-шмат яшчэ дзе.

Адзін з раздзелаў новай кнігі Уладзіміра Мазго склалі рыфмаваныя загадкі. Іх трэба не толькі ўмець адгадаць, але і падабраць адпаведную рыфму-адгадку. Вось, напрыклад, як гучыць такая загадка:

Дом-палац стаіць высокі,
Нашых ведаў там вытокі.
Радасць свеціцца наўкола…
Ну, вядома, гэта — (школа).

Несумненна, кніга паэта з нашай Зэльвеншчыны — добры падарунак юным чытачам рэспублікі.

*1992–1994*

## ПАЭТЫЧНАЯ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНА

Зэльвеншчыне пашанцавала. На яе зямлі заўсёды жылі добрыя паэты. І цяпер жывуць: Генадзь Коўш — у Дзярэчыне, Святлана Літвінчык — у Елцы, Алена Кароза і Святлана Патаповіч — у Зэльве. Калі Генадзь Коўш ужо выдаў некалькі сваіх паэтычных кніг, то Святлана Літвінчык, Святлана Патаповіч і Алена Кароза мараць, што і яны хутка патрымаюць у руках свае зборнікі. Дый не адзін, бо напісана імі шмат, творы іх заслугоўваюць увагі і сур'ёзных літаратурных водгукаў.

* * *

Генадзь Коўш нарадзіўся ў вёсцы Александрыя каля Дзярэчына. Скончыў Дзярэчынскую сярэднюю школу і фізічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Друкаваўся ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Выдаў кнігі «Кружныя шляхі» (2005), «Разважанні ліцвіна» (2007), «Высновы літвіна» (2009), «Вершакроплі» (2009), «Сказы» (2011). Сам аўтар неяк сказаў пра свае вершы, што ён у іх заклікае задумацца над душэўным холадам, пераглядзець адносіны да наваколля, да іншых людзей, зрабіць патрэбныя высновы. Адначасова Генадзь Коўш у сваіх «вершакроплях» звяртае ўвагу на некаторыя з'явы, падзеі, учынкі:

Наваколле —
Мая зямля,
Застолле —
Мая сям'я.
Дрэвы —
Мае сябры.
Нервы —
Гаспадары.

Паэт-філосаф Генадзь Коўш хораша разважае пра жыццё, пра ідэалы дабрыні і справядлівасці. Ён верны сваім вытокам — непаўторнай Бацькаўшчыне, глыбінным карэнням чалавечай душы, усяму, што створана людскім розумам і рукамі.

Арыгінальнай атрымалася яго кніжка «Сказы». Тут таксама адны разважанні, думкі, высновы ў выглядзе сказаў. Сказы яго атрымаліся цікавымі, яны вельмі трапныя па глыбіні і назіральнасці: «Сапраўднае багацце вызначаецца багаццем бедных», «Прыбіраючы смецце, цяжка заставацца чыстым», «І дарога ў падвал можа вывесці на вяршыню», «Навокал усё проста, толькі мы складаныя».

* * *

Са жніўня 1985 года Святлана Літвінчык працуе настаўніцай роднай мовы і літаратуры Елкаўскай сярэдняй школы, з'яўляецца намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце. А калі ёсць вольная хвіліна — піша вершы, друкуецца. Яе паэтычныя радкі пра Беларусь, пра зямлю бацькоў і вяргіні, пра «сінявокую валошку» і «блакіт нябёс», пра «смак антонавак» і «маміна цяпло».

Святлана Літвінчык любіць свой край, яна ганарыцца ім, яна светла яго апявае. Стылем яе творчасці з'яўляецца прага ўзвышанага, пошук незвычайнага ў звычайным, калі слова, ачышчанае ад прыземленай будзённасці, становіцца святам. Яе працоўная радасць заўсёды нясе ў сабе нешта святочнае, адухоўленае. Хораша напісаны ў паэткі вершы пра Сынковіцкі храм. Іх некалькі, яны розныя па вобразах, разважаннях, па шырыні сваёй паэтычнай задумы. У адным вершы паэтка адчувае, як «спакоем вее ад муроў», як «светлым вэлю-

мам ляціць душа ў свет вольны пад аблокі». У другім паэтка жадае, каб храм прастаяў яшчэ вякі, і каб «званіў царкоўны звон», і «каб лілася песня ў неба». У трэцім жанчына пяе гімн Сынковіцкаму храму-царкве:

Зямля дачакалася зорнай хвіліны:
Ідзе адраджэнне, наш хорам жывы.
А пройдуць гады — загучаць яшчэ й гімны
У гонар Сынковіцкай вечнай царквы.

* * *

Алена Кароза нарадзілася ў вёсцы Каралін. Скончыла Ваўкавыскае педвучылішча і Белдзяржуніверсітэт. Працуе настаўніцай у Зэльвенскай сярэдняй школе № 2. Была лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу «Настаўнік года–92».

Пра яе паэтычныя радкі пра Зэльву, пра зэльвенскія туманы і Каралін можна разважаць доўга. Паэтка ўмее жадаць людзям дабра, шчасця, каб «здаровы быў люд, каб быў мір на блакітнай планеце», каб «званочкавым смехам заўсёды смяяліся дзеці». Мне падабаецца верш Алены Кароза «Зэльвенскія туманы». Ён лёгка чытаецца, а гучыць як песня:

Там з каханкаю над Зальвянкаю
Будзеш сніць салодкія сны.
Ціхім покрывам на світанку вам
Будуць нашыя туманы.

* * *

Святлана Патаповіч родам з вёскі Залацеева. Пасля школы скончыла Слонімскае медыцынскае вучылішча і вярнулася ў Зэльву, дзе ў мясцовай бальніцы працуе

медсястрой. Усё жыццё Святланы побач з медыцынай крочыць паэзія. Чыстая, светлая, спелая, яна ўражвае лірычнасцю, дабрынёй, пяшчотай. Вершы паэткі багатыя на параўнанні і эпітэты, яны лаканічныя, авеяны свежасцю і шчырасцю. Пра вёску Святлана Патаповіч піша, што яна «прытулілася, прытаілася», а пра лета — «адзвінела, адцвіло, адвеяла лета перазовам ручаёў», пра матулю — «задуменная, ціхая, простая». Мне вельмі падабаюцца яе лірычныя вершы, якія прасякнуты нейкім тужлівым рамантызмам, вясковай настальгіяй і ўсхваляванасцю:

Недзе там, за ваколіцай,
Апусцела сенажаць…
І ты недзе таксама колішні:
Не сустрэць цябе, не абняць.

* * *

Пра вершы Генадзя Коўша, Святланы Літвінчык, Алены Кароза, Святланы Патаповіч хочацца пісаць, разважаць і спрачацца доўга. Іх лірыка развіваецца сёння на быстраку паўнаводнай плыні нашай сучаснай паэзіі. Ды рэчышча гэтай плыні настолькі шырокае, што я часта не паспяваю акідваць вокам усё, што ўліваецца ў яго.

## МОЦ СМАКУ БЕЛАРУСКАЙ КУХНІ

У Беластоку ў выдавецтве «Ортдрук» выйшла з друку арыгінальная і суперпрыгожая кніга Юрыя Качука «Моц смаку», прысвечаная беларускай кухні. Такой арыгінальнай і «смачнай» беларускай кулінарнай кнігі я

яшчэ не трымаў у руках. Сапраўды, выданне ўнікальнае як па змесце, так і па мастацкім афармленні.

Юры Качук жыве ў Зэльве. Але, як бачыце, і ў беларускай глыбінцы можна пісаць, рыхтаваць і выдаваць добрыя беларускія кнігі. Так, як гэта робіць Юры Качук. Дарэчы, гэта ўжо другая кніга спадара Юрыя, прысвечаная стравам і кухні. У 2007 годзе ён разам з Янінай Чыжэўскай на Беласточчыне выдалі сваю сумесную працу «Традыцыйныя стравы Беласточчыны і Гродзеншчыны». І вось — новая выданне, над якім Юры Качук працаваў апантана і доўга. Кнігу ён сам задумаў, сам афармляў, сам рабіў фотаздымкі страў, а таксама сам займаўся вёрсткай кнігі.

Юры Качук часты госць на Беласточчыне. Штогод яго запрашаюць да ўдзелу ў конкурснай камісіі на Падляскай Бяседзе Мядовай у Тыкоціне, дзе ён з'яўляецца старшынёй журы турніру Мядовых Налівак і конкурсу на найсмачнейшы мёд Падляшша. Яніна Чыжэўская пра Юру Качука кажа, што ён заўжды ў дасціпнай і адначасова паэтычнай форме растлумачыць вердыкт камісіі. «Калісьці аб адной з налівак Юры сказаў, што даў бы ёй назву "Каўказскі джыгіт" ці "Мачо", бо яна прыйдзецца да смаку толькі сапраўдным мужчынам, што вельмі спадабалася гледачам, і гэта віталася бурнымі апладысментамі», — прыгадвае Яніна Чыжэўская.

Доўгі час традыцыйная беларуская кухня была ў забыцці. А калі ў беларусаў пыталіся пра іх традыцыйную беларускую страву, то яны адказвалі і адказваюць цяпер: гэта дранікі. Аказваецца — не толькі дранікі. І ў гэтым любы пераканаецца, калі пагартае і пачытае кнігу «Моц смаку». Наогул, у кулінарным майстэрстве сучасная беларуская кухня захавала ўсю гістарычную

традыцыйнасць, якая склалася на працягу тысяч гадоў, пра што сведчаць і розныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі. Якое ўнікальнае захапленне ад адной толькі думкі, як піша аўтар, аб інжынернай распрацоўцы сагана, які існуе, па звестках з раскопак, таксама некалькі тысяч гадоў. Да сённяшніх дзён кухня гістарычнай Вялікай Літвы (Беларусі) слаба вывучана. Усім вядома толькі пра вынаходніцтва абаранкаў у Смаргоні, і то прыпісаных сабе расейцамі.

Некалі ў старажытных рымлян абед пачынаўся з яблыкаў і завяршаўся садавіной. Кніга страў Юрыя Качука пачынаецца са страў з яек і завяршаецца напоямі. Чытаючы і гартаючы кнігу зэльвенца, бачыш, якая ўсё ж багатая на стравы наша беларуская кухня. Тут і стравы з грыбоў, мясныя і рыбныя стравы, стравы з дзічыны, з агародніны, з малака, мукі, круп, а якія ёсць смачныя напоі, заедкі, ласункі і слодычы. Сліна цячэ, калі, напрыклад, чытаеш пра паляндвіцу па-гусарску, свіны кумпяк у сухарах, пра катлеты з хрэнам ці пра гуляш па-дзярэчынску. Так і хочацца паспрабаваць прыгатаваць і пачаставаць беларусаў карпам з чырвоным перцам, шчупаком з грыбамі ў белым віне, бульбяной кішкай, свінымі рабрынамі па-засцянкоўску. Дарэчы, у кнізе апісаны ўсе стравы, а таксама іх складнікі. Усе стравы вельмі проста гатаваць, без ніякіх там заморскіх прыпраў і выкрунтасаў. Кожная страва складаецца з беларускай садавіны ці агародніны, свініны, дзічыны і рыбы. Амаль да кожнай стравы ў кнізе падаецца здымак аўтара ці малюнак зэльвенскага мастака Васіля Шамрука. Усё гэта ў кнізе зроблена і аздоблена з густам і прафесійна.

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ КУХНЮ, ПРАВІНЦЫЮ І БРЫЗГАЎКУ…

Пра такіх людзей, як Юры Качук, кажуць, што ён майстар на ўсе рукі. Па прафесіі Юры Качук — інжынер па эксплуатацыі аўтамабільнага транспарту. Але ён не вельмі любіць сваю прафесію. У апошнія гады ён займаецца тым, чым хоча. Ён, напрыклад, напісаў сцэнарыі і зняў некалькі дакументальных фільмаў, спрабуе сябе ў літаратуры, гісторыі, выдавецкай справе, камп'ютарнай графіцы, філатэліі, картаграфіі, музыцы, піша карціны і г. д. Але найбольшым ягоным захапленнем — на прафесійным узроўні — з'яўляецца беларуская кухня. Нядаўна я наведаў Юрыя Качука ў Зэльве, дзе мы трохі пагутарылі пра тое, чым ён захапляецца, чым жыве, што думае.

*— Юра, як ты, інжынер па адукацыі, сур'ёзна захапіўся беларускімі стравамі? Усё ж гэта жаночая справа — кухня, стравы, частаванне.*

— Кухмайстар — гэта і ёсць інжынер кухні. Рэцэпт — праект, рондалі, патэльні, дый іншыя кухонныя прычындалы — тэхніка, складнікі будучай стравы — пакуль што яшчэ толькі сыравіна для выніку, прапорцыі солі, перцу ды іншых запраў таксама патрабуюць дакладнага «інжынернага» разліку (у беларускай кухні няма расейскай аксіёмы *«Кашу маслом не испортишь»*, ды і сваёй кнігай «Моц смаку», спадзяюся, што даказаў: *«Щи да каша — пища наша»* — гэта не з беларускай «оперы»). З інжынерным досведам трэба падыходзіць і да розных спосабаў цеплавой апрацоўкі прадуктаў, такіх як смажанне, абсмажванне, падсмажванне, пражанне, скваранне, падскварванне, варанне, тушэнне,

смажанне на ражне над вуголлем, варанне ў люце (лют — герметычная апрацоўка прадуктаў у жары)… А каб смачная страва ды яшчэ і выглядала прыгожа — гэта ўжо мастацтва… Веданне паходжання стравы — гэта ўжо не толькі гісторыя, а і захаванне традыцыі.

Жаночай справай кухня была тады, калі стомлены ад палявання мужчына ледзь валок, калі пашчасціць, сваю здабычу, жанчыне, якая цярпліва і напружана чакала, падкідаючы ламачча ў агонь… Чакала і думала, якім спосабам яшчэ прыгатаваць… Прыгатуе і кажа: «Буду цябе карміць». Жаночая логіка! Вось так і пачаўся матрыярхат, які доўжыўся да тых часоў, пакуль у мужчыны не развілася інжынерная думка: ён пачаў апрацоўваць для зброі дрэва, камень, а потым і метал, з гліны ляпіць гаршкі, абкладаючы касцёр камянямі, каб не здарыўся пажар, дадумаўся да канструкцыі печы, адразу і сам стаў кухарыць, каб выпрабаваць кухонныя прыстасаванні і прычындалы. З тых часоў і пачаўся патрыярхат… А з Сярэднявечча ў Еўропе (Усход — асобная размова) толькі мужчыны лічацца вялікімі кухарамі…

*— Як ты трапіў у Конкурсную камісію на Падляскай Бяседзе Мядовай у Тыкоціне, дзе, ведаю, з'яўляешся старшынёй Турніру Мядовых налівак і конкурсу Найсмачнейшы мёд Падляшша?*

— У 2007 годзе дзякуючы Вітаўту і Лане Руднікам з гродзенскага «Трэцяга сектару» падчас працы над польска-беларускім праектам я пазнаёміўся з кіраўніцай Падляскай Бяседы Мядовай Янінай Чыжэўскай з Беластоку. Мы напісалі сумесную кнігу «Традыцыйныя стравы Беласточчыны і Гродзеншчыны», з таго часу і

сябруем… Чаму я трапіў у Конкурсную камісію на Падляскай Бяседзе Мядовай у Тыкоціне і быў старшынёй Турніра Мядовых Налівак і конкурсу Найсмачнейшы мёд Падляшша больш падрабязна чытайце ў прадмове Яніны Чыжэўскай да маёй кнігі «Моц смаку».

*— Што табе дае той конкурс?*

— Падтрымку веры, што і ў нас калісьці будуць сапраўдныя народныя святы, зробленыя з любоўю да справы прафесіяналамі, а не адказнымі за правядзенне мерапрыемства. Тым больш мая вера спраўдзілася ў кастрычніку 2012 года, калі жыхары дома № 6 па вуліцы Перамогі ў Зэльве адзначалі саракагадовы юбілей дома. Сярод «юбіляраў» быў і я з жонкай Ліляй. Праграме, якую падрыхтавалі супрацоўнікі Зэльвенскага раённага аддзела культуры, мог бы пазайздросціць любы фестываль. І да гэтага часу ў мяне засталося пачуццё, якое завецца замілаваннем.

*— Чым адрозніваецца польская кухня ад беларускай?*

— Тым жа, чым адрознівалася ў Рэчы Паспалітай Вялікае Княства Літоўскае ад Кароны: шляхетным сціплым гонарам і адсутнасцю апантанага імкнення даказаць сваю еўрапейскасць. А самае галоўнае, на мой погляд, адрозненне — польскі хлеб не мае смаку, ён нібы штучны, але гэта не датычыць ўсяго астатняга польскага печыва, якое вельмі смачнае. Другое адрозненне — непавага да сала, тут ужо беларусам бліжэй украінцы. Трэцяе адрозненне — вэнджанне, у беларускай кухні дамінуе вэнджанне халодным дымам, у польскай — гарачым. Пералічваць можна доўга…

*— І наогул, якое месца, на тваю думку, беларуская кухня займае ў свеце па сваёй смакаце, арыгінальнасці?*

— Беларуская кухня, у якой шматлікасць складнікаў стравы спалучаецца з разнастайнасцю прыгатавання — халоднага і цеплавога, а часам патрабуе некалькіразовай змены тэмпературнай апрацоўкі, выклікае не толькі захапленне працэсам прыгатавання, а і натхненне да новых пошукаў. Бо, як сказаў адзін з заснавальнікаў навуковай кулінарнай тэорыі Ж. А. Брыя-Саварэн, «Адкрыццё новай стравы значыць для шчасця чалавецтва куды больш, чым адкрыццё новай зоркі».

Але пакуль брэндамі беларускай кухні будуць «дранік» і «Бульбашъ», асаблівай цікавасці яна выклікаць не будзе.

*— Якія ты сам любіш стравы?*

— Смачныя і разнастайныя, каб не прыядаліся, акрамя хлеба. Хлеб самы любімы і ніколі не прыесца.

*— Ці сумна табе жыць у маленькай правінцыйнай Зэльве?*

— Зэльва — люстэрка сучаснай беларускай рэчаіснасці. Калі шчыра і аб’ектыўна, то сучасная Беларусь — задворкі Еўропы. Мінск выглядае не сталіцай Дзяржавы, а *центральной усадьбой колхоза* (узбуйненага). Зэльва знаходзіцца ў такім самым стане, што і Слонім, што і Гародня, што і іншыя вёскі, мястэчкі і гарады Беларусі з іх багатымі гісторыямі і традыцыямі, якія паглынае цемрашальства. А паняцце правінцыйнасці для мяне з’яўляецца атрыбутам савецкай імперскасці: Масква — сталіца, а потым ужо ўвесь астатні СССР (у цяперашняй Расеі так і засталося). Хіба ж Нью-Ёрк, Кракаў, Марсэль, Дрэздэн, Брно, Жэнева, Венецыя — правінцыйныя гарады, хоць і не сталіцы? Правінцыйнасць — гэта ўнутраны духоўны стан, тым

больш хваравіты. Жыхары вёсак, «вырваўшыся» ў Мінск і там асеўшы, хранічна хварэюць на «сталічную фанабэрыю», якая не ўласціва нешматлікім карэнным жыхарам Мінска. Толькі праз некалькі пакаленняў нашчадкі «правінцыйных» прыбышоў пазбаваяцца гэтага комплексу. Я ж карыстаюся іншым паняццем — еўрапейскасць.

Але вернемся да «маленькай правінцыйнай Зэльвы», у якой я нарадзіўся. На беразе мора (хоць і штучнага) я адчуваю сябе амаль шчаслівым, бо супакойваюся, згадваючы добрыя словы дрэннага чалавека, якія адпавядаюць майму стаўленню як да Зэльвы, так і да Беларусі: «Добрая яна ці дрэнная яна, але гэта мая Бацькаўшчына». А табе, Сяргей, сумна жыць у маленькім правінцыйным Слоніме? Пагадзіся: сумуе той, хто нічога не робіць.

*— Ведаю, што шмат гадоў цябе цікавіць і краязнаўства. Дарэчы, пра гісторыю Зэльвы так і не напісана добрай кніжкі. Можа б, ты лепш заняўся зэльвенскім краязнаўствам, чым беларускай кухняй?*

— Я мог бы сказаць, што кухня — гэта таксама частка не толькі краязнаўства, але і нацыянальнай культуры. Гэта было б няшчыра, шчыра — калі такая кніга будзе запатрабавана хаця б некалькімі дзясяткамі чалавек. Калі адчую сябе па-сапраўднаму шчаслівым у Зэльве, то адразу і напішу кнігу пра гісторыю Зэльвы. Ёсць і шмат цікавых матэрыялаў, але няма толькі натхнення менавіта на гэту працу.

*— Чым і кім сёння можа ганарыцца і пахваліцца Зэльвеншчына, акрамя Ларысай Геніюш і былога прэ-*

*зідэнта БНР Васіля Захаркі, а таксама Сынковіцкай царквы?*

— Показкамі (анекдотамі). Зэльвенцы, ды як і ўсе беларусы, трапна жартуюць, гледзячы на існуючы маразм.

Хачу расказаць адну показку, якая тычыцца значнай часткі нашай размовы — кухні, дакладней, «рэцэпта», якога не знойдзеш ні ў адной кулінарнай кніжцы. Показка называецца «Брызгаўка».

Прыезджых музыкантаў, ці, як іх называюць, «лабухаў» заўжды на працягу вяселля месцяць у каго прыйдзецца, каб пераначаваць. На гэты раз музыкантаў адвялі начаваць да бабулі-векавухі ў самым канцы вёскі. Дарога падалася яшчэ больш далёкай, бо «музыканцікі», паўдня іграючы і гледзячы, як госцікі частуюцца і гарэлачкаю, і вясельнаю смакатою, пасля таго, як усе разышліся і сват з бацькам «маладой» запрасілі іх за сталы, пачалі ўмінаць, як кажуць, «у тры горлы», але і на гарэлку добра налягалі. Так што ледзь давалакліся да начлегу…

Раніцай прачнуліся, бо душыла смага, а з рэпертуару ў галовах, якія невыносна балелі, у памяці засталася адна «кампазіцыя»:

Калодзец, калодзец,
Дай вады напіцца.

Але дэпрэсіўны стан хутка скончыўся, бо з кухні спачатку пачулі пах смажанай яечні і амаль адразу бабулін голас: «Хлопчыкі! Ідзіце снедаць, калі ласка». Першае, што яны ўбачылі на стале — бутэльку самагонкі. Кожны з музыкантаў ужо ўяўляў, як цудоўная

вадкасць разліваецца ўнутры міліметр за міліметрам, заліваючы «пасляўчарашні» цяжар, як святлее галава ў думках і аптымізме: «Вось сёння мы грымнем дык грымнем!»

На стале стаялі патэльня з яечняй, салёныя агуркі, талерка з крышку жаўтаватым салам і збанок кіслага малака. Бабуля са шчыраю, але амаль бяззубаю ўсмешкаю падносіла бульбу, ад якой ішла духмяная пара. Хлопцы разлілі па шклянках самагонку, чокнуліся і пачалі піць. У гэты час бабуля, нібы апрытомнеўшы, спытала: «Хлопчыкі, можа, брызгаўку будзеце?» Не адрываючыся ад шклянак, хлопцы амаль разам згодна кіўнулі галовамі. Бабка хуценька ўзяла збанок і набрала поўны рот кіслага малака, а потым раптоўна ротам, нібы пульверызатарам, пачала паліваць бульбу.

Хлопцы здранцвелі. Самагонка прасілася назад…

*— Усю смакату ты сапсаваў сваёй брызгаўкай… Юра, ведаю, што не апошняе месца ў тваім жыцці займае і мастацтва. Ты нядрэнна малюеш. Гэта проста тваё захапленне?*

— Я вельмі люблю маляваць; да ўсяго, каго ці што люблю, стаўлюся вельмі аддана і сур’ёзна, адно шкада — на дробязі марнуецца шмат часу, і на гэта я не магу ўплываць…

*— Якія планы ў Юрыя Качука на наступныя гады?*

— Калі дасць Бог, жыць працуючы.

***2012***

## БЕЛАРУСКІЯ СТРАВЫ АД ЮРЫЯ КАЧУКА

**Салата «Нёманская»**

Складнікі: 500 г качкі, 2 морквы, 2 салёныя агуркі, 1 бульбіна, 1 цыбуліна, 1 ст. лыжка таматнай пасты, 1 ч. лыжка хрэну, 1 зубок часнаку, 150 г маянэзу.

Мякаць варанай качкі (без скуры), вараныя бульбу і моркву, салёныя агуркі нарэзаць тонкімі скрыльцамі, цыбулю нашаткаваць. Падрыхтаваную ёміну заправіць маянэзам, змяшаным з таматнай пастай, хрэнам і націснутым часнаком.

**Шынка ў сінюзе**

Складнікі: 2 кг свініны (кумпяка ці лапаткі са скурай і салам), сінюга (тоўстая ялавічная кішка), 50 г солі, 2 г салетры, 5 г цукру, перац да смаку, можна дадаць і часнок.

Кавалкі свініны ўкачаць у соль, салетру і перац, пакінуць на суткі. Потым свініну напіхаць у сінюгу (тоўстую ялавічную кішку), канцы завязаць шпагатам, укруціць у марлю і павесіць сушыцца.

**Суп з мяснымі галкамі**

Складнікі: 2 л мяснога адвару, 200 г мяса, 1 яйка, 1 цыбуліна, 20 г сметанковага масла, часнок, соль, перац, зяляніна пятрушкі і кропу.

Зварыць мясны прыварак; мяса выняць, адвар працадзіць. Сырое мяса прапусціць праз мясасечку разам з цыбуляй, дадаць масла, яйка, солі і 3 лыжкі прыварку, перамяшаць. Рукамі, змочанымі ў вадзе, зрабіць галкі ў форме шарыкаў дыяметрам 2 см, адварыць у невялікай колькасці падсоленай вады і пакласці ў талеркі з мясным адварам, дадаць ціснутага часнаку, пасыпаць сечанай зялянінай пятрушкі і кропу. Галкі можна адварыць

у кіпячым мясным адвары, але тады ён атрымаецца не такім празрыстым.

**Фасолевы суп па-зэльвенску**

Складнікі: 500 г свініны, 3 шклянкі буйной белай фасолі, 3 морквы, 2 цыбуліны, 2 бульбіны, 30 г кораня салеры, 30 г кораня пятрушкі, 3 зубкі часнаку, 2 ст. лыжкі таматнай пасты, 2 ст. лыжкі мукі, перац, лаўровы ліст, соль, зяляніна пятрушкі і кропу.

Фасолю загадзя замачыць, прамыць і зварыць да паловы гатоўнасці. Бульбу ababраць, памыць, нарэзаць кубікамі, адварыць у невялікай колькасці вады. Зварыць мясны прыварак разам з 2 морквамі, 1 цыбулінай, карэннямі салеры і пятрушкі, якія пасля гатоўнасці працерці і зноў закласці ў прыварак разам з фасоляй, працягваць варыць.

Пакінутыя цыбулю і моркву нашаткаваць і падсмажыць на тлушчы, атрыманым з прыварку. Калі цыбуля толькі пачне падрумяньвацца, дадаць дробна насечаны зубок часнаку, муку і перамяшаць. Амаль адразу дадаць таматную пасту. Смажыць, перамешваючы, каля адной хвіліны, потым закласці ў суп разам з пацёртымі з соллю 2 зубкамі часнаку, перцам, лаўровым лістом і паварыць да мяккасці фасолю. Гатовую страву пасыпаць зялянінай пятрушкі і кропу.

**Дзярэчынская падкалодка**

Складнікі: 2 шклянкі фасолі, 3 морквы, 4 бульбіны, 1 л малака, соль.

Падрыхтаваную фасолю зварыць амаль да гатоўнасці. Моркву і бульбу ачысціць, памыць, нарэзаць дробнымі кубікамі, дадаць да фасолі і варыць да мяккасці. Малако закіпяціць і ўліць да фасолі, морквы і бульбы. Паварыць хвілін пяць. Можна патаўчы.

**Бэбах**

Складнікі: 2 свіныя страўнікі, 0,5 кг свойскай каўбасы, 300 г любівай свініны, 300 г морквы, 300 г цыбулі, 200 г памідораў, 3 зубкі часнаку, прыправы, соль.

Для палівання: 30 г сушаных ці 200 г свежых грыбоў, 200 г смятаны, 100 г таматавай пасты, 2 ст. лыжкі сметанковага масла, 3 ст. лыжкі мукі, прыправы, соль.

У падрыхтаваны свіны страўнік закласці сырую свойскую каўбасу, кавалачкі любівага свінога мяса, нацёртую моркву, нашаткаваную цыбулю, здробленыя памідоры без скуры, кавалачкі яшчэ аднаго дробна нарэзанага зваранага страўніка, сціснуты часнок, прыправы (толькі не лаўровы ліст!), соль. Страўнік зашыць. Адварыць хвілін 10 у салёнай вадзе. Ваду зліць, зноў заліць салёнай вадой і варыць 5 гадзін. Ваду зліць. На блясе ў печы запякаць бэбах 20–30 хвілін, час ад часу паліваючы тоўчанымі памідорамі з часнаком.

Паліванне: муку падсмажыць да колеру забеленай кавы. Грыбы адварыць у невялікай колькасці вады, дробна нарэзаць і падсмажыць на сметанковым масле, дадаць муку, добра перамяшаць, уліць грыбны адвар, смятану і таматавую пасту, пасаліць і дадаць прыпраў. Тушыць 5 хвілін. Паліваць нарэзаныя кавалкі бэбаху.

**Свіныя рабрыны па-засцянкоўску**

Складнікі: 500 г свіных рабрын, 200 г рысу, 5 сушаных грыбоў, 1 морква, 1 цыбуліна, соль, перац, 1 ст. лыжка маянэзу, 1 ст. лыжка таматнай пасты, 1 ст. лыжка гарчыцы.

Рыс прамыць у пяці водах і пражыць на патэльні (без алею) да залацістага колеру. Моркву ачысціць і нацерці на тарцы. Цыбулю ачысціць і нашаткаваць. Грыбы зварыць, нарэзаць саломкай і падсмажыць на алеі

разам з дробна нарэзанымі морквай і цыбуляй. Свіныя рабрынкі смажыць да атрымання румянай скарыначкі, заліць кіпенем і тушыць 10 хвілін. Потым дадаць рыс, грыбы, моркву і цыбулю, размяшаць і даліць вару, пасаліць, паперчыць. Прыкрыць накрыўкай і давесці да гатоўнасці. Паліць запраўай з маянэзу.

## МАЙСТАР ЧОРНАДЫМЛЕНАЙ КЕРАМІКІ

Сяргея Худзяева ў вёсцы Галынка Зэльвенскага раёна лічаць сапраўдным народным ўмельцам, як кажуць, чалавекам ад Бога. Ён адзіны на Гродзеншчыне майстар па чорнадымленай кераміцы. За сваё майстэрства і аднаўленне старажытнага рамяства майстар з Галынкі шмат разоў узнагароджваўся дыпломамі і медалямі на розных выставах і фестывалях Беларусі.

Сяргей Худзяеў працуе настаўнікам працоўнага навучання і чарчэння ў вясковых школах суседняга Слонімскага раёна. Таму застаць дома майстра можна толькі ў выхадныя дні. Але і ў выхадныя дні ён не сядзіць без справы, а працуе з глінай.

— *Спадар Сяргей, хто навучыў вас майстэрству чорнадымленай керамікі?*

— Ніхто. Сам навучыўся, бо вельмі хацелася навучыцца таму майстэрству, чым у нас мала хто займаецца. І спыніўся я менавіта на чорнадымленай кераміцы, якою некалі вельмі актыўна займаліся народныя майстры з Ружанаў, Пружанаў. Гэта чорнадымленая кераміка ў свой час мела вялікі поспех у Польшчы. І я самастойна пачаў вывучаць усе друкаваныя матэрыялы, запісваць старых людзей, якія займаліся керамікай,

збіраў іншыя звесткі, звязаныя з керамікай. І прыйшоў да высновы, што вырабляць керамічны посуд — гэта не так і складана, галоўнае ўмець рабіць абпал глінянага посуду. Я зрабіў спецыяльную печ для абпальвання. Потым пабудаваў яшчэ адну печ. Не ўсё атрымлівалася спачатку, было шмат браку. Але цяпер навучыўся гліняныя вырабы абпальваць цудоўна, амаль без браку. Перажыўшы апальванне ў агні, посуд накіроўваецца альбо ў спецыяльны адвар, і атрымліваецца прыгожы ўзор, альбо ў дым, калі печ пасля апальвання замазваецца глінай, каб паветра не праходзіла, і амаль суткі вырабы «даходзяць» — у выніку чаго і атрымліваецца чорнадымленая кераміка.

*— Для гэтага патрэбна і добрая гліна…*

— Так. Гліна павінна быць даволі тлустай, як масла. Там, дзе былі старыя цагляныя заводы, гліняныя кар’еры — там добрая гліна, там я яе і бяру. Бывае, што гліну прыходзіцца купляць у іншых рэгіёнах Беларусі.

*— З гліны вы вырабляеце толькі посуд?*

— Не толькі. Паводле свайго прызначэння кераміка падзяляецца на посуд, на рэчы мастацтва або культу, на будаўнічыя вырабы і г. д. Я займаюся посудам, а ў апошні час спрабую вырабляць і гліняныя цацкі. Дарэчы, гліняныя фігуркі ляпілі яшчэ ў першабытныя часы. Вучоныя-археолагі адкопваюць у старадаўніх курганах фігуркі коней, сабак і іншых свойскіх жывёлін, а таксама бразготкі ў выглядзе пустога шарыка з каменьчыкам усярэдзіне. Страсянеш — бразгаціць. На думку вучоных, свістулькі і бразготкі ўжываліся нашымі далёкімі продкамі не толькі як забаўкі: лічылася, што яны ахоўвалі ад «нячыстай сілы». Свіст нібыта адганяў

злых духаў, аберагаў ад іх дзяцей. Таму я вырабляю і керамічныя свістулькі.

*— А ці купляюць сёння людзі керамічныя вырабы?*

— Купляюць, і даволі ахвотна. Купляюць найперш як упрыгожванне на летнікі, у пакоі, дзе стаяць каміны.

*— Спадар Сяргей, раскажыце трохі пра сябе.*

— Нарадзіўся я на Зэльвеншчыне ў вёсцы Пруд. Скончыў Брэсцкі політэхнічны інстытут. Працаваў прарабам, інжынерам, настаўнікам, дырэктарам Зэльвенскага раённага Дома рамёстваў у вёсцы Галынка, дзе цяпер жыву. Зараз працую простым настаўнікам на Слонімшчыне, езджу туды на машыне. Акрамя ўрокаў, вяду ў школах, дзе я працую, ганчарныя гурткі, а таксама гурткі выпілоўвання і выпальвання.

*— Ці з ахвотай наведваюць вашы гурткі дзеці?*

— Яшчэ ніводны бацька ці маці не сказалі, што вучу дзяцей абы чаму. Ходзяць у гурткі дзеткі з самых розных сем'яў: і з паспяховых, і з праблемных. Хочацца, каб нашы дзеткі адчувалі прыгожае, вучыліся на добрых прыкладах і самі рабілі дабро. Край наш на таленты вельмі багаты, шмат творчых людзей выйшла з Зэльвеншчыны, Слонімшчыны, Дзятлаўшчыны. Дык мо калі і нашы гурткоўцы пра сябе скажуць — тым больш, што сярод іх нямала творчых, здольных асоб. І калі з іх хоць адзін юнак ці дзяўчына захопіцца керамікай у жыцці, то я буду вельмі рады і задаволены.

*— Спадар Сяргей, магчыма, і ў Вас былі продкі здольныя да мастацтва, да керамікі, да вырабаў з дрэва?*

— Вельмі здольным быў мой дзед па маці Іскра Пётр Ульянавіч. Я памятаю добра яго. Ён быў мясцовым бу-

даўнiком. Садзiкаў раней у вёсцы не было, таму я часам з дзедам хадзiў у сталярку i глядзеў, што ён робiць. Дзед быў майстар на ўсе рукi. Ён рабiў вазы, розныя з дрэваў цацкi дзецям, вучыў i мяне сталяраваць. А бацька мой пiсаў вершы, добра спяваў i iграў.

*— Ведаю, што i вы, акрамя керамiкi, добра iграеце на гiтары, часам выступаеце як бард. Дый чытаў Вашы вершы ў мясцовым друку, у калектыўных зборнiках, у газетах i часопiсах. Памятаю нават асобныя строфы, якiя напiсаныя проста са смакам:*

*...У хаце цёпла, дрэмле котка,*
*I водар яблыкаў сухiх.*
*Ад смальнячкоў жывiцай цягне,*
*Сасновым борам, чабарком.*
*На вожаку каўбаска вяне*
*З каляндрай, з кмiнам, з часначком!*
*А на стале ў дзяжы пад коўдрай*
*Пiрог падходзiць дражджавы.*
*Цялятку мацi варыць пойла,*
*Насенняў сыпле iльняных...*
*У печы з салам млее бабка,*
*Капуста з бульбай ў чыгуне,*
*Шкварчыць з цыбулькаю аладка,*
*А пах такi, аж слюнькi прэ...*

*Цудоўныя радкi. Магчыма, вершаў у Вас назбiралася ўжо на добрую кнiжку i пара выдаць iх асобным выданнем?*

— У мяне iншая задумка ёсць. Я хачу напiсаць i выдаць кнiжку пра глiну, пра керамiку. Гэта будзе не навуковая i даследчая кнiга. Даследчыкаў керамiкi ў Беларусi шмат. Найбольш вядомы i вопытны даследчык керамiкi — наш сябра Яўген Сахута. А гэта будзе кнiга

пра тое, як я асабіста працую з глінай, займаюся керамікай. У гэтую кнігу плануюй ўключыць і свае вершы. І гэта павінна атрымацца такая керамічная-паэтычная кніга. У ёй я кераміку не пакрыўджу і для паэзіі месца знойдзецца.

*2012*

## САЛАМЯНЫЯ КВЕТКІ ЦВІТУЦЬ У ГАЛЫНЦЫ

Дом Ліліі Амяльянчык у вёсцы Галынцы Зэльвенскага раёна відаць здалёк. Прыгожы, вялікі, размаляваны разнастайнымі малюнкамі, ён заўсёды вабіць вяскоўцаў і гасцей.

Гаспадыня дома мяне сустрэла ў цэнтры вёскі і шчыра запрасіла да сябе ў госці. Мы ціха крочылі па вясковай Лугавой вуліцы, а Лілія распавядала пра сваё жыццё і захапленне. «Спачатку Дом рамёстваў у нас быў у Галынцы, а цяпер яго перанеслі ў суседнюю вёску Дзярэчын. Вось туды я дабіраюся кожны дзень. Працую там ужо 6 гадоў. Вяду гурток саломкапляцення. Гурток наведваюць школьнікі. А ў сваёй вёсцы пры бібліятэцы кірую яшчэ адным гуртком. Мы займаемся бісерам. Яго наведваюць і дарослыя вяскоўцы, і дзеці. А да гэтага працавала і на ферме, і медсястрой, і на іншых работах, а вось па спецыяльнасці працу так і не знайшла, хаця ў свой час скончыла Кобрынскае вучылішча выяўленчага мастацтва і народных мастацкіх промыслаў. Цяпер працую па спецыяльнасці і ад гэтага атрымліваю вялікае задавальненне», — прызналася Лілія Амяльянчык.

Сапраўды, ідучы па вясковай вуліцы, я здалёк пазнаў дом народнай майстрыцы. Сцены будынка былі размаляваны беларускімі бярозамі, яркімі птушкамі, а веранда — нібы акварыум: унутры яна квітнела залатымі рыбкамі. Зайшлі ў хату. У пакоях чысціня і парадак. Усё зроблена з густам, прыгожа, вакол — пакаёвая чысціня. У вітальні вісіць вялікі саламяны «павук», зроблены гаспадыняй. «Гэтага “павука” я перад Калядамі мяняю штогод. Бо ён забірае злых духаў, а іх збіраецца шмат за год, таму “павука” трэба мяняць. Што я і раблю», — расказвае Лілія Амяльянчык.

У адным з пакояў убачыў вельмі шмат саламяных кветак, зробленых рукамі вясковай жанчыны. Вачэй ад іх немагчыма было адвесці. Лілія ўзяла адзін кошык з кветкамі і пачала распавядаць пра саломкапляценне. «Больш на Зэльвеншчыне ніхто не займаецца сур’ёзна гэтым майстэрствам. Адна я. Хаця саломкапляценне як від мастацтва і рамяства атрымала ў нашай краіне ў апошнія два-тры дзесяцігоддзі шырокае развіццё. Ім займаюцца ў гуртках, дамах рамёстваў, школах. У мінулым традыцыйныя прыёмы рамяства перадаваліся з вуснаў у вусны, з рук у рукі ў межах сям’і, ад старэйшага пакалення — малодшаму. Гэтыя практычныя веды былі патрэбны для стварэння неабходных побытавых прадметаў: сявенек, каробак для захавання збожжа, капелюшоў і г. д. Значная частка вырабаў з саломкі была звязана з абрадамі. Так з’яўляліся пластычныя выявы людзей з саломкі: лялькі, падвесныя ўпрыгожванні хаты — “павукі”, жніўныя вянкі і іншыя атрыбуты жніва. Прыёмы пляцення з саломкі — спіральныя, плоскія і аб’ёмныя вітыя пляцёнкі, ромб на крыжавіне. Асноўныя віды саламяных вырабаў вядомы па ўсім

арэале рассялення земляробчых народаў. Разам з тым у беларусаў склаліся самабытныя мясцовыя традыцыі ў гэтым відзе мастацтва. Так, напрыклад, нідзе ў свеце не стваралі з саломкі манументальныя творы для царкоўных інтэр'ераў — царскія брамы, якія выраблялі сялянскія майстры, напрыклад, у пачатку XIX стагоддзя на Заходнім Палессі», — захапілася расповедам пра саломку Лілія Амяльянчык.

У кожным пакоі дома Лiлii Амяльянчык ёсць ейныя вырабы з саломкі. Гэта і анёлкі, і званочкі, і дрэўцы, але найбольш кветак з саломкі. «Калі я працую з саломкай — я адпачываю. І дзяцей вучу, як рабіць з саломкі кожны лісцік, кожную дэтальку. Ведаеце, і дзецям, і дарослым гэта падабаецца. Свае працы мы выстаўляем на ўсіх раённых конкурсах і святах, а таксама на абласных, на рэспубліканскіх "Дажынках" — усюды, куды нас запрашаюць», — расказала галынкаўская майстрыца.

Колькі ўсяго перапляла Лілія Амяльянчык, колькі саломы выдаткавала на гэтую прыгажосць, падлічыць немагчыма. Жытнёвая салома, зжатая калі жыта каласіцца, мае ў такой справе асаблівую каштоўнасць. Сабраныя снапы жанчына перабірае, раскладвае саломінкі па таўшчыні і каляровым адценні — для кожнага вырабу патрабуецца свой матэрыял.

Лічыцца, што галоўнае ў такой рабоце — уседлівасць і цярпенне. Але калі да іх дабаўляюцца яшчэ фантазія і акуратнасць, то звычайная саломка, здаецца, пачынае ў руках іграць мелодыю. Паўтораў не бывае. Кожная рэч як сапраўдны твор мастацтва.

З нейкай цеплынёй і радасцю я пакідаў прыгожы дом у вёсцы Галынка, дзе з сям'ёй жыве лепшы майстар па саломкапляценні Зэльвеншчыны Лілія Амяльянчык.

Пакідаў з надзеяй, што сюды яшчэ вярнуся. А ў дарозе мне свяцілі і званілі саламяныя званочкі, падараваныя на памяць.

*2012*

## УСЕ НАСЯКОМЫЯ ЗЛЯТАЮЦЦА Ў «СТАРУЮ ВЕСЬ»

Зэльвенская вёска Варонічы знаходзіцца кіламетраў за восем ад райцэнтра. Вакол вёскі лес, няма калгасных палёў, якія апрацоўваюць хімікатамі, цішыня і спакой. Вось у гэтай вёсцы жыхары Зэльвы Сяргей і Лілія Мікановічы купілі хату і ў верасні 2006 года адкрылі тут свой прыватны музей насякомых і пчалярства «Старая весь».

У музеі пабываў і аўтар гэтай кнігі. Лілія і Сяргей Мікановічы паказалі сваю цікавую сядзібу-музей. «Экскурсія, — як сказаў Сяргей Іванавіч, — у нас працягваецца паўтары гадзіны. Спачатку я гасцей знаёмлю з пасекай, а пасля з музейнымі экспазіцыямі, якія знаходзяцца ў двух пакоях».

Мы пайшлі на пасеку, якая складалася з 15 вуллёў і калоды. Сяргей Мікановіч павёў мяне адразу да калоды і пачаў распавядаць пра гісторыю пчалярства: «Пчалярства вядома са старажытнасці. Першабытны чалавек здабываў мёд з дуплаў дрэў і з расколін у скалах, дзе жылі пчолы. Дзікая сістэма пчалярства змянілася бортніцтвам — людзі сталі рабіць пчолам жыллё, а потым разводзілі іх у калодах і ў дуплянках. Рамачнае пчалярства ўзнікла ў пачатку XIX стагоддзя, калі рускі пчаляр Пракаповіч сканструяваў разборны

рамачны вулей, потым нямецкі пчаляр Мерынг прапанаваў спосаб вырабу штучнай вашчыны, а чэх Грушка зрабіў медагонку…» Сяргей Мікановіч на сваёй пасецы пазнаёміў з будовай вуллёў, расказаў пра розніцу паміж рознымі канструкцыямі вуллёў, як пчолы збіраюць пылок, як трэба даглядаць пчолы і пра шмат што іншае, звязанае з пчоламі і мёдам.

Потым мы пайшлі ў хату-музей. У адным з пакояў паказаны інвентар пчаляра, розныя тыпы рамак, сотаў, ёсць прадукты пчалярства і прамысловыя вырабы, дзе выкарыстоўваецца пчалярская прадукцыя: кандытарскія вырабы, цукеркі, напіткі, лякарствы, зубныя пасты і г. д.

У другім пакоі наведвальнікі могуць пазнаёміцца з вялікай калекцыяй матылькоў і іншых насякомых, злоўленых у Беларусі. Але не толькі сапраўдныя насякомыя ў гэтым пакоі: навокал малюнкі і фотаздымкі. Матылькі, жукі, пчолы, камары адлюстраваныя на посудзе, бутэльках, альбомах, сурвэтках, гадзінніках, ручніках, вазах і іншых прадметах.

Музей сапраўды ўнікальны. І месца для адпачынку цудоўнае. Пра гэта і пра ўсё іншае пагутарыў з Сяргеем Мікановічам, седзячы за столікам пад спецыяльнаю хатняю альтанкаю на яго сядзібе-музеі.

— *Сяргей Іванавіч, як узнікла ідэя стварэння музея насякомых «Старая весь»?*

— Я па адукацыі эколаг. У 1981 годзе разам з жонкай закончылі біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жонка працуе настаўніцай біялогіі ў Зэльве, а я 20 гадоў адпрацаваў начальнікам Зэльвенскай раённай інспекцыі па экалогіі. Цяпер працую ў фермерскай гаспадарцы

«Верас» на Зэльвеншчыне. Працуючы ў фермерскай гаспадарцы, даведаўся аб выдаткаванні грошай фондам развіцця рэгіёна Белавежская пушча Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь на цікавыя праекты, звязаныя з аграэкатурызмам. І мы з сям'ёй таксама вырашылі паспрабаваць свае сілы ў гэтым праекце. Атрымалі невялікі гранд і за яго змаглі добраўпарадкаваць каля хаты тэрыторыю, зрабіць рамонт…

*— А дзе Вы ўзялі такую вялікую калекцыю матылькоў, жукоў і іншых насякомых?*

— 35 гадоў я збіраю насякомых. З дзяцінства іх калекцыяніюю. Уся калекцыя знаходзілася дома. Цяпер яна лягла ў аснову музея. А гэта каля 700 відаў матылькоў і іншых кузурак.

*— А ці ёсць у Вас самы любімы матылёк?*

— Бражнік «мёртвая галава». Я яго выгадаваў з кукалкі, якую дачка знайшла на бульбяным полі. Гэта даволі рэдкі від, у Беларусі бражнік «мёртвая галава» занесены ў Чырвоную кнігу. Дарэчы, ад экзатычных матылькоў, якія жывуць у тропіках, нашы беларускія адрозніваюцца толькі меншымі памерамі.

*— А колькі відаў матылькоў сёння існуе ў Беларусі?*

— Каля 120 відаў дзённых матылькоў.

*— Іх становіцца ў нас з кожным годам больш ці менш?*

— Больш становіцца. І гэта звязана з меншай колькасцю хімікатаў, якія ўносяцца на палі. Дарэчы, павялічылася на Беларусі і колькасць птушак.

*— А якая краіна з'яўляецца краінай матылькоў?*

— Лічыцца, што Мадагаскар.

*— А як да стварэння музея аднесліся жыхары вёскі Варонічы?*

— Вёска Варонічы зусім маленькая — тут пражывае ўсяго 19 чалавек. Але спачатку вяскоўцы да нас аднесліся неяк асцярожна. Маўляў, прыехалі тут, сталі наводзіць парадкі, садзіць каля хаты кветкі. А пасля мы з вяскоўцамі пазнаёміліся бліжэй, і цяпер праблем не існуе. То яны да нас прыходзяць з пытаннямі і просьбамі, то мы да іх. А адзін раз прыехалі турысты да нас на цягніку. Выйшлі на станцыі і пытаюцца ў лесніка: а дзе тут музей? А ляснік кажа: «Ідзіце проста па вуліцы і ўбачыце зялёны дом, а вакол дома вельмі прыгожа. Вось гэта і ёсць музей».

*— А чаму Вы назвалі свой музей-сядзібу «Старая весь»?*

— Калі па чыгунцы на дызелі ехаць са Слоніма ў Зэльву, то ў канцы вёскі Варонічы ёсць станцыя Старая весь. Нам падабаецца гэтая назва. Вось мы і вырашылі так назваць і свой музей насякомых — «Старая весь». Цяпер сюды злятаюцца ўсе матылькі і жукі. Таму да нас прыехаць можна вельмі проста: альбо на дызелі да станцыі Старая весь, альбо аўтобусам з Зэльвы, а гэта ўсяго 8 км, ці са Слоніма — перад Зэльваю ёсць паварот на Дзярэчын, трохі праехаць і — направа на Варонічы.

*2011*

# ЯК ПЕРАЙМЯНОЎВАЛІ ПЛЕЦЯНІЧЫ НА ЧЫРВОНАЕ СЯЛО

У свой час Мікалай Пятровіч Малочка быў загадчыкам аддзела Зэльвенскага райкама КПБ, першым сакратаром Ваўкавыскага і Казлоўшчынскага райкамаў КПБ, сакратаром Гродзенскага абкама КПБ і старшынёй Гродзенскага аблвыканкама. 12 гадоў ён з'яўляўся міністрам гандлю БССР, пачынаючы з 1972 года і аж да 1984 года.

У апошнія гады зэльвенцы неяк радзей і радзей прыгадваюць свайго земляка Мікалая Малочку. Таму гэты прабел вырашыла запоўніць пляменніца былога міністра Святлана Іванаўна Малочка, з якой я неяк пра былога міністра і згадаў.

— *Святлана Іванаўна, вы часта прыгадваеце вашага роднага дзядзьку, былога міністра гандлю БССР Мікалая Пятровіча Малочку?*

— Часта. Мікалай Малочка быў не толькі міністрам БССР, але яшчэ і ветэранам Другой сусветнай вайны. Пры жыцці штогод на 9 траўня збіраліся ў Плецянічах усе Малочкі, каб адзначыць гэта вялікае свята. У кожнага на грудзях ззялі ордэны і медалі. Яны садзіліся за вялікі стол і ўспаміналі ваенныя гады, а таксама любілі слухаць музыку з кінафільма «Быў месяц май». Калі гучала гэта музыка, з вачэй ветэранаў капалі слёзы. Гэта было ў Плецянічах сапраўднае свята, як для нашай сям'і, так і для ўсіх вяскоўцаў.

— *А вы асабіста сустракаліся з Мікалаем Пятровічам Малочкам?*

— Я была яшчэ школьніцай. І гэтаму надавала мала ўвагі. Але памятаецца да сённяшніх дзён адзін

эпізод. Аднойчы з Мінску ў Гродна на нейкую сур'ёзную нараду ехала ўсё кіраўніцтва БССР. Сярод іх быў мой дзядзька, а таксама Пётр Міронавіч Машэраў. Па дарозе дзядзька ўсім прапанаваў заехаць у Плецянічы. Машэраў з міністрамі пагадзіўся. Вяскоўцы ў гэты час пры дарозе церабілі лён. Картэж машын спыніўся каля жанчын. З машын выйшлі міністры, а таксама Машэраў. Ён спытаў: «Як справы? Ці ёсць у вас праблемы?» Адна жанчына кажа, што ўсё добра, але вось на корм карове сена мала даюць. А мой дзядзька, як не дзіўна, усіх памятаў як завуць, кажа: «Ліда, мы праехалі па вёсцы і каля твайго хлява стаіць вялікі прычэп сена». А Ліда адказвае: «То ж дзялку нядаўна далі». А дзядзька адказвае: «А некалі нам нічога не давалі, мы касілі дзе толькі маглі: у рыштоках, на дарогах, абочыне. Касі і цяпер, хто ж табе забараняе…»

*— Тым не менш, ці дапамагаў дзядзька землякам?*

— Землякам дзядзька заўсёды дапамагаў чым мог. Дзякуючы яму ў вёсцы быў пакладзены асфальт, тратуар, а таксама пабудавалі новую двухпавярховую школу і клуб. Дзеці раней хадзілі ў школу ажно ў Дзешкавічы, а потым яна з'явілася ў Плецянічах. Людзі былі задаволеныя. Памятаю яшчэ, дзядзька вельмі дапамагаў роднаму калгасу наконт угнаення для гаспадаркі, камбікормам і г. д. Да яго прыязджаў старшыня калгаса па дапамогу, і ён як мог дапамагаў. Тады ўсё гэта было дэфіцытам.

*— Ці памятаюць сёння ў Чырвоным Сяле Мікалаю Малочку?*

— Старэйшыя жыхары памятаюць, а моладзь не ведае. Людзі кажуць: Малочка школу будаваў, а яе

закрылі. Некалі ў Чырвоным Сяле быў цэнтр калгаса, а цяпер — не. Вяскоўцы разважаюць: вось быў бы жывы Малочка — быў бы ў нас аграгарадок.

*— У 1969 годзе, калі Ваш дзядзька працаваў старшынёй Гродзенскага аблвыканкама, сваю родную вёску Плецянічы ён рашэннем аблвыканкама перайменаваў у Чырвонае Сяло. Гэта была яго асабістая ініцыятыва ці кагосьці іншага?*

— Гэта была яго ўласная ініцыятыва.

*— А з чым гэта было звязана?*

— Менавіта з тым, што ў ваколіцах Плецянічаў у гады вайны было шмат партызанскіх атрадаў, якія па-сапраўднаму змагаліся з фашыстамі. І, як казаў Мікалай Пятровіч, усё наваколле было ад бітваў у чырвонай крыві. І ў знак памяці той страшнай вайны ён перайменаваў Плецянічы ў Чырвонае Сяло.

*— Але ж людзі такое перайменаванне сустрэлі вельмі насцярожана. Напрыклад, пісьменнік Аляксей Карпюк у сваёй кнізе «Развітанне з ілюзіямі» (Гродна; Вроцлаў, 2008. С. 148–149) згадвае: «Зямляк мой (маецца на ўвазе М. П. Малочка. —* ***С. Ч.****) вырашыў аднойчы ашчасліваць аднавяскоўцаў. Родам ён быў з беднай вёсачкі Плецянічы Зэльвенскага раёна. Мясцовасць, напэўна, названа ад беларускага дзеяслова — плесці. Назва паходзіла хутчэй ад рамяства жыхароў, якім у даўнія часы займаліся, — плялі, мабыць рыбалавецкія прычындалы і торбы. Але Малочка назву палічыў абразлівай. Звязана, маўляў, з праклятай народам «плетью» (а гэта чыста рускае слова, яно ў нас аніяк не магло пусціць такія карані, каб паслужыць для назвы вёскі!), якой шчодра карысталіся паны і памешчыкі. Дык няўжо і цяпер яе славіць?! Маючы дадзеную яму народам*

*уладу, Малочка рашэннем выканкама назву замяніў на Чырвонае Сяло. Але ўдзячнасці ад землякоў усё роўна не атрымаў. Калі неўзабаве прыехаў на радзіму для сустрэчы з выбаршчыкамі і з трыбуны хваліў савецкую ўладу, што яму, маўляў, з былога батрака і пастуха дала магчымасць вырасці да "чырвонага губернатара" (цытата з яго прамовы ў клубе!), несвядомыя аднавяскоўцы так і не змаглі ацаніць належным чынам яго грамадскі ўчынак і пракалолі высокапастаўленаму земляку ў "Волзе" ўсе чатыры колы». Ці праўда гэта?*

— Я не ведаю і не памятаю таго сходу ў вясковым клубе. Скажу толькі, што, сапраўды, вяскоўцы па-рознаму ўспрынялі перайменаванне Плецянічаў у Чырвонае Сяло. Да сённяшніх дзён многія вяскоўцы кажуць Плецянічы, а не Чырвонае Сяло.

*2011*

## У МАДЗЕЙКАХ ЖЫЎ БАРОН

Ёсць на Зэльвеншчыне вёска з прыгожаю назваю Мадзейкі. Мадзейкаўцы, як і ўсе беларусы, вясною, летам і восенню корпаюцца на градах і ў садах, каб на зіму папоўніць свае падвалы садавіной і гароднінай.

Вёска стаіць трохі воддаль ад аўтатрасы Зэльва–Ваўкавыск. Пры ўездзе ў вёску — школа і некалькі двухпавярховых будынкаў, дзе пераважна жывуць настаўнікі. У адным з гэтых дамоў жыве Іван Міхайлавіч Цімафейчык — настаўнік-пенсіянер. Менавіта па яго просьбе я сюды і завітаў.

Іван Цімафейчык — своеасаблівы і цікавы чалавек. Па-рознаму аб ім адгукаюцца вяскоўцы: адны яго назы-

ваюць дзіваком, другія пагаджаюцца, што ён адстойвае свае правы, а трэція яго проста не любяць. Але Іван Міхайлавіч не гарыць жаданнем, каб яго любілі. Ён жыве сваім жыццём, сваімі праблемамі і па-свойму іх вырашае.

Іван Цімафейчык паклікаў мяне ў сваю кватэру і паказаў, як ён жыве. У яго кватэры — паравое ацяпленне, а на кухні стаіць «буржуйка». А вось у астатніх жыхароў гэтага дома батарэй даўно няма, дом іх ацяпляюць толькі печкі. У аднаго спадара Цімафейчыка не адключылі ацяпленне, ды ён і не хоча яго пазбаўляцца. Таму што здароўя няма, каб займацца нарыхтоўкаю дроў, ды і печку трэба ў невялікай кватэры прыбудоўваць. Няхай будзе так, як ёсць, — вырашыў вясковы пенсіянер. Але аднойчы (са слоў Івана Цімафейчыка) на столі кухні перакрылі трубу ад «буржуйкі», маўляў, каб яе не паліў, а яшчэ Іван Міхайлавіч баіцца, каб наогул не адключылі ацяпленне. Таму і піша пенсіянер ва ўсе інстанцыі, патрабуючы справядлівасці, а таксама таго, чаго ён хоча. А такіх жаданняў і праблем у яго назапасілася вельмі шмат. Вось і едуць у Мадзейкі прадстаўнікі розных арганізацый і чыноўнікі, каб разабрацца з тымі крыўдамі і праблемамі, пра якія пастаянна піша і расказвае гэты вясковы Галілей.

Я неяк хацеў пераканаць пенсіянера, каб ён супакоіўся і жыў як і ўсе ягоныя рахманыя землякі. Але дзе там… Іван Міхайлавіч і слухаць не захацеў. Тым больш што ён выйграў некалькі судовых спраў у мясцовых чыноўнікаў, а на іншых — рыхтуе новыя паперы ў суд.

Але, шчыра кажучы, не пра гэта хацелася напісаць, расказваючы пра Івана Цімафейчыка. Ён наогул вельмі здольны і цярплівы чалавек, а таксама арыгінальны

суразмоўца. Іван Міхайлавіч шмат гадоў збірае ў калекцыю кактусы і камяні. Ён пра іх можа расказваць гадзінамі. Вось каб арганізаваць выставу камянёў з калекцыі вясковага збіральніка, напрыклад, у Слонімскім краязнаўчым музеі. Было б што слонімцам паглядзець. Бо розных камянёў у калекцыі Цімафейчыка вельмі многа. Ёсць нават метэарыты і такія камяні, якім па некалькі мільёнаў гадоў. Ды і кактусаў шмат. Іх у кватэры гаспадара можна ўбачыць усюды.

Пасля нашай гутаркі ў двухпакаёўцы Іван Цімафейчык павёў мяне знаёміць з ягонай вёскай. Нічым яна асаблівым не вылучаецца сярод іншых вёсак. І тут ужо шмат гадоў не працуе лазня, хаця будынак лазні даволі дыхтоўны. За вёскаю вецер гуляе ў былым цялятніку, многія калгасныя пабудовы развальваюцца і расцягваюцца на вачах. Падчас гутаркі з вяскоўцамі высветлілася, што некаторыя з іх нават не ведаюць, да якой гаспадаркі іх вёска сёння адносіцца. Адны кажуць — да кааператыва імя Леніна, другія — да Мічурына, трэція — да «Прагрэса», а чацвёртым — да лямпачкі наогул, куды іх аднеслі і яшчэ аднясуць: сельскім жыхарам ад гэтага не лягчэй.

Нас моцна ўразіў былы, як тут называюць, панскі хутар. Прыгажэйшага месца на Зэльвеншчыне мне не прыходзілася бачыць. Ён знаходзіцца за вёскамі Мадзейкі і Савічы, побач — Аўдзеевічы, Сухінічы. Недалёка ад хутара ўдалося пагутарыць з пенсіянерам Чэславам Каспярцом, які расказаў пра лёс гэтага хутара і яго гаспадароў. Са слоў мясцовага жыхара мне стала вядома, што да прыходу бальшавікоў гэты хутар належаў двум панам. «Аднаго з іх прозвішча было барон Вітарф, а другога — Бальскевіч. Пану Бальскевічу

ўдалося ўцячы ў Варшаву на ўласным аўтамабілі, а вось барона арыштавалі і расстралялі. Але гэта былі добрыя гаспадары, і вельмі прыгожая ў іх была сяліба. Вы ж бачылі, што ад усяго засталося», — уздыхнуў спадар Каспярэц.

Сапраўды, я ўбачыў сумны малюнак ад той панскай прыгажосці. Час і людзі знішчылі ўсё. Засталіся толькі падмуркі, сцены некаторых збудаванняў і дубы. Але многія векавыя дрэвы невядомыя асобы спальваюць з карэнняў, і яны падаюць долу і сохнуць. Здаецца, гэта не дубы, а людзі. Іх тут шмат — паваленых, згарэлых і сухіх. А тыя, што растуць, — нагадваюць пра залаты час гэтага зэльвенскага куточка. Час толькі не знішчыў крынічкі, якая булькоча, і вузкаю рачулкаю бяжыць праз увесь былы панскі хутар. Менавіта яна нагадвае пра вечнасць нашага жыцця і папярэджвае пра тое, што чакае нас яшчэ наперадзе.

*2009*

## «ЛЯТУЧЫ ГАЛАНДЗЕЦ» — НА СЯДЗІБЕ ФЕРМЕРА

На тэрыторыі фермерскай гаспадаркі «Верас», якая знаходзіцца на мяжы Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў, «плавае» драўляны карабель. Фермер Міхаіл Макей сказаў, што гэты «Лятучы галандзец» ён прывёз з Мінску. Яго зрабілі спецыяльна да аднаго мастацкага фільма расіяне. Фільм знялі, а карабель зэльвенскі фермер набыў для сваёй гаспадаркі.

Па словах Міхаіла Францавіча, з цягам часу ён плануе на гэтым караблі ўстанавіць ветразі і адкрыць там

кафэ для наведвальнікаў. Тым больш, што фермерская гаспадарка «Верас» знаходзіцца побач са славутым Сынковіцкім храмам-крэпасцю, помнікам XV стагоддзя. У Сынковічы шмат прыязджае экскурсій, таму людзі змогуць не толькі паглядзець архітэктурны помнік, але і наведаць казачны «Лятучы галандзец».

Карабель сапраўды ўнікальны. Даўжыня яго каля 26 метраў. Паднятыя вёслы, шчыты і дзіды на борце, галовы казачных змеяў — усё гэта надае «Лятучаму галанцу» казачнасці і зачараванасці. Ноччу карабель асвятляецца, і здаецца, што ён сапраўды ўзяў кірунак у сваю гавань. Згодна з легендай, напачатку XVII стагоддзя ў Галандыі адзін капітан па прозвішчы Ван Страатэн пакляўся абмінуць мыс Добрай Надзеі супраць ветру і супраць цячэння. Але стыхія аказалася мацней за чалавека. Сто разоў прыступаў Ван Страатэн да выканання сваёй дзёрзкай задумы, і сто разоў вецер і хвалі адкідалі яго карабель назад. Аслеплены ганарыстасцю капітан не пажадаў змірыцца з паразай. Ён заклікаў на дапамогу самога д’ябла і заявіў, што гатовы ахвяраваць вечнай асалодай, абы дасягнуць намечанай мэты. Д’ябал пачуў фатальныя словы Ван Страатэна. Вецер хутка сціх, хвалі ўлегліся, і карабель галандскага капітана лёгка і вольна абмінуў мыс Добрай Надзеі. Але з таго дня Ван Страатэн быў асуджаны вечна плаваць на сваім караблі па марскіх абшарах без надзеі калі-небудзь дасягнуць гавані. Цяпер казачны «Лятучы галандзец» «дабраўся» да сядзібы зэльвенскага фермера Міхаіла Макея.

*2011*

# ЗМЕСТ

«Мядовы месяц» у Зэльве .............................................. 3
Прэзідэнт з Дабрасельцаў ........................................... 6
На радзіме Васіля Захаркі ........................................... 15
Таямніцы Сынковіцкай царквы ..................................... 19
Па кім плача звон? ......................................................... 25
Каломна каля Алексічаў .............................................. 28
Зэльвенскія карані ........................................................ 29
З жыцця паэта ................................................................ 33
Родам з Шулякоў ........................................................... 35
Зэльвенцы ў свеце .......................................................... 40
Генерал Гампер .............................................................. 44
Янка і Ларыса Геніюшы ................................................ 46
З успамінаў пра Гальяша Леўчыка .............................. 53
Аўтары — маці і сын .................................................... 55
Са званіцы Юркі Геніюша ............................................. 57
«Снуецца з песнямі льняное прадзіва…» ..................... 60
Эпісталярны раман Ларысы Геніюш ............................ 63
Ларыса Геніюш будзіць беларускае сумленне ............... 68
Я прамаўляю слова «Бог» ............................................... 74
Ён любіў нас, як родных дзяцей ..................................... 78
Згадка пра Валянціну Ададураву .................................. 85
Абавязак перад памяццю ................................................ 93
З верай у сілу мастацтва ................................................. 97
Шчырая Ірына Васілеўка ............................................... 100
Узыходжанне зэльвенскага паэта .................................. 102
«Марафон» і «Суседзі па сусвеце»
*Пра кнігі вершаў Уладзіміра Мазго* ............................. 106
Паэтычная Зэльвеншчына ............................................. 112
Моц смаку беларускай кухні .......................................... 115
Пра беларускую кухню, правінцыю і брызгаўку… ....... 118
Беларускія стравы ад Юрыя Качука .............................. 125
Майстар чорнадымленай керамікі ................................ 128
Саламяныя кветкі цвітуць у Галынцы .......................... 132
Усе насякомыя злятаюцца ў «Старую весь» ................. 135
Як пераймяноўвалі Плецянічы на Чырвонае Сяло ........ 139
У Мадзейках жыў барон ................................................. 142
«Лятучы Галандзец» — на сядзібе фермера .................. 145

На першай старонцы вокладкі —
Сынковіцкая царква,
на апошняй —
каломна каля Алексічаў
і герб Зэльвы.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

КРАЯЗНАЎЧЫМІ СЦЕЖКАМІ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

*Артыкулы, гутаркі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Андрэева*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Андрэева*

Падпісана да друку 19.12.2012. Фармат 80×100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 6,85.
Ул.-выд. арк. 4,99.
Наклад 100 ас. Зак. 936.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.